# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК




Журнал ЦК КП(б)Б

№ 4

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЛЮТЫ 1935 г. № 4 (28)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК.*

Выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрас рэдакцыі і выдавецтва МЕНСК, Савецкая 63, тэл. 22412

# Большэвіцкае прывітанне

## УСЕБЕЛАРУСКАМУ З'ЕЗДУ РАБСЕЛЬКОРАЎ

25 лютага 3-ці ўсебеларускі з'езд рабселькораў пачне сваю работу.

400 лепшых прадстаўнікоў арміі рабселькораў Савецкай Беларусі з'едуцца на гэты з'езд, каб падагуліць вопыт сваёй работы і барацьбы за ажыццяўленне сусветна-гістарычных задач нашай партыі і савецкай улады, абмеркаваць задачы і канкрэтныя шляхі далейшай барацьбы большэвіцкага друку БССР і яго рабселькораў за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Разам з велізарным ростам гаспадаркі і соцыялістычнай культуры з кожным годам расце і мацнее большэвіцкі друк Савецкай Беларусі. Ні ў якае параўнанне нельга паставіць тое, што прадстаўляў сабой друк былой Беларусі — калоніі царскага самадзяржаўя, з тым, што прадстаўляе сабой друк Савецкай Беларусі — неадлучнай часткі вялікага Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Некалькі чорнасоценных, манархічных лісткоў, дзесятак чыноўніцкіх і папоўскіх ведамасцей: 6 газет памешчыкаў, купцоў і фабрыкантаў («Голос», «Газета-копейка», «Русское слово», «Епархиальные ведомости» і «Губернския ведомости») у Менску; 4 газеты («Витебский вестник», «Полоцкие епархиальные ведомости», «Губернские ведомости», «Приднепровский край») у Магілеве; 2 газеты («Копейка» і «Полесье») у Гомелі—вось увесь друк дарэволюцыйнай Беларусі.

238 друкаваных газет (не ўлічваючы газет, якія выдаюцца ў Чырвонай арміі), якія выдаюцца на беларускай, рускай, яўрэйскай, польскай, літоўскай мовах, 22 тысячы насценных газет у цэхах і брыгадах фабрык і заводаў, соўгасаў і калгасаў, прамысловых арцелях і навучальных установах — вось друк, створаны комуністычнай партыяй у Савецкай Беларусі — неадлучнай часткі вялікага Савецкага Саюза.

13 рэспубліканскіх, 91 раённая, 61 фабрычна-заводская, 6 чыгуначных, 33 соўгаскіх, 5 дарожных газет, 8 газет у леспрамгасах і на лесасплаве, 7 газет у вышэйшых навучальных установах, газета на водным транспарце, **22.000 нізавых насценных газет**—калектыўныя агітатары, прапагандысты і арганізатары працоўных мас, «самая вострая, самая моцная зброя нашай партыі» ў барацьбе за соцыялізм — рэзультат няўхільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі.

Гэтыя газеты робяцца рукамі найшырэйшых мас рабочых і калгаснікаў. Дзесяткі тысяч рабселькораў — актыў нашых раённых, фабрычных, соўгаскіх і іншых газет. Звыш 66 тысяч членаў рэдкалегій, дзесяткі тысяч насценкораў і вусткораў, лепшых ударнікаў фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў — актыў цэхавых, калгасных



брыгадных насценгазет. Тысячамі ніцей звязана праз іх наша партыя і яе бальшэвіцкі друк з масамі рабочых і калгаснікаў.

З года ў год, з месяца ў месяц узрастае колькасць рабселькораўскіх заметак, пісем працоўных, атрымліваемых нашымі цэнтральнымі, раённымі фабрычна-заводскімі газэтамі. Важнейшыя палітычныя, гаспадарчыя, культурныя пытанні ўзнімаюць рабселькоры ў сваіх заметках.

Наша партыя на ўсіх этапах сваёй гісторыі надавала выключнае значэнне і ўвагу рабселькораўскаму руху. Ва ўмовах глыбокага падполля, у гады чорнай рэакцыі; у гады ўздыму рэволюцыйнага руху; пасля перамогі соцыялістычнай рэволюцыі, у гады грамадзянскай вайны, у гады аднаўлення разбуранай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, у гады разгорнутага наступлення соцыялізма на ўсіх франтах, і зараз — у гады другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства — рабселькоры большэвіцкага друку заўсёды былі лепшымі памочнікамі партыі, мільёнамі ніцей звязваючымі яе з найшырэйшымі масамі працоўных.

Наш большэвіцкі друк, створаны і выхаваны найвялікшымі геніямі чалавецтва — **Леніным і Сталіным,** моцны іменна гэтай арганічнай непарыўнай сувяззю з працоўнымі масамі, ажыццяўляемай праз мільёны рабселькораў.

Большэвіцкі друк і рабселькораўскі рух Савецкага Саюза, створаны і кіруемы нашай партыяй, заўсёды служылі і служыць прыкладам, на якім вучыцца комуністычны друк і рабселькоры ў капіталістычных краінах. І ў гэтым велізарнае інтэрнацыянальнае значэнне рабселькораўскага руху ў СССР.

Амаль 4 гады прайшло з часу 2-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Нязмерна вырас за гэтыя 4 гады наш друк не толькі колькасна, але і якасна. Нашы газеты сталі больш баявымі, канкрэтнымі, больш непрымірымымі да класавага ворага і яго агентуры, глыбей звязаны з масамі працоўных.

Нязмерна выраслі за гэтыя гады і рабселькоры большэвіцкага друку.

**«Рабочых і сельскіх карэспандэнтаў нельга разглядаць толькі, як будучых журналістаў, або заводскіх грамадскіх работнікаў у вузкім сэнсе гэтага слова,** — заявіў т. **СТАЛІН** у гутарцы з работнікам **«Рабочего корреспондента»** ў **1924 годзе, — яны з'яўляюцца, перш за ўсё, аблічыцелямі недачотаў нашай совецкай грамадскасці, барацьбітамі за выкараненне гэтых недачотаў, камандзірамі пролетарскай грамадскай думкі, якія імкнуцца накіраваць невычарпальныя сілы гэтага велізарнейшага фактара на дапамогу партыі, совецкай улады ў цяжкай справе соцыялістычнага будаўніцтва».**

Гэту ролю рабселькораў, вызначаную т. **Сталіным,** рабселькоры Совецкай Беларусі з гонарам апраўдалі. Рабселькоры былі і ёсць барацьбітамі з класавым ворагам, з «недачотамі нашай совецкай грамадскасці», лепшымі памочнікамі партыі і ўлады ў барацьбе за выкананне промфінпланаў нашых соцыялістычных фабрык і заводаў, за соцыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі, за большэвіцкія калгасы, заможнае і культурнае калгаснае жыццё.

Усё гэта вынік таго, што комуністычная партыя большэвікоў Беларусі выключную ўвагу аддае рабселькораўскаму руху, кіруе ім, няўхільна ажыццяўляе ўказанні т. **СТАЛІНА** аб рабоце з рабселькорамі.

Колькі класава - варожых, кулацкіх элементаў, падрываўшых калгаснае будаўніцтва, выкрыты селькорамі, выгнаны з калгасаў і асуджаны пролетарскім судом? Колькі нядбайнікаў, бюракратаў, гультаёў зняты з работы па сігналах рабселькораўскіх заметак? Колькі людзей перавыхаваліся, сталі па-новаму, пасоцыялістычнаму адносіцца да працы і грамадскай уласнасці пад уплывам рабселькораўскіх заметак і асабістага прыкладу рабселькораў? Колькі новых калгасаў арганізавалася, новых гаспадарак уліліся ў існуючыя калгасы, дзякуючы аграмаднай масавай арганізатарскай рабоце нізавых газет і селькораў?

Колькі рабселькораў вырасла на гэтай рабоце, вылучана на адказнейшыя кіруючыя работы?

**«Рабкор - ударнік і арганізатар ударнікаў становіцца цэнтральнай фігурай рабселькораўскага руху, як і рабочыўдарнік стаў цэнтральнай фігурай на вытворчасці.**

**Селькор калгаснік - ударнік і аргані-**

**затар калгаснага руху становіцца цэнтральнай фігурай селькораўскага руху, таму што мільёны калгаснікаў сталі асноўнай і галоўнай апорай совецкай улады на вёсцы».**

(З рэзалюцыі ўсесаюзнай нарады пры «Праўдзе» «Аб кіраўніцтве рабселькораўскім рухам» — 1931 г.).

Вось селькор **Іван Віслаус** з Лышнянскага сельсовета, Капыльскага раёна. Ад першай селькораўскай заметкі да рэдактара калгаснай насценгазеты, старшыні калгаса і, нарэшце, старшыні сельсовета — вось шлях пройдзены т. Віслаусам за 3 гады.

Вось **Сцяпан Шайрка** з калгаса «Бязбожнік», Лёзненскага раёна. Першая селькораўская заметка ў 1931 годзе, рэдактар першай брыгаднай газеты ў калгасе, рэдактар агульнакалгаснай газеты «Ударнік палёў», газеты, якая выкрыла кулакоў Брэмшмітаў, Лазарэнкаў і інш. і дабілася выключэння іх з калгаса, газеты, якая на працягу трох гадоў упарта змагалася за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгаса і дабілася гэтага, комсамольскі арганізатар і адзін з лепшых брыгадзіраў у калгасе—вось шлях селькора Шайркі.

Вось селькор **Владзімір Шадурка** з калгаса «Пуцілавец», Чырвона-Слабодскага раёна—рэдактар лепшай у Чырвона-Слабодскім раёне калгаснай насценгазеты.

Вось рабкор **Столпер** з чырвонасцяжнага завода «Большэвік»—лепшы ўдарнік-зотавец, навучаючы дзесяткі маладых рабочых.

Вось рабкор **Татарскі Іосіф** з фабрыкі імя Кагановіча, прайшоўшы шлях ад радавога рабочага да начальніка цэха, упарта працуючы над сабой і марачы стаць інжынерам.

Рабкоркі **Маня Марозава**—рэдактар лепшай штодзённікі фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», **Елена Норкіна**—брыгадзір сунэльна-зотаўскай брыгады фабрыкі «КІМ» (Віцебск). **Круглова**—брыгадзір лепшай маладзёжнай брыгады фабрыкі імя Клары Цэткін; рабкоры-«выдатнікі» **Лібман, Грыншытэйн, Доўнар** з завода імя Варашылава, **Каган**—рэдактар лепшай штодзённікі фабрыкі «Октябр». Усе гэтыя людзі з гонарам апраўдваюць званне «камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі».

І лепшыя з гэтых лепшых людзей з'едуцца 25 лютага ў сталіцу Совецкай Беларусі на свой трэці з'езд.

Трэці ўсебеларускі з'езд рабселькораў збіраецца ў адказнейшы перыяд. Скончылі сваю работу 11 усебеларускі і 7 усесаюзны з'езды советаў, 2-гі ўсесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў.

Давесці рашэнні гэтых з'ездаў да кожнага рабочага і калгасніка, кожнага працоўнага нашай краіны, стаць, пад кіраўніцтвам партыі, арганізатарамі мас на барацьбу за паспяховае ажыццяўленне гэтых рашэнняў—якая адказная і ганаровая задача для нашага больш-эвіцкага друку, для кожнага рабселькора!

Асабліва ўзрастае зараз роля селькораў. Новы прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, зацверджаны 2-м усесаюзным з'ездам калгаснікаў-ударнікаў, складзены пры актыўным удзеле і пад непасрэдным кіраўніцтвам правадыра партыі і сусветнага пролетарыята—вялікага **Сталіна**, павінен быць даведзен да свядомасці кожнага калгасніка і калгасніцы. За гэту справу з усім уласцівым ім энтузіязмам і напорыстасцю павінны ўзяцца рабселькоры. Арганізаваць масы калгаснікаў і калгасніц на барацьбу за далейшае палітычнае, гаспадарчае і арганізацыйнае ўмацаванне калгасаў, за заможнае культурнае калгаснае жыццё, рушыць уперад справу далейшай калектывізацыі—хто, як не селькоры, перадавікі калгаснай вёскі, будуць лепшымі памочнікамі партыі ў ажыццяўленні гэтых вялікіх задач.

Трэці ўсебеларускі з'езд рабселькораў збіраецца напярэдадні веснавой сяўбы.

«Веснавая сяўба гэтага года павінна быць рэкорднай за ўсе апошнія гады. У гэтым годзе мы павінны зняць такі высокі ўраджай, якога яшчэ не ведала наша вёска. Усе ўмовы для такога ўраджаю ёсць. І ў гэтым заключаецца асаблівасць надыходзячай вясны» **(«Праўда»).**

Выкананне гэтай задачы будзе залежаць ад дакладнейшай падрыхтоўкі да сяўбы, ад ударнай работы на калгасных палях у часе самой сяўбы. У вырашэнні задачы, пастаўленай партыяй—зрабіць сёлетнюю веснавую сяўбу рэкорднай і па тэмпах і па якасці—агромадную ролю павінны адыграць калгасныя насценгазеты і селькоры.

Мала дэтальна, да дробязей праверыць кожны ўчастак падрыхтоўкі да сяўбы, пачынаючы ад насення, інвентару, цягавай сілы, арганізацыі бытавога і культурнага абслугоўвання калгаснікаў на полі, і дабіцца поўнай падрыхтаванасці кожнага калгаса, кожнай брыгады да выхаду ў поле. Селькоры павінны дабіцца правядзення сёлетняй веснавой сяўбы на аснове апошніх дасягненняў соцыялістычнай агратэхнікі. Селькоры павінны быць ініцыятарамі і арганізатарамі агратэхнічнай вучобы ў калгасе, арганізацыі хат-лабараторый і, перш за ўсё, яны павінны самі аўладаць агратэхнікай.

«Для таго, каб рабселькоры маглі мабілізаваць і арганізаваць шырокія масы калгаснікаў і калгасніц на вырашэнне гэтых складаных задач,—сказаў т. **Постышэў**,—яны самі ў першую чаргу павінны залазіць у самыя драбнюткія дэталі агратэхнікі, тэхнікі і арганізацыі калгаснай вытворчасці. Яны—арганізатары калгаснай справы, перадавыя людзі калгаса, а арганізатары калгаснай справы самі ў першую чаргу павінны пасцігнуць гэту тэхніку і арганізацыю. Ваша пяро тады будзе больш вострым, больш упэўненым, і вока больш зоркім. Вы, перадавыя барацьбіты за калгасны лад, арганізатары калгаснай гаспадаркі, павінны разумець гэту гаспадарку, уладаць яе тэхнікай. Веданне тэхнікі і арганізацыі калгаснай гаспадаркі ўзброіць вас і зробіць вашу селькораўскую работу нязмерна пладатворней».

Гэта ўказанне т. **Постышэва** селькоры павінны зрабіць сваёй запаведдзю ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, у барацьбе за ажыццяўленне задач, пастаўленых партыяй, па далейшаму ўздыму і развіццю соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Барацьба за аўладанне соцыялістычнай тэхнікай, за ператварэнне нашых фабрык і заводаў у прадпрыемствы суцэльнай тэхнічнай граматнасці—вось асноўная задача рабкораў прамысловасці. Словы таварыша **СТАЛІНА «Галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай»** павінны стаць асноўнай запаведдзю рабкораў фабрык і заводаў.

Барацьба за паспяховае ажыццяўленне грандыёзнейшых задач партыі і совецкай улады па пабудове ў 2-й пяцігодцы бяскласавага соцыялістычнага грамадства патрабуе ад рабселькораў асаблівага ўзняцця рэволюцыйнай класавай пільнасці.

Забойства т. **Кірава,** выкрытыя ў сувязі з гэтым падпольныя контррэволюцыйныя падонкі контррэволюцыйнай зіноўеўска-троцкісцкай апазіцыі ў Маскве і Ленінградзе, закончыўшыйся судовы працэс над ідэйнымі натхніцелямі і выхаваўцамі гэтых гнусных забойцаў—Зіноўевым, Каменевым, Еўдакімавым і інш. яшчэ і яшчэ раз паказалі, што класавы вораг разбіт, але яшчэ не дабіт да канца.

Тав. **Сталін** на XVII з'ездзе партыі папярэдзіў: «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы к адсталым слаям насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады». Вось чаму,—сказаў тав. Сталін,—рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Рэволюцыйная пільнасць, большэвіцкая непрымірымасць да класавага ворага і яго агентуры павінна быць асноўнай якасцю кожнага рабселькора. Умець распазнаць класавага ворага, пад якой-бы маскай ён ні хаваўся, умець выкрыць усе і ўсякія махінацыі класавага ворага, з усёй рашучасцю і настойлівасцю дабівацца ачышчэння нашых прадпрыемстваў, устаноў, соўгасаў і калгасаў ад класава-варожых людзей, якія часамі яшчэ пралазяць у іх, —гэтыя якасці рабселькоры павінны выхоўваць у сабе і ў масах працоўных.

Трэці ўсебеларускі з'езд рабселькораў яшчэ больш узніме рэволюцыйную пільнасць рабселькораў, іх непрымірымасць у барацьбе з класавым ворагам, узніме энтузіязм рабселькораў у барацьбе за пабудову соцыялізма.

**Гарачае прывітанне лепшым прадстаўнікам рабселькораўскай арміі Совецкай Беларусі.**

«РАБСЕЛЬКОРЫ СТАНОВЯЦЦА ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПАРТЫІ АРГАНІЗАТАРАМІ МАС ДЛЯ СПРАВЫ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА, ВЫКАНАННЯ ВЫТВОРЧЫХ ПЛАНАЎ І РАЗГОРНУТАГА НАСТУПЛЕННЯ НА КЛАСАВЫХ ВОРАГАЎ».

**(З пастановы ЦК ВКП(б).**

# „Я БУДУ ІНЖЭНЕРАМ"

1929—1930 гг. былі цяжкімі гадамі для нашай фабрыкі.

Фабрыка не выконвала праграмы. Навейшыя імпартныя варштаты, устаноўленыя ў цэхах, стаялі без руху. Пасобныя рабочыя, якія прышлі на фабрыку са сваіх саматужных майстэрняў, глядзелі на гэтыя машыны з пагардай, не верылі ў іх работу.

Варштаты ўсё прыбывалі і прыбывалі, цэхі не паспявалі ачысціцца ад тары.

А краіне патрэбен абутак. Задача — аўладаць складанай тэхнікай паўстала ва ўвесь рост.

Я толькі скончыў тады профтэхшколу абутнікаў. Разам з многімі маладымі профшкольцамі прышоў на фабрыку, прыступіў да работы на складаных імпартных варштатах.

У пачатку справа пасоўвалася слаба. Няведанне рабочымі тэхнікі, няведанне машын і варштатаў было галоўнай прычынай дрэннай работы фабрыкі.

Як быць, як наладзіць работу? Гэтыя пытанні хвалявалі мяне і маіх таварышоў. А працаваць хацелася.

Маючы невялікі вопыт рабкораўскай работы яшчэ з профшколы, я ўзяўся за арганізацыю работы друку на фабрыцы. Я разумеў, што друк шмат можа дапамагчы ў паляпшэнні работы фабрыкі.

Наша фабрыка тады яшчэ не мела друкаванай газеты. Выпускаліся насценгазеты ў цэхах. Была і агульна-фабрычная насценгазета. Яны выходзілі вельмі рэдка і, зразумела, не маглі адыграваць ролі аператыўнай бальшавіцкай газеты.

Патрэбна было пачасціць выхад насценных газет, прыцягнуць да ўдзелу ў іх лепшых рабочых. З гэтага я і пачаў.

Былі створаны рабкораўскія пасты ў кожным цэху. Кожны рабкораўскі пост пасля работы інфармаваў рэдкалегію фабрычнай насценгазеты, членам якой я з'яўляўся, аб рабоце цэха. На аснове гэтых інфармацый цэхавыя рэдкалегіі выпускалі бюлетэні-маланкі.

Асноўным зместам нашых маланак былі вытворчыя непаладкі, выкрыццё фактаў дрэнных адносін да абсталявання. Мы ўзялі пад агонь жорсткай крытыкі рабочых, якія з пагардай глядзелі на імпартнае абсталяванне. Нашымі матэрыяламі мы стараліся прымусіць бы-




**«КРАКАДЗІЛ» — сатырычную фото-газету рабочых менскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча выпускае рэдкалегія шматтыражкі «ЧЫРВОНЫ АБУТНІК».**

лых саматужнікаў паважаць і цаніць машыннае абсталяванне, вывучаць тэхніку работы на ім, добра даглядаць свае варштаты.

Асабліва мы сачылі за чысткай машын, за культурнымі адносінамі да каштоўнейшага абсталявання фабрыкі.

Пад уплывам нашых матэрыялаў адміністрацыя фабрыкі прыняла рашэнне аб матэрыяльнай адказнасці рабочых за псаванне машын.

Пад кіраўніцтвам нашай партарганізацыі мы змагаліся за аўладанне навей-

шай тэхнікай абутковай прамысловасці і шмат чаго дабіліся. Фабрыка значна палепшыла сваю работу. Але якасць абутку ўсё яшчэ асталалася слабым месцам нашай работы.

Іменна ў гэты час для мяне стала ясным, што галоўным у рабоце рабкора з'яўляецца не толькі пісаць аб непаладках, а тое, каб рабкор сваім асабістым прыкладам паказваў, як патрэбна адносіцца да соцыялістычнай працы.

Я быў ініцыятарам спаборніцтва вытворчых брыгад на нашай фабрыцы. Памятаю, як шырока ахапіла нашых рабочых хваля арганізацыі вытворчых комун. Гэты энтузіязм рабочых з'явілася асновай усіх нашых далейшых дасягненняў.

Сам я заняўся пытаннямі рацыяналізацыі, унёс шмат прапаноў, за якія атрымаў некалькі прэмій.

Хачу спыніцца толькі на двух маіх прапановах. Першая прапанова зводзіцца да арганізацыі механічнай падачы вады к канвееру і падтрыманню пэўнай яе тэмпературы, што вельмі важна ў абутковай справе. Рэалізацыя маёй прапановы павялічыла прадукцыйнасць працы, значна палепшыла якасць выпускаемай прадукцыі.

Наша канвеерная сістэма работы вызывала некаторую абязлічку ў выкананні паасобных працэсаў. Забракоўвалі бацінак, а назнаць, хто канкрэтны вінаваты ў гэтым, нельга. Нельга было арганізаваць і індывідуальны ўлік выпрацоўкі, адсюль панавала ўраўнілаўка ў сістэме аплаты працы. Усё гэта адбівалася на выкананні вытворчых заданняў і асабліва на якасці прадукцыі.

Я доўга думаў над гэтым і, нарэшце, мне ўдалося знайсці спосаб уліку выпрацоўкі рабочага пры канвеернай сістэме, выявіць канкрэтных носьбітаў браку.

Мая прапанова зводзілася да наступнага. Перш чым паступіць на канвеер, кожная дэталь атрымлівае пэўны нумар. Кожны рабочы мае таксама адзін з гэтых нумароў. Па гэтых нумарах цяпер кыхадзе гатовай прадукцыі можна знайсці канкрэтнага выканаўцу кожнага паасобнага працэса работы.

І гэтая мая прапанова прынята. Работа ў сувязі з гэтым значна палепшылася. Калі раней другі сорт у паасобных брыгадах дасягаў 40-35 проц., то зараз гэтыя брыгады даюць 16-20 проц. другога сорту, а паасобныя брыгады — 9-11 проц. А наш план дапускае 13 проц. сортнасці. Зразумела, гэта не праздел, і мы абавязаны змагацца за яшчэ вышэйшую якасць прадукцыі.

Энтузіязм у рабоце ў мяне выклікае наш друк. Дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў рабоце фабрычнага друку, я і заняўся пытаннямі рацыяналізацыі. Быць рабкорам, гэта значыць быць у першую чаргу актыўным грамадскім работнікам, ударнікам-перадавіком нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Зараз на нашай фабрыцы выпускаецца друкаваная шматтыражка. Па цэхах і брыгадах выпускаюцца многа насценгазет-штодзенак. Фабрыка пачала працаваць многа лепш.

Асноўнае: людзі аўладалі тэхнікай. Рабочы стаў гаспадаром тэхнікі. Гэта — самы выдатнейшы вынік. Вырас і я.

Як рабкора-рацыяналізатара, мяне вылучылі ў аддзел рацыяналізацыі фабрыкі, а зараз я вылучан і працую начальнікам другога пашывачнага цэха.

Мой цэх перадавы на фабрыцы і я, як стары рабкор, абавязваюся зрабіць яго перадавым цэхам абутковых прадпрыемстваў Совецкага Саюза.

Уся мая папярэдняя работа на фабрыцы суправаджалася барацьбой за тэхніку. Профшкола мне дала тэхнічныя веды, але наш агульны рост патрабуе большага.

Без адрыву ад вытворчасці я прайшоў падрыхтоўчы курс для паступлення ў ВТНУ. Скончыў вячэрнія чарцёжна-канструктарскія курсы, а зараз займаюся ў завочным інстытуце па скурана-абутковай прамысловасці.

Спадзяюся, што буду інжынерам.

Гэта дапаможа мне ў маёй рабоце, гэта многа дасць мне ў маёй далейшай дзейнасці, як начальніка цэха.

**
*

Апошнія словы начальнік другога пашывачнага цэха абутковай фабрыкі імя Кагановіча т. **Татарскі** Іосіф Гіршавіч сказаў з асаблівым націскам і гонарам.

Падзякаваўшы за гутарку, вясёлы і радасны Іосіф Гіршавіч пашоў у залу, дзе адкрываўся злёт рабкораў фабрыкі.

**Менск, абутковая фабрыка імя Кагановіча.**

# Ўдарнік калгасных палёў





✶ ✶ ✶ **Сцяпан ШАІРКА** ✶ ✶ ✶

**Рэдактар насценгазеты калгаса «Бязбожнік», Лёзненскага раёна.**

Каля 300 нумароў калгаснай і брыгадных насценгазет ляжыць у маім архіве.

З 1931 г. працую я рэдактарам насценнай газеты—спачатку брыгаднай, за тым агульнакалгаснай. За 4 гады ў мяне накапіўся багаты вопыт работы. А ў пачатку цяжка было: не ведаў, з чаго пачаць, як ставіць пытанні.

Да калгаса я быў батраком, пасвіў чужых кароў. Сям'я жыла бедна. І калі ў 1929 годзе ў сельсовеце арганізаваўся калгас «Бязбожнік», бацька мой першы з сялян вёскі Альшуціна ўступіў у гэты калгас.

Далёка было нам хадзіць на калгасную работу—4 кілометры. Пераехалі ў цэнтр калгаса. Тут я стаў больш прыглядацца да калгаснага жыцця, работы. Спачатку пасвіў скот, затым стаў ездзіць на палявыя работы. Непарадкаў, безгаспадарчасці было ў калгасе многа. І хоць малады я яшчэ быў зусім, а бачыў гэтыя непарадкі. Хацелася іх знішчыць, палепшыць работу ў калгасе, а як гэта зрабіць—не ведаў.

Чытаў я ўжо тады газеты, бачыў селькораўскія заметкі, хацелася і мне напісаць аб справах нашага калгаса. І калі ў 1931 годзе пачала выходзіць у раёне друкаваная газета, я рашыў стаць селькорам.

А пісаць было аб чым. Кулак Старавойтаў украў у калгасе часткі ад машыны, агітаваў калгаснікаў позна выходзіць на работу. Лён гніў у калгасе.

Напісаў я аб гэтым у раённую газету, Праз пяць дзён гляджу надрукавана мая заметка і подпіс пастаўлен С. Шаірка. Сам сабе не верыў я тады: гэта была першая мая заметка. З гэтага часу я наладзіў цесную сувязь з рэдакцыяй. У тым-жа годзе ўступіў і ў комсамол.

★

Арганізавалася ў 2-й брыгадзе насценная газета. Мяне, як комсамольца і селькора, выбралі рэдактарам гэтай газеты.

Няўдалы выпшаў у мяне першы нумар брыгаднай насценкі. Вялікую памылку дапусціў я. А справа была такая. У самы разгар сяўбы змясціў я заметку брыгадзіра Махлаёва. Брыгада павінна была засеяць у той дзень 8 гектараў, а засеяла 6. Махлаёў пісаў, што заданне не выканана таму, што ішоў дождж, што і назаўтра можа быць такое становішча. Гэта дэмабілізавала калгаснікаў.

Тады-ж я атрымаў і першае ўказанне ад рэдактара **«Ленінскага сцяга»** т. Садоўскага. Зразумеў я сваю памылку, выправіў яе. Моцна ўзяўся за наладжванне калгаснай дысцыпліны, парадку ў працы.

Быў тады брыгадзірам у нас Махлаёў. Прышоў аднойчы на работу калгаснік Струкоў, а куды ісці працаваць— не ведае. Звярнуўся да брыгадзіра, а той яму адказвае: «Ідзі вунь да ільну». Прабралі мы за гэта Махлаёва ў газеце, заўважылі яму, што трэба паказаць калгасніку, дзе і што яму трэба рабіць.

Насценгазету мы выпускалі ў абедзенныя перапынкі і вывешвалі на дошцы ў полі.

Неўзабаве выбралі мяне рэдактарам

агульна-калгаснай газеты **«Ударнік палёў»**. Справы ў калгасе былі няважныя, кулацка-варожыя элементы падрывалі калгас з сярэдзіны. «Ударнік палёў» узяўся выкрываць кулацкую работу. Газета выкрыла старшыню калгаса Брэмшміта, які аказаўся кулаком (меў 30 гектараў зямлі, 7 кароў, трымаў батракоў). У калгасе ён шкодзіў «ціхай сапай». Выкрыла загадчыка малочна-таварнай фермы Лісукова—кулака, які загубіў 25 проц. цялят, брыгадзіраў Адама і Янку Наўдзіных, якія пагналі авёс і лён, кладаўшчыка Лазарэнка—п'яніцу, раскрадваўшага калгаснае дабро. Рэдкалегія дабілася выключэння гэтых шкоднікаў з калгаса.



Здавалася мне, што насценгазета добра працуе. Але памыляўся. Два гады быў калгас у глыбокім прарыве: гніў хлеб на полі, лён. Зайшла раз аб гэтым гутарка ў рэдакцыі раённай газеты. Спрачаўся я з рэдактарам газеты т. **Мінчуковым**, даказваў яму, што добрая ў нас насценгазета. А Мінчукоў мне гаворыць: «Не, Шаўрка, адстае калгас, значыць, дрэнная і газета. Там, дзе добра працуе газета, і калгас добры». Пакрыўдзіўся я тады, але згадзіўся. Усхваляваны прышоў я з рэдакцыі ў калгас, сабраў сваіх селькораў, расказаў ім пра гутарку з т. Мінчуковым. Парашылі моцна ўзяцца за работу.

Сабралі мы нарады па брыгадах. Выкрылі, што старшыня калгаса Пукаў—п'яніца, раскрадвае калгаснае дабро. Дабіліся зняцця яго з работы. Далі нам моцнага старшыню, комуніста-селькора т. **Кабанава**. З дапамогай комсамольцаў, селькораў, усяго калгаснага актыва пачалі выцягваць калгас, выводзіць яго ў перадавыя.



Наш калгас ільнаводчы. І таму на лён мы звярнулі асаблівую ўвагу. З нумара ў нумар газета асвятляла ход сяўбы ільну. Паказаліся ўсходы ільну, пачалі гаварыць аб праполцы. Задоўга да праполкі газета загаварыла аб падрыхтоўцы прылад, аб звеннях праполыпчыц. Па ініцыятыве рэдкалегіі сабралі сход калгасніц. Лепшая селькорка—50-гадовая **Махлаёва Аксіння** заявіла на сходзе: «Гуртам працаваць дрэнна. Трэба разбіць праполыпчыц на звенні, арганізаваць спаборніцтва звенняў». Тут-жа разбіліся на два звяны. Звеннявымі выбралі **Махлаёву і Беўшын**. Умовамі спаборніцтва вызначылі: выходзіць на работу ў 5 гадзін раніцы, працаваць да цямна. На абед—2 гадзіны. Норму ў 0,25 гектара не толькі выконваць, але і перавыконваць. Палоць чыста, не пакідаючы ніводнай травінкі.



Пачалася праполка. Ледзь золак вышла на работу звяно селькоркі Махлаёвай. Паглядзелі, Беўшын з яе звяном яшчэ няма, спазнілася амаль на гадзіну.

Увечары, пасля абмеру прапалатай плошчы, рэдкалегія выпусціла насценгазету. Вялікімі літарамі была напісана «Дошка тэмпаў». Звяно селькоркі Махлаёвай перавыканала норму, дало 1,08 га. замест 1 га. Звяно Беўшын цягнецца ў хвасце: замест 1 га прапалола 0,40 га. Ударніца Махлаёва ў кароценькай заметцы расказала, чаму яе звяно перавыканала норму.

Групу Беўшын рэдкалегія рашыла занесці на чорную дошку, якая прыбіта ля самай дарогі.

На другі дзень звяно Махлаёвай зноў перавыканала норму, дало па 0,28 га на прапольшчыцу. Звяно Беўшын дало толькі 0,18 га.

24 мая склікалі вытворчую нараду, падвялі папярэднія вынікі спаборніцтва. Беўшын дала слова, што адставаць больш не будзе. І 25 мая звяно Беўшын дало ўжо па 0,25 га на чалавека, селькорка Гурко—0,27 га. Але Махлаёва ўсё-ж апярэдзіла. Яе жанчыны прапалолі па 0,31 га. На брыгадным сходзе Махлаёвай перадалі чырвоны сцяг. Рагожны сцяг уручылі Арцем'евай.

«Бач, вунь палае чырвоны сцяг — гаварылі калгасніцы.—Наша Махлаёва не падвядзе. Яна спрытная, нібы маладая. А вось з Арцем'евай, атрымаўшай рагожны сцяг, ніхто гуляць не будзе».

Падцягнулася Арцем'ева, падцягнулася звяно Беўшын. Не даваў веры старшыня калгаса, калі яму заявілі, што звяно Беўшын вышла ў перадавыя, дало па 0,36 на прапольшчыцу.

30 мая скончылі першую праполку ільну. Правялі і другую праполку. За-

тое і лён вырас добры. Своечасова ўбралі яго, апрацавалі, своечасова здалі дзяржаве, нават перавыканалі план здачы.

★

Не толькі за лён змагалася газета. Летась, з выпускам пазыкі другога года другой пяцігодкі мы моцна ўзяліся за рэалізацыю пазыкі ў калгасе. Перш чым агітаваць калгаснікаў, усе члены рэдкалегіі і селькоры Кабанаў, Струкаў, Шмелева і інш. падпісаліся на пазыку па 50 руб. кожны. Затым выпусцілі спецыяльны нумар насценгазеты. Правялі падворны абход усіх калгаснікаў, некалькі сходаў. У выніку калгаснікі падпісаліся на 4.000 руб.

За ўзорнае правядзенне работы па рэалізацыі пазыкі мяне прэміравалі граматай Наркамфіна і 75 рублямі.

Змагалася газета і за своечасовае выкананне ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай. І ў тым, што калгас з поспехам правёў уборку, нарыхтоўкі хлеба і бульбы, здачу ільну дзяржаве, выканаў ужо 60 проц. плана мясапаставак 1935 года, перавыканаў план паставак малака, прадаў дзяржаве 13 тон лішкаў хлеба і 20 тон бульбы,—немалая заслуга калгаснай і брыгадных газет і селькораў.

★

І з жывёлагадоўляй зараз у калгасе надрэнна. Знізіўся адыход маладняка. Замест 160 парасят маем 180. 100 парасят раздалі калгаснікам. Надзялілі цялкамі ўсіх бескароўных. Зараз былыя батракі **Крылова, Краўцэр** і інш. маюць кароў. Тут сказалася арганізатарская, гаспадарчая рука новага старшыні калгаса, комуніста-селькора Кабанава. Актыўна дапамаглі яму селькоры, выкрываючы шкоднікаў на ферме, безгаспадарчасць, дрэнныя адносіны да жывёлы.

Летась у нас жарабяты былі даручаны Аляксееву, які давёў іх да таго, што яны сталі падобны на шкілеты. Газета выкрыла кулацкую работу Аляксеева і дабілася, што праз тры дні жарабят ад яго забралі.

Цялят даглядала Аляксеева. Яны сталі худзець, гінуць. Газета дабілася, што Аляксееву знялі з гэтай работы.

Класавы вораг яшчэ і летась шкодзіў на асобных участках работы. Газета ў мінулым годзе выкрыла кулака Аболіна, які прабраўся на пасаду брыгадзіра, арганізаваў групу зладзеяў і ўкраў з кладоўкі 100 пудоў зерна. Газета патрабавала суровага суда над Аболіным. Праз тры дні кулак Аболін быў асуджан на 10 год пазбаўлення волі.

Зусім нядаўна газета выкрыла дзяка **Аляксеева**, які пралез у калгас і, сам не выходзячы на работу, агітаваў калгаснікаў сарваць падрыхтоўкі да вясны. Пасля выступлення газеты Аляксеева выключылі з калгаса.

★

Так змагалася газета і яе селькоры за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгаса.

Зараз уся ўвага газеты і селькораў, як і праўлення калгаса, звернута на падрыхтоўку да сяўбы. Мы не толькі пішам у калгаснай і брыгадных насценгазетах аб падрыхтоўцы да вясны. Рэдкалегія праводзіць вялікую арганізатарскую работу. Так, за апошні час мы правялі **тры селькораўскія рэйды:** па праверцы аховы калгаснай маёмасці, праверцы насенных фондаў і рэйд праверкі догляду каня. Па матэрыялах рэйдавых брыгад знят з работы вартаўнік **Тураўскі**, які спаў на пасту.

Па ініцыятыве насценгазеты 3-яй брыгады (рэдактар т. **Піменава**) селькоры разгарнулі збор попелу. Сабралі ўжо тры тоны.

Падрыхтаваць да вясны сытага, моцнага каня—такую задачу паставілі мы перад калгаснікамі. Па ініцыятыве газеты праўленне калгаса абвясціла **конкурс на лепшага конюха**, вылучыла для прэміравання лепшых конюхаў 300 руб. «Ударнік палёў» з нумара ў нумар асвятляе ход конкурса, падаецца абмен вопытам работы конюхаў. Лепшы конюх-селькор **Трапашкін** ужо прэміраван 50 руб.

Конюхі сталі лепш працаваць. І коні ў нас зараз сярэдняй упітанасці. Калгас амаль поўнасцю гатоў ужо да сяўбы.

Зараз я арганізаваў у калгасе калектыўнае чытанне мастацкай літаратуры. Канчаем ужо «Поднятую целину» **Шолахава.** Актыўны ўдзел у чытанні прымаюць селькоры.

4 газеты выходзяць у нас зараз у калгасе: агульнакалгасная «Ўдарнік палёў» выходзіць раз у 5 дзён і тры брыгадныя выходзяць праз дзень. Думаем зараз арганізаваць газету на жывёлагадоўчай ферме. 32 селькоры згрупаваны вакол газет. 20 з іх самі пішуць, а 12 вусныя селькоры.

Рэдактароў і членаў рэдкалегій брыгадных газет я часта збіраю, намячаю з імі план работы, даю ўказанні. Збіраю і нарады селькораў, гутару з імі. За апошнія два месяцы збіраў іх некалькі раз—і па пытанню падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, і перад правядзеннем рэйдаў.

І трэба сказаць, актыў у газеты някрэпны: селькоры **Струкоў, Піменава, Раўгуль, Царэнка, Брык, Свечкін, Гурко, Кабамаў, Версан**—на іх «Ударнік палёў» апіраецца ў сваёй рабоце. У рэдкалегіі ў мяне большасць комсамольцаў, маладых ударнікаў. Любяць яны гэту работу.

Увосень газета калгаса «Спаборнік» апярэдзіла нашу. Не спаў я тады ночы, хваляваўся. Сабраў я селькораў, расказаў ім, як стаяць справы. «Нельга нам адставаць»—заявілі селькоры і далі слова дабіцца, каб наша газета была лепшай у раёне. І селькоры сваё слова стрымалі: мы зноў апярэдзілі газету «Спаборнік».

Нядаўна праўленне калгаса прэміравала лепшых селькораў: Піменаву 20 рублямі, Версана і Царэнку—па 15 руб., мяне прэміравалі 20 рублямі.

***

Некалькі слоў аб сабе. Я не толькі рэдактар насценгазеты. Я яшчэ комсамольскі арганізатар у калгасе. Нядаўна, з месяц назад, мяне вылучылі брыгадзірам 1-й брыгады. У падрыхтоўцы да сяўбы мая брыгада выйшла перадавой.

Работа як рэдактара і комсамольскага арганізатара не перашкаджае мне ўдарна працаваць у калгасе. За 1934 год я выпрацаваў 451 працадзень.

За добрую селькораўскую работу мяне 6 раз прэміравалі.

Зараз я займаюся ў завочным інстытуце журналістыкі БССР з тым, каб пад кіраўніцтвам партыі яшчэ лепш працаваць, лепш арганізоўваць селькораў на барацьбу за большэвіцкі калгас за заможнае калгаснае жыццё.

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Гэтымі днямі рэдакцыя «Большэвіцкага друку» атрымала ад т. Шаіркі пісьмо аб зажыме самакрытыкі ў Лёзненскіх раённых арганізацыях, аб беспадстаўным выключэнні яго з комсамола.**

**Матэрыялы праверкі гэтай справы будуць змешчаны ў наступным нумары.**

***

«Ударнік палёў» — насценная газета калгаса «Бязбожнік»; Лёзненскага раёна.






# Вучыцца сам і другіх вучыць

Сартаванне выпрацаванай прадукцыі на скураных заводах лічыцца адказнейшай работай. Ад правільнага сартавання залежыць якасць прадукцыі абутковай прамысловасці.

Бываюць скуры на выгляд як быццам няпрэнныя, мяккія, але мала эластычныя, мала пражыраваныя. У выніку — брак, пашыты з гэтай скуры абутак трэскаецца.

Ад сартавальшчыкаў ва многім залежыць якасць будучай прадукцыі, прызначанай для шырокага спажывання працоўнымі. Сартавальшчык павінен уладаць тэхнікай сваёй работы.

Эластычнасць, добрая прадубленасць, нармальная пражыраванасць, мяккасць — усё гэта абавязковыя паказальнікі якасці скур. Дзіркі, драпіны, прэласць, выхваты машын — гэта паказальнік браку, нізкай сортнасці.

Аўладаць тэхнікай сартавання справа нялёгкая. Патрэбна ўважлівасць, аддананасць справе, веданне тэхналагічнага працэса апрацоўкі скур, дэтальнае веданне правіл дзяржаўнай стандартызацыі.

Зайдзіце на скурзавод **«Большэвік»**. Запытайце любога рабочага ці служачага, хто на заводзе лепшы сартавальшчык, ізотавец сваёй справы.

Вам адразу адкажуць: таварыш **Столпер.**

Рабкор-ізотавец Столпер—лепшы сартавальшчык, майстар сваёй справы.

Таварыш Столпер 29 гадоў працуе па скуранай справе. 13 год ён бесперапынна працуе на чырвонасцяжным заводзе «Большэвік». Рабкор-ізотавец Столпер аўладаў усімі працэсамі скуранай вытворчасці.

Яго вочы, яго рукі ніколі не памыляюцца ў вызначэнні сортнасці любой скуры.



**Тав. Столпер**

«Званне рабкора, — гаворыць тав. Столпер, — абавязвае вельмі да многага. І я выкарыстоўваю сілу большэвіцкага друку для арганізацыі культурнай работы на прадпрыемстве».

Ні адзін факт з вытворчага жыцця не праходзіць міма яго ўвагі. Шмат вытворчых непаладкаў было і ёсць на заводзе. Тав. Столпер з усёй рашучасцю выкрывае носьбітаў гэтых непаладкаў. Кожнае ўзнятае пытанне на старонках заводскай газеты, сваёй цэхавай штодзенкі ён праводзіць у жыццё.

Яго заметкі, змешчаныя на старонках цэхавай і брыгаднай насценгазет і шматтыражкі, прасякнуты любоўю і павагай да ўдарнікаў, да носьбітаў культуры ў рабоце, прасякнуты пагардай да дэзарганізатараў соцыялістычнай вытворчасці.

Рост завода пацягнуў за сабой і рост рабочага калектыва. Рабочы калектыў рос за лік некваліфікаваных рабочых. Рабкор Столпер самааддана вучыў маладых рабочых працаваць.

Тав. Дубровіч і Ароцкер нядаўна прыйшлі на завод. Кваліфікацыі ў іх не было ніякай.

Тав. Столпер узяў іх пад свой нагляд.

Навучыць іх культуры работы сартавальшчыка — вось задача, пастаўленая т. Столперам.

«Мой метад іх навучання, — расказвае тав. Столпер, — зусім просты. У пачатку яны працавалі пры мне, прыглядаліся да маёй работы. Я іх пазнаёміў з усімі сакрэтамі сартавання. Паказваў ім малейшыя адзнакі браку. Азнаёміў іх з тэхнічнымі пытаннямі апрацоўкі скуры, з дзяржаўнымі законамі

стандартызацыі. Калі ўбачыў, што хлопцы трохі аўладалі справай, я іх паставіў на самастойную работу. Уважліва сачыў за іх работай, кожную памылку выпраўляў. І зараз Дубровіч і Ароцкер нядрэнныя сартавальшчыкі».

У гэтых простых словах перадана ўся сутнасць практычнай работы тав. Столпера.

Рабкор-ізотавец тав. Столпер — актыўны грамадскі работнік. Ён некалькі раз выбіраецца ў члены Менгорсовета, добрасумленна выконвае ўсе даручэнні секцыі рэволюцыйнай законнасці, членам якой ён з'яўляецца.

Тав. Столпер прымае ўдзел у рабоце раду камісій заўкома па паляпшэнню бытавых умоў рабочых. Апошняй яго работай была праверка выканання дагавароў з жактамі па рамонту кватэр рабочых. Усе гэтыя пытанні тав. Столпер асвятляе праз друк.

Столпер, як рабкор, грамадскі работнік, не спыняецца на дасягнутым. Ён увесь свой вольны час аддае вучобе, самаадукацыі. Ён займаецца ў соўпартшколе, акуратна чытае газеты і журнал **«Голос кожевника»**.

Тав. Столпер можа паслужыць прыкладам для многіх рабкораў-ударнікаў, прыкладам рабкора, беззаветна адданага справе нашай партыі, справе барацьбы за якасць работы нашай соцыялістычнай прамысловасці, справе выхавання самага выдатнага ў нашай краіне — людзей.

**Менск, завод «Большэвік».**

**Я. Э.**

# Аб чым я раскажу з'езду

* * * **Раман МУХА** * * *

Я еду ў сталіцу Беларусі — Менск, на ўсебеларускі з'езд рабселькораў. Пачуццё бязмежнай радасці напаўняе маё сэрца. Я ганарюся: ад нашага-ж Мазырскага раёна выбралі на з'езд толькі пяць дэлегатаў.

Калі мяне выбіралі на з'езд, калгаснікі нашага калгаса «Культура» далі мне наказ: падрабязна расказаць з'езду аб рабоце насценгазеты і селькораў нашага калгаса, а таксама ўважліва слухаць і запомніць, аб чым будуць гаварыць нашы кіраўнікі і дэлегаты з іншых раёнаў. Аб гэтым я па прыездзе са з'езда павінен расказаць нашым селькорам і калгаснікам.

Наказ нашых селькораў я абавязваюся выканаць поўнасцю. Тут-жа хачу спыніцца толькі на некаторых фактах з нашай работы.

Раскажу аб тым, як уплывае насценгазета на выхаванне і выпрошчванне людзей. У нас у калгасе быў такі факт. Вясной мінулага года насценгазета **«Ўдарнік»** моцна змагалася за тое, каб калгас атрымаў першынства ў сельсовеце па сяўбе. У спаборніцтва ўключыліся многія калгаснікі. Але ў гэты-ж час было заўважана некалькі фактаў, калі асобныя калгаснікі дрэнна адносіліся да коней.

Калгаснік **Пасюк Пётр** аднаго разу дрэнна прыладзіў вупраж і абрэзаў каня. Мы гэты факт шырока апісалі ў насценгазеце, не пашкадавалі моцных слоў для ацэнкі ўчынка Пасюка. Здорава тады дасталося Пасюку і ад калгаснікаў.

І вось прайшло з таго часу менш года. Мы сачылі за паводзінамі Пасюка, прыглядаліся да яго работы. Чалавек мяняўся проста на вачах. З таго часу больш не наглядалася, каб ён дрэнна і няўважліва адносіўся да каня. Наадварот, яго конь быў узорам для другіх, заўсёды накормлены, чысты, збруя падагнана, спраўная, нідзе ні аднаго вузла. Пятро Пасюк перакапаўся ў тым велізарным значэнні, якое мае конь у калгасе. Ён палюбіў каня. Многія бачылі, як вечарамі пасля работы Пятро яшчэ гадзіну аставаўся на канюшні, каб паглядзець, як кормяць яго каня.

І калі цяпер нам трэба было высунуць старшага конюха, калгаснікі адразу прапанавалі Пасюка. Цяпер Пятро Пасюк у нас старшым конюхам, і трэба сказаць, што ў яго конюхі другіх

калгасаў могуць многаму навучыцца. Аб чым гаворыць гэты факт? Аб тым, як перавыхоўваюцца людзі ў калгасе, як ўчарашні аднаасобнік, прынёсшы з сабой у калгас звычкі абывакіх адносін да грамадскай уласнасці, пад уплывам калектыва робіцца зусім другім чалавекам. Лічу, што наша насценгазета ў гэтым адыгрывае не апошнюю ролю.

Хачу адзначыць тое, што ў нас у калгасе прыкладна пастаўлена рэагаванне на сігналы насценгазеты. Кожную заметку, па якой трэба прыняць меры, праўленне разглядае адразу пасля выхаду нумара насценгазеты. У газеце мы завялі спецыяльны аддзельчык «Па слядах заметак селькораў», у якім друкуем паведамленні аб прынятых па заметках мерах.

У нашу насценгазету пішуць лепшыя калгаснікі-ўдарнікі. Вось некаторыя з нашых селькораў.

Актыўна прымае ўдзел у насценгазеце брыгадзір другой брыгады **Несцер Харлам**. І на рабоце ён паказвае прыклад іншым. Яго брыгада на першым месцы ў калгасе.

Загадчык малочна-таварнай фермы **Еўдакім Харлам** таксама адзін з лепшых селькораў насценгазеты. Пра яго прыкладную работу на ферме ведаюць далёка за нашым калгасам. Кароўнік утрымліваецца ва ўзорнай чыстаце. Каровы чыстыя, на ферме дакладны распарадак. Тав. Харлам нядаўна сам зрабіў для кароў радзільны станок. Гэтае новаўвядзенне цяпер пераймаюць у нас суседнія калгасы.

У насценгазеце прымаюць удзел яшчэ каля 15 калгаснікаў. Гэта не лічачы вусных селькораў, а іх у нас набярэцца яшчэ больш. З вуснымі селькорамі мы вядзем адпаведную работу, і некаторыя з іх пачалі ўжо самі пісаць заметкі.

Я, як рэдактар насценгазеты, многа часу аддаю сваёй вучобе. Выпісваю і чытаю журналы **«Раокресткор»** і **«Селькор»**. Нядаўна з палітаддзельскай газеты пачаў атрымліваць кніжкі, выданыя «Крестьянской газетой» у дапамогу завочнай селькораўскай вучобе. Гэтыя кніжкі вельмі карысныя. Я раю ўсім рэдактарам насценгазет паступіць на завочныя курсы «Крестьянской газеты».

З кніжак «Крестьянской газеты» я атрымаў многа каштоўных парад, як лепш паставіць работу насценгазеты. Між іншым выкарыстаў параду пісаць у насценгазеце пра важнейшыя падзеі ў Саюзе і за мяжой. Цяпер у кожным нумары «Ударніка» вы знойдзеце аддзел **«Што новага ў СССР і за мяжой»**. Матэрыял для гэтага аддзела бяру з цэнтральных газет.

Адно дрэнна: сам то я вучуся, але не арганізаваў, каб вучыліся астатнія нашы селькоры. Гэтай справе цяпер аддам асаблівую ўвагу. Кніжкі «Крестьянской газеты» будзем прапрацоўваць на гуртку членаў рэдкалегіі і селькораў.

**КАЛГАС «КУЛЬТУРА», ДАМАНАВІЦКАГА СЕЛЬСОВЕТА, МАЗЫРШЧЫНА.**





Рэдкалегія насценгазеты калгаса імя Красіна (злева) і рэдкалегія насценгазеты калгаса «Ільіч» (справа) спаборнічаюць на лепшую работу насценгазет па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы.

# Селькор Іван Віслаус апраўдаў давер'е калгаснікаў

✱ ✱ ✱ В. Віткін, Р. Сімховіч ✱ ✱ ✱

Старшыня **Ляшнянскага сельсовета** (Капыльскі раён) т. **Віслаус** зусім малады. Яму 24 гады. Зусім нядаўна, у 1932 годзе, ён быў яшчэ вучнем сямігодкі. Але за 2 гады пасля сканчэння сямігодкі Іван Віслаус прайшоў багаты шлях ад радавога калгасніка да старшыні калгаса, а затым і старшыні сельсовета.

У калгасе **«Прагрэс»** т. **Віслаус** быў адным з лепшых ударнікаў-селькораў, рэдактарам калгаснай насценнай газеты. Любоўна працаваў ён над кожным нумарам газеты, над кожнай селькораўскай заметкай. Калгасная насценка вяла ўпартую барацьбу з усімі недахопамі ў рабоце калгаса, з безгаспадарчасцю, з гультаямі, выкрывала класава-варожых людзей, якія прабраліся ў калгас. Паказваліся ў газеце і лепшыя ўзоры работы. Насценка вучыла калгаснікаў, як трэба працаваць, як гаспадарча і арганізацыйна ўмацоўваць калгас, выхоўваць у калгаснікаў соцыялістычныя адносіны да працы, да грамадскай уласнасці.

Рэдактара насценкі тав. Віслауса турбавала кожная дробязь, кожны недахоп у калгасе. Наладзіць работу ў калгасе — стала яго галоўным імкненнем. І з гэтай мэтай ён пісаў не толькі ў сваю насценку, але і ў раённую газету **«Калгаснік Капыльшчыны»**. Але ніколі ён не абмяжоўваўся тым, каб толькі сігналізаваць аб недахопах. Ён арганізоўваў калгаснікаў на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгаса, сваёй работай паказваў прыклад сумленнай калгаснай працы.

І калгаснікі калгаса «Прагрэс» выбралі рэдактара калгаснай газеты тав. Віслауса старшынёй свайго калгаса. **Тав. Віслаус апраўдаў давер'е калгаснікаў. Калгас «Прагрэс» стаў адным з перадавых калгасаў у раёне.**

Побач з калгасам «Прагрэс» знаходзіцца калгас імя Ульянава. Гэта самы прарыўны калгас у сельсовеце. І



**Тав. ВІСЛАУС, старшыня Ляшнянскага сельсовета Капыльскага раёна, селькор-ударнік, дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў.**

тав. Віслауса, як добрага арганізатара і кіраўніка калгаснай вытворчасці, у 1934 годзе накіроўваюць старшынёй калгаса імя Ульянава. Тав. Віслаус разумеў, што адзін ён нічога не зробіць, не выцягне калгас з прарыву. Ён бярэцца за стварэнне моцнага калгаснага актыва, ачышчэнне праўлення калгаса ад людзей, перашкаджаўшых працаваць.

«Каб правільна кіраваць, трэба ведаць людзей, ведаць з кім працуеш» — гаворыць тав. Віслаус. А ў вывучэнні, выхаванні і згуртаванні людзей няма лепшага памочніка, чым газета. І ён актыўна дапамагае наладзіць работу калгаснай насценгазеты, піша ў насценную і раённую газеты.

Заўважыў аднойчы тав. Віслаус, што машыніст несумленна адносіцца да работы на малатарні. Як старшыня калгаса падцягнуў яго. Але гэтага мала. Трэба перавыхоўваць чалавека, дапамагчы

яму папраўіцца, на яго прыкладзе выхоўваць астатніх калгаснікаў. Лепшым сродкам для гэтага з'яўляецца друк. І тав. Віслаус піша пра гэтага машыніста ў «Калгаснік Капыльшчыны», у калгасную насценку, даводзіць, што ў дрэннай рабоце вінавата не малатарня, а людзі, што працуюць на ёй.

Падкулачнікі **Жылка** і **Каленчыц** падрываюць работу калгаса. Іх выключаюць з калгаса. Група евангелістаў вядзе работу па падрыву калгаснага будаўніцтва. Тав. Віслаус выкрывае гэту групу. Праз сваю калгасную насценку ён на фактах падрыўной работы евангелістаў, падкулачнікаў Каленчыца і Жылкі мабілізуе калгаснікаў на ўзняцце класавай пільнасці, на бязлітасную барацьбу з класава-варожымі элементамі.

Надыходзіла веснавая сяўба 1934 г. У калгасе не хапала насення. Тав. Віслаус праз газету мабілізуе ўсю грамадскасць калгаса на набыццё насення, не супакойваецца да таго часу, пакуль калгас поўнасцю не забяспечан насенным матэрыялам.

Запягваецца рамонт інвентару, і т. Віслаус пры дапамозе газеты арганізуе ў калгасе рамонтную майстэрню.

Калгаснікі павінны аўладаць соцыялістычнай агратэхнікай. І тав. Віслаус завербаваў 52 калгаснікаў на завочныя агратэхнічныя курсы пры газеце **«Калгаснік Беларусі»**.

Мала адной агульнакалгаснай насценгазеты. Ён дапамагае арганізаваць газеты ў брыгадах, на калгаснай канюшні.

Калгас імя Ульянава з адстаючых вышаў у перадавыя. Размеркаванне ўраджаю паказала, што калгас цвёрда ідзе па шляху да заможнага жыцця.

У калгаснай насценгазеце тав. Віслаус паказвае, што даў калгас бедняку **Каленчыцу Сцяпану,** які ў мінулым са свайго ўраджаю ніколі не меў хлеба больш чым на 2—3 месяцы. А ў калгасе Каленчыц атрымаў столькі хлеба, што яму хопіць на ўвесь год. Гэты паказ пераканаў многіх аднаасобнікаў у перавазе калгаснага ладу, і ў праўленне сталі паступаць заявы аднаасобнікаў аб уступленні ў калгас.

«Рабселькор цяпер ужо не можа абмежавацца тым, што ён бярэ пад абстрэл свайго пяра ход выканання тых ці іншых рашэнняў партыі і ўрада. На даным этапе рабселькор, як перадавік у радах барацьбітоў, павінен быць арганізатарам барацьбы за выкананне гэтых рашэнняў, даючы сваімі адносінамі да работы ўзоры працоўнага гераізма»— гэта ўказанне тав. **Постышэва** тав. Віслаус праводзіць у сваёй практычнай рабоце.

І за гэта любяць і паважаюць калгаснікі тав. Віслауса. За гэта яны выбралі яго старшынёй Ляшнянскага сельсовета.

Зусім нядаўна прыступіў ён да сваёй новай работы, а ўжо ёсць чаму ў яго павучыцца. У сельсовеце абвешчан конкурс на лепшую падрыхтоўку калгасаў да сяўбы, выдзелен фонд для прэміравання лепшых калгасаў. Процант калектывізацыі ў сельсовеце ўзняўся з 72 да 80.

Новы старшыня сельсовета намеціў план і культурнага паходу. У першую чаргу ён узяўся за канцэлярыю сельсовета, за тое, каб зрабіць яе ўзорам культурнай совецкай установы. Ужо прыведзен у парадак габінет старшыні, габінет ЗАГС'а. Чыста стала і ў астатніх пакоях.

Надзвычай вырас за 2 гады селькор Віслаус. Недарма на раённым злёце рабселькораў Капыльшчыны яго аднагалосна выбралі дэлегатам III усебеларускага з'езда рабселькораў.

«Я чытаю «Праўду», вывучаю рашэнні нашай партыі, ведаю задачы, якія стаяць перад намі, — гаворыць тав. Віслаус.—З'езд рабселькораў Совецкай Беларусі навучыць мяне, як арганізаваць маю работу, як селькора, работу нізавога друку ў сельсовеце, навучыць метадам гэтай работы, а ў гэтых адносінах мне трэба яшчэ многаму вучыцца. І тады, у гэтым я ўпэўнен, мой сельсовет будзе перадавым у раёне».

# Кім стаў былы батрак Владзімір Амяльковіч

Калі вы папросіце селькора Чырвонаслабодскай райгазеты **Амяльковіча Владзіміра Фёдаравіча** расказаць пра сваё жыццё, ён абавязкова пачне з таго, як ён стаў селькорам, не забудзе ўпамянуць і пра сваё дзяцінства. А дзяцінства яго было непрыглядпае. Бацькі да Октябрскай рэволюцыі працавалі ў памешчыкаў, сам Амяльковіч Владзімір з 8-мігадовага ўзросту пашоў батрачыць. Кулакі Рымашэўскі, Ліннік, Уздрок, Валатковіч прымушалі працаваць ад цямна да цямна, бязлітасна яго эксплаатавалі. Так праходзілі гады.



Наступіў год вялікага пералому. І награбленае кулакамі Рымашэўскімі, Ліннікамі, Уздрок, Валатковічамі і інш. багацце стала воляй мільёнаў пераходзіць у рукі працоўных, у рукі арганізаваных калгасаў. Усё гэта праходзіла на вачах Амяльковіча, які бачыў, што такія-ж батракі, як і ён, раскулачваюць былых сваіх гаспадароў, становяцца самі гаспадарамі іх маемасці. Усё гэта выхоўвала яго. І калі ён раней ненавідзеў маемасць, ствараемую такімі-ж батракамі, як ён сам, але належачую кулакам, то зараз гэта-ж маемасць, перададзеная калгасам, стала для яго сваёй, змяніліся яго адносіны да яе.

У 1929 г. амаль няграматны батрак Амяльковіч пасылаецца ў жылліцкую сельскагаспадарчую школу, Бабруйскага раёна, дзе ён вучыцца два з палавай гады. Школа была ў соўгасе Жылічы, дзе было многа бесгаспадарчасці.

— Калі я працаваў батраком,—кажа тав. Амяльковіч, — я радаваўся, калі псавалася маемасць кулака. Калі-ж я ўбачыў, што псуецца соўгасная маемасць, наша соцыялістычная маемасць, маемасць працоўных, у тым ліку і мая, я не мог прайсці міма гэтага і адразу-ж стаў змагацца за ахову соцыялістычнай маемасці, змагацца за выкананне соўгасам плана.

— Я задумаўся над тым, як лепш змагацца за добрую пастаноўку работы ў соўгасе, і прышоў к вываду, што большэвіцкі друк — гэта самая дзейсная зброя ў барацьбе за захаванне соцыялістычнай маемасці, за выкананне задач партыі і ўрада. Так у 1931 г. з'явілася ў газеце **«Сельскагаспадарчы рабочы Беларусі»** мая першая заметка аб тым, што ў соўгасе Жылічы згнаілі 1.000 пудоў насення лубіну. Па гэтай заметцы дырэктар соўгаса быў аддан пад суд.

Пасля першай заметкі тав. Амяльковіч ужо не пакідаў пісаць у газеты. Адначасова з карэспандаваннем у «Сельскагаспадарчы рабочы Беларусі» пісаў ён і ў бабруйскую газету **«Комуніст»**, выкрываючы гультаёў, прагульшчыкаў, дабіваючыся рэагавання на кожную заметку. Быў выпадак, калі ў сталоўцы соўгаса сядзеў шкоднік, ніякія скаргі рабочых аб зусім дрэнным харчаванні, аб брудзе ў сталоўцы не дапамагалі. Адміністрацыя соўгаса цвердзіла, што паставіць лепш работу сталоўкі немагчыма. І толькі калі з'явілася ў «Сельскагаспадарчым рабочым Беларусі» заметка Амяльковіча, выехала камісія з Менска. Загадчыка сталоўкі аддалі пад суд, палепшылася харчаванне, сталоўку стала не пазнаць: яе пабялілі, вымылі, стала ўтульна.

Тав. Амяльковіч, бачучы праз друк гультаёў, выкрываючы шкоднікаў, сам з'яўляецца ўзорам, як трэба працаваць. У 1933 г. калгас «Чырвоная Слабада», Чырвона-Слабодскага раёна адставаў па ўсіх кампаніях. Зусім заблытан быў улік. Тав. Амяльковіч пасылаецца туды рахункаводам, наладжвае ўзорны ўлік і праз раённую газету **«Калгаснік»** пачынае паказваць, чаму адстае калгас. Асноўная прычына адставання была ў засмечанасці калгаса класава-варожымі элементамі. Іх выкрыў тав. Амяльковіч праз газету. Вось некаторыя з іх. **Клёцкін** — былы буйны арандатар —




Першы ўсебеларускі з'езд рабселькораў—19-II-1925 у гор. Менску

ля. Ён так «адрамантаваў» плугі, што яны сталі зусім непрыгодны да работы і ўсе былі перароблены. **Слуцкін** — у мінулым буйны купец — агітаваў за нявыхад калгаснікаў на работу і інш. Усе яны па заметках Амяльковіча вычышчаны з калгаса.

Калгасніца **Ліпай Ганна** працавала па ферме і крала бульбу. Змяшчаецца заметка ў газеце, факты пацвярджаюцца, яна здымаецца з работы і аддаецца пад суд.

Дрэнна даглядаюць коней **Бялько** і **Лагун**, здзекуюцца над імі. У «Калгасніку» з'яўляецца аб гэтым заметка. Лагун і Бялько атрымліваюць па году прымусовых работ.

Такіх фактаў можна прывесці многа. У тым, што калгас з адсталых вышаў у 1934 г. у рады перадавых, немалая заслуга і селькора Амяльковіча.

Нямала па адрасу Амяльковіча сыпалася пагроз ад тых, каго ён выкрываў, але пагрозы не спынялі яго селькораўскай работы. Прагульшчыца **Драбатовіч Мар'я**, якая «папярпела» ад селькора, падала ў РК ЛКСМБ заяву, што камсамолец Амяльковіч праследуе яе праз друк. Але РК выкрыў, што прагульшчыца Драбатовіч хацела скампраметаваць лепшага камсамольца-селькора.

Амяльковіч настойліва дабіваецца, каб на кожную змешчаную ім заметку рэагавалі. Калі не рэагуюць на заметку ў калгасе, ён, ставячы пытанне на праўленні калгаса, зноў піша ў газету аб нерэагаванні, дабіваецца дзейснасці кожнай заметкі. Ён не толькі змагаецца за дзейснасць сваіх допісаў, але дабіваецца рэагавання і на допісы другіх рабселькораў. Як лепшы селькор, ён вылучан сопнамеснікам райпракурора па рэагаванню на рабселькораўскія заметкі і пісьмы працоўных. Ім праведзены тры шырокія рэйды праверкі рэагавання на пісьмы і допісы працоўных установамі і арганізацыямі.

Зараз тав. Амяльковіч вылучан інструктарам радыёвяшчання. Ён арганізоўвае матэрыял, каб даць слухачам цікавыя паведамленні, азнаёміць з тым, што робіцца ў раёне, і з гэтай работай спраўляецца выдатна. Раённая газета не палічыла патрэбным паведаміць сваіх чытачоў аб праходзячым у мястэчку шахматным турніры, у якім прымаюць удзел і калгаснікі, а Амяльковіч адразу-ж азнаёміў радыёслухачоў з тым, як праходзіць турнір.

Асноўная рыса ў яго рабоце — гэта падхапляць цікавыя канкрэтныя факты, паказваць жывых людзей.

Тав. Амяльковіч зусім правільна заяўляе:

— Калі я чытаю газеты і пішу ў іх, я адчуваю, як палітычна развіваюся, расту. Мяне выхаваў бальшэвіцкі друк. Яму я абавязан тым, што стаў свядомым работнікам, яму я абавязан тым, што з усіх сіл імкнуўся выконваць даручаную мне работу.

Тав. Амяльковіч на раённым злёце рабселькораў выбран дэлегатам III усебеларускага з'езда рабселькораў. Ён заслужыў гэты гонар сваёй ударнай работай у бальшэвіцкім друку.




Тав. Доўнар П.Ф., лепшы рабкор-ударнік завода імя Варашылава, зотавец, член ЦВК БССР, ЦВК СССР, брыгадзір па зборцы такарных варштатаў

«...На колькі мы ўжо навучыліся цаніць тэхніку, час заявіць прама, што галоўнае цяпер — у людзях, аўладаўшых тэхнікай». (СТАЛІН).

# Рабкоры-зотаўцы

## ЗАВОДА СУЦЭЛЬНАЙ ТЭХНІЧНАЙ ГРАМАТНАСЦІ



Усе рабочыя чырвонасцяжнага завода імя Варашылава здалі соцтэхэкзамен.

250 рабочых выдатнікаў, 316 здаўшых на «добра»—вось вынікі ўпартай бальшэвіцкай работы.

Пастаўленая заводам задача выканана. Завод імя Варашылава ператвораны ў «завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці».

На гэтым тэхнічную вучобу на заводзе не спынілі.

243 рабочыя павышаюць свае тэхнічныя веды ў спецыяльных тэматычных і зотаўскіх гуртках. 30 рабочых працуюць над распрацоўкай грамадска-тэхнічных праектаў. 20 членаў інжынерна-тэхнічнай секцыі завода займаюцца па вячэрніх курсах майстроў, 9 — у завочным ленінградскім машынабудаўнічым інстытуце. Астатнія рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі і служачыя завода займаюцца ў розных школах і гуртках па павышэнню агульнага і палітычнага ўзроўню.

На заводзе разгарнулася вялікая работа па выкананню загада Наркамцяжпрома аб абавязковай здачы дзяржаўнага тэхнічнага экзамена. Да 1-га мая гэтага года варашылаўцы абавязаліся здаць дзяржаўны тэхэкзамен.

Вялікую ролю ў ператварэнні завода ў «завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці» адыгралі рабкоры і ўвесь заводскі і нізавы друк. З самага пачатку разгортвання барацьбы за тэхніку рабкоры былі ўперадзе ў гэтай адказнейшай і важнейшай рабоце.

Рабкоры завода вызначаліся ў барацьбе за тэхніку не толькі асабістай работай над сабой, але і тым, што яны і нізавы друк з'ўляліся арганізатарамі вучобы ў цэхах і брыгадах, арганізатарамі перадачы вопыта старэйшымі рабочымі маладым.

Рабкор-выдатнік тав. **Лібман** з'яўляўся арганізатарам вучобы у сваім цэху. Гэта ён асабіста навучыў чорнарабочых **Кедава і Кагаля** такарнай справе, перадаў ім свой вопыт, свае тэхнічныя веды.

Зараз тав. Кедаў і Кагаль тэхнічна граматныя, здалі соцтэхэкзамен на добра, з'ўляюцца перадавікамі па выкананню вытворчых заданняў.

Рабкор выдатнік тав. **Грыништэйн** арганізаваў групу токараў з 9 чалавек і падрыхтаваў іх да здачы тэхэкзамена. Здалі 5 чалавек на выдатна, 4—на добра.

Стары рабочы-рабкор тав. **Харнас** кіраваў тэхнічным гуртком стругальшчыкаў.

Характэрна, што рабкоры былі не толькі застрэльшчыкамі ў арганізацыі

тэхнічнай вучобы, але і актыўнымі прапагандыстамі тэхнікі, выкладчыкамі ў многіх тэхнічных гуртках.

Рабкоры-выдатнікі **браты Грыніштэйны** першымі на заводзе здалі грамадска-тэхнічны праект. Распрацавалі канструкцыю прыстасавання для ўнутранай шліфоўкі зубчатых шасцяронак пасля іх гарту, распрацавалі праект з усімі чарцяжамі і разлікамі.

***

Таварышы **Шыф і Трыбуць**—рабочыя брыгады па зборцы такарных варштатаў не хацелі займацца тэхвучобай. Гэтыя рабочыя затрымлівалі ператварэнне брыгады ў суцэльную тэхнічна граматную. Насценгазета **«Голас ударніка»** ўзяла іх пад жорсткую крытыку. Перад імі было пастаўлена пытанне аб ліквідацыі сваёй тэхнічнай няграматнасці. Пасля неаднаразовых настойлівых патрабаванняў газеты тт. Шыф і Трыбуць узяліся за вучобу. Тэхэкзамен здалі на «добра».

Брыгада па зборцы такарных варштатаў зараз суцэльна тэхнічна граматная.

Лепшы рабкор-выдатнік брыгады тав **Доўнар Т. Ф.** выбран членам ЦВК БССР і СССР.

□ □ □



Тав. ШЛАПАКОЎ—рабкор-ударнік завода імя Варашылава.

Рабкоры і нізавы друк завода не толькі змагаліся за тэхнічную вучобу, за здачу тэхэкзамена. Яны з'яўляюцца актыўнымі барацьбітамі за практычнае ажыццяўленне накопленых тэхнічных ведаў.

**«Разец»**—насценгазета першай групы токараў—і яе рэдактар тав. **Шамрук** паказалі ўзоры барацьбы за тэхнічную культуру, за чыстату рабочага месца. Вельмі часта ў газеце можна сустрэць такія допісы:

**«Да варштатаў № 54, 55, 103, 105 магчыма дабрацца хіба на парашутах».**

І тут-жа змяшчаецца карыкатура. Дапамагала крытыка, дэталі своечасова ўбіраліся з прахоўду.

Токары тт. **Герман і Баеў** нядобрасумленна чысцілі варштаты. Газета жорстка іх крытыкуе, прызывае да чыстаты, да культурных аднесін к абсталяванню.

Газета здолела злучыць тэарэтычную вучобу ў гуртках з практычнай барацьбой рабкораў за культурную, тэхнічна-граматную работу.

Вялікую аператыўную работу нізавы друк завода прарабіў у барацьбе са зрывамі тэхвучобы. Рад бюлетэняў і «трывожак» выпусціла насценгазета брыгады шырспажыву. У гэтых бюлетэнях газета жорстка крытыкавала зрыўшчыкаў тэхвучобы, адзначала лепшых барацьбітоў за тэхніку. У выніку з 30 чалавек брыгады здалі тэхэкзамен на «выдатна» 14 чалавек, на «добра» 10 чалавек. Члены рэдкалегіі і рабкоры гэтай брыгады тт. **Браудэ, Крыгель, Шпунт, Куперман, Агінец** і інш. першымі здалі тэхэкзамен на «выдатна».

Шматтыражка **«Варашылавец»** актыўна дапамагала рабкорам і ўсяму нізавому друку ў гэтай вялікай і адказнейшай рабоце.

Адным з рашаючых фактараў росту актыўнасці рабкораў у барацьбе за тэхніку з'яўляецца арганізацыя спецыяльнай тэхнічнай газеты «Варашылавец за суцэльную тэхнічную граматнасць».

Вышла 9 нумароў тэхнічнай газеты. І ў кожным нумары можна знайсці рад новых тэхнічных пытанняў.

Побач з распрацоўкай на старонках газеты раду тэхнічных пытанняў газета сістэматычна вядзе барацьбу за аўладанне тэхнікай, арганізацыю вучобы зотаўцаў.

**«З большэвіцкай страстнасцю авалодваць новымі вышынямі тэхнікі»**—заклікала газета ў адным са сваіх нумароў. І пад гэтым аншлагам змяшчаецца рад матэрыялаў рабочых аб аўладанні тэхнікай. Рабочы зотавец тав. **Рудэнка** ў сваім артыкуле піша:

**«Я ведаю, што тэхвучоба мне шмат дала, але гэтага мала. Зотаўцу трэба заўсёды вучыцца і вучыцца».**

«Настойлівая вучоба, страстнае большэвіцкае жаданне авалодваць новымі вышынямі навукі і тэхнікі забяспечыць лепшае выкананне пастаўленых перад намі задач». Гэты заклік газеты «Варашылавец за суцэльную граматнасць» ёсць выражэнне ўсяго значэння барацьбы за аўладанне тэхнікай, значэння самой тэхнічнай газеты.

У гутарцы з металургамі тав. **Сталін** сказаў: «Галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай». І на падрыхтоўку тэхнічна-граматных людзей звернута асаблівая ўвага газеты.

**«Варашылавец за суцэльную тэхнічную граматнасць»** сістэматычна змяшчае на сваіх старонках тэхнічную віктарыну. За правільныя адказы рэдакцыя газеты прэміруе.

Радавыя рабочыя пішуць цяпер у газету аб розных тэхнічных непаладках. Рабкор тав. **Рутэнберг** з усёй рашучасцю абрушыўся на душыцеляў рацыяналізатарскіх прапаноў рабочых. Ён выявіў рад фактаў бюракратычных адносін да рабочых прапаноў. На аснове гэтых матэрыялаў рэдакцыя ўскрыла факты марынавання рабочых рацыяналізатарскіх прапаноў.

Аб цікавасці рабочых да газеты **«Варашылавец за суцэльную тэхнічную граматнасць»** сведчаць водзывы рабочых аб яе матэрыялах.

Рабочы-электразваршчык тав. **Красноўскі** гаворыць: «Я з зацікаўленасцю чытаў артыкул аб электразварцы. Добры артыкул, падабаўся мне. Толькі вось трэба пісаць больш простай і зразумелай мовай, з большай колькасцю ілюстрацый».

Слесар тав. **Анісенка** дадае «матэрыялы газеты вельмі каштоўныя, патрэбна толькі завесці аддзел вынаходства і ўдасканальвання на другіх заводах Совецкага Саюза».

Мы можам дадаць тое, што газета павінна стаць яшчэ больш масавай, прыцягнуць да ўдзелу ў ёй радавых рабочых ударнікаў-выдатнікаў.

□ □ □



Рабкорка-ўдарніца завода імя Варашылава тав. НАТА ЯФІМАВА.



# НА З'ЕЗДЕ ЕДЗЕ ЛЕПШЫ ЎДАРНІК ЦЭМЕНТНАГА ЗАВОДА



Сын прыволжскіх раўнін, адзін з лепшых ударнікаў паляводчай брыгады калгаса «Сеятель», Саратаўскага края, комсамолец **Іван Лёвін** паступіў у фабзавуч Вольскага цэментнага завода. Пасылка на вучобу пры буйнейшым цэментным заводзе Саюза была лепшай узнагародай маладому энтузіясту за ўдарную работу ў калгасе.

Два гады тэарэтычнай і палітычнай вучобы, упартае авалодванне тэхнікай выпуску лепшых сартоў цэменту, і тав. Лёвін становіцца адным з лепшых ударнікаў цэментнай прамысловасці. У 1933 годзе ён з поспехам заканчвае вучобу і з групай старых рабочых вольскіх цэментных заводаў едзе ў БССР на дапамогу ў ліквідацыі прарыву на крычаўскім цэментным заводзе.

Лёвіну было тады толькі 1[illegible] гадоў. Ён не пакідае ўпартай работы над павышэннем сваёй тэхнічнай граматнасці. Ад слесара чацвертага разраду механічнай рамонтнай майстэрні крычаўскага цэментнага завода тав. Лёвін пераводзіцца ў слесары кацельнай ЦЭС. Тут малады ўдарнік і актыўны рабкор заводскай шматтыражкі, удзельнік цэхавай насценгазеты з прагнасцю авалодвае дэталямі турбіны.

Чэрвень 1934 года. Тав. Лёвін атрымлівае новае прызначэнне: яго вылучаюць на адказны ўчастак — **памочнікам машыніста турбіны.** Такі рост аднаго з лепшых ударнікаў і рабкораў крычаўскага цэментнага завода.

На пытанне аб першых днях яго рабкорства тав. Лёвін скромна адказвае.

— Пачаў я пісаць у газету яшчэ будучы ў калгасе, на Паволжы. Першыя мае заметкі з'явіліся ў школьнай насценгазеце ў 1928 годзе, калі я быў 12-гадовым хлапчуком.

З таго часу прайшло 6 гадоў. Лёвін стаў ударнікам крычаўскага цэментнага завода. І як лепшага ўдарніка-рабкора, рабочыя комсамольска-маладзёжнай змены Алейнікава выбралі тав. Лёвіна рэдактарам зменнай насценгазеты. З юнацкім запалам узяўся Лёвін за даручаную яму справу па выпуску газеты **«Ударнік моладзі».**

Насценгазета адной з першых уключаецца ва ўсесаюзны конкурс цэментных заводаў. Пры дапамозе насценгазеты комсамольска-маладзёжная змена атрымлівае адну вытворчую перамогу за другой. Змена перавыконвае свой промфінплан. Рэдактар тав. Лёвін за ўдарную работу ля турбіны і прыкладную пастаноўку работы насценгазеты прэміруецца.

Газета дабілася ўцягнення рабочых змены ў гурткі па павышэнню кваліфікацыі. Многія яе рабкоры атрымалі значок «ЗОТ». Тэхнічная вучоба, якая зараз шырока разгортваецца ў змене Алейнікава—адна з велізарных заслуг насценгазеты. Яе баявы лозунг: да ўсебеларускага з'езда рабселькораў кожны ўдарнік павінен стаць зотаўцам, кожны зотавец — рабкорам.

На злёце рабселькораў Крычаўскага раёна Іван Лёвін выбран дэлегатам на III усебеларускі з'езд рабселькораў.

**А. М.**

# У ПЕРШЫХ РАДАХ КУЛЬТПАХОДУ

✱ ✱ ✱ **Юр. БЕЛЬКО** ✱ ✱ ✱

Ёсць на Мазыршчыне вёска Зімовішчы. Не адзін дзесятак гадоў стаіць гэта вёска сярод балот і хмызнякоў. Запытайцеся ў жыхароў Зімовішчы, чым праславілася іх вёска за ўсю сваю шматгадовую гісторыю? Вам адкажуць:

— Пра мінулае няма чаго гаварыць. Да рэвалюцыі мы называліся палешукамі, цяпер — калгаснікі.



Тав. КРУЧКОЎ.

Гэтымі словамі сказана ўсё. Так яно і ёсць: гісторыя вёскі Зімовішчы фактычна і пачынаецца з грозных дзён Окцябра. Тады разам з нечуваным уціскам памешчыка і ўрадніка былі зломлены і пагардлівыя адносіны да чалавека, якога прадстаўнікі «ўладу маючых» людзей ахрысцілі «палешуком».

Цікава паслухаць старажылаў вёскі Зімовішчы. Яны аб многім могуць расказаць. Вось хоць-бы аб тым, што да рэвалюцыі ў вёсцы не было літаральна ні адной кніжкі і ні адной газеты. Не было школы, дзеці раслі бруднымі, пячэснымі, няграматнымі.

А цяпер...

Нядаўна ў вёсцы адбылася надзвычай цікавая падзея: была праведзена **канферэнцыя калгаснікаў і калгасніц, прачытаўшых кнігі «ПОДНЯТАЯ ЦЕЛИНА, «ДРЫГВА» і «ЦЕНІ НА СОНЦЫ».**

Канферэнцыю праводзіў мясцовы настаўнік, актыўны селькор газеты «Калгаснік Мазыршчыны» тав. **Кручкоў.** Таварыш Кручкоў да гэтага правёў з калгаснікамі вялікую работу. Па заданню раённай газеты ён пачаў чытаць калгаснікам «Поднятую целину». Слухаць кнігу Шолахава збіралася кожны раз больш 50 калгаснікаў і калгасніц. І калі кніжка была прачытана, калгаснікі ні за што не захацелі спыняць чытку. Тады т. Кручкоў дастаў «Дрыгву» **Коласа** і «Цені на сонцы» **Александровіча** і гэтыя кнігі таксама прачытаў на гуртку. Так падрыхтоўвалася **канферэнцыя.**

Выдатна, актыўна прайшла гэта канферэнцыя. Уперадзе сядзелі старыя. Яны не любяць многа гаварыць, на сходах выступаюць рэдка, а вось тут на канферэнцыі рэдкі стрымаўся.

Выступіў 58-гадовы калгаснік **Аляксей Трыгуб.** Ён гаварыў:

— Вялікае дзякуй совецкай уладзе за тое, што яна змяніла наша жыццё. Раней чыталі кніжкі толькі паны, а зараз мы, былыя беднякі, жывем не толькі заможна, але і культурна. Я ніколі нават і не сніў, каб такі стары, як я, змог чытаць такія цікавыя кніжкі, якія мы прачыталі ў гуртку.

Далей дзед Аляксей доўга і толкова гаварыў аб кожнай прачытанай на гуртку кніжцы, спыняўся на вобразе дзеда Талаша, Мартына Рыля, Давыдава.

Гэта гаварыў Аляксей Трыгуб, стаўшы чалавекам пасля Окцябра, у калгасе, бо раней ён быў «палешуком».

На фоне ўсіх гэтых змен, якія адбываюцца ў людской масе жыхароў вёскі Зімовішчы, асабліва ярка відна роля селькора т. Кручкова, як перадавога барацьбіта за новую соцыялістычную культуру.

Але асабліва важна тое, што тав. Кручкоў не адзін такі селькор на Мазыршчыне. Пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі і раённай і палітаддзельскай газет дзесяткі селькораў ідуць у першых радах культурнага паходу ў калгасах.

Мы былі ў калгасе «Новыя Халодні-кі», дзе знаходзіцца Даманавіцкая МТС. У гутарцы работнікі палітаддзела і палітаддзельскай газеты расказвалі дзесяткі фактаў аб тым, якую вялікую работу праводзяць селькоры па арганізацыі голасных чытак мастацкай літаратуры. У большасці калгасаў зоны дзейнасці МТС, у якіх праводзяцца чыткі, гурткамі кіруюць селькоры.

Адчуваецца вялікая ўвага палітаддзела і газеты «За большэвіцкія калгасы» да наладжання чытак. У палітаддзельскай газеце з нумара ў нумар друкуюцца матэрыялы аб рабоце гурткоў, паказваецца, як праходзяць чыткі, падаюцца водгукі калгаснікаў аб прачытаных кнігах.

Варта адзначыць добрую работу селькора **Ягура Васіля** з калгаса «Рухавік рэволюцыі». Тав. Ягуру ўдалося прыцягнуць да слухання «Поднятой целины» не толькі калгаснікаў, але і многіх калгасніц. На стале начальніка палітаддзела т. **Цыберава** ляжыць пісьмо тав. Ягура, у якім селькор паведамляе асабіста начальніка палітаддзела, як у калгасе ідзе распрацоўка «Поднятой целины». Тав. Ягур звярачаецца ў палітаддзел і рэдакцыю газеты палітаддзела за парадамі, як лепш арганізаваць чытку, за высвятленнем асобных незразумелых пытанняў. І ён заўсёды атрымлівае падрабязны адказ.

Памочнік начпалітаддзела т. **Цітоў** расказвае наступны выпадак, які адбыўся ў калгасе «Шлях саветаў». Тут селькоры добра арганізавалі распрацоўку «Поднятой целины». На чытку збіралася многа калгаснікаў. Аднаго разу чыталі тое месца рамана, дзе апісваецца хітрае шкодніцтва кулака Астраўнова на калгаснай ферме. Факт шкодніцтва, апісаны Шолахавым, падштурхнуў калгаснікаў уважліва прыглядзецца да становішча калгаснай свінафермы (справы на ферме былі няважныя). Праверылі работу фермы і высветлілі, што загадчык фермы займаўся шкодніцтвам: не даваў свінням патрэбнай колькасці кармоў, свінні худзелі і дохлі. Шкоднік прыцягнут да адказнасці.

Апісаны выпадак гаворыць аб велізарным практычным значэнні чыткі калгаснікам такой кнігі, як «Поднятая целина».

А вось што расказвае рэдактар насценгазеты калгаса «Культура» тав. **Муха Раман** — дэлегат усебеларускага з'езда рабселькораў:

— Чытку «Поднятой целины» мы пачалі нядаўна, але калгаснікі вельмі зацікавіліся кнігай. Назаўтра пасля чыткі толькі і размоў было паміж калгаснікамі, што аб тыпах рамана Шолахава. Гаварылі пра Давыдава, Размётнава, Лушку. А дзед Шчукар! Хто з калгаснікаў у нас не ведае пра вясёлага дзеда Шчукара! Калгаснікі пераказваюць штукарствы дзеда і ад душы смяюцца. Вельмі-ж забаўны дзед.

Усё гэта праўда, аб чым гаворыць селькор Муха. Словы т. Мухі адносяцца не толькі да калгаса «Культура». І ў «Новых Халодніках», і ў «Аляксандраўцы» і ў дзесятках іншых калгасаў раёна можна пачуць размовы калгаснікаў пра дзеда Талаша, пра Давыдава, пра Шчукара. Ці трэба гаварыць аб тым, як важна гэта справа, якая праводзіцца ў калгасах Мазыршчыны селькорамі-ўдарнікамі?

Культпаход у калгасах Мазыршчыны, аднак, выходзіць далёка за рамкі чыткі мастацкай літаратуры. Селькоры выступаюць ініцыятарамі барацьбы за чыстую калгасную хату, за чыстую канцэлярыю праўлення калгаса, сельсовета, за пабудову лазняў і чырвоных куткоў.

У калгасе «Культура», Дамашавіцкага сельсовета селькоры дабіліся таго, што калгаснікі ўсе як адзін узяліся прывесці у культурны выгляд свае хаты. Абіваецца фанерай і абклейваецца абоямі памяшканне праўлення калгаса. Набыты шахматы, шашкі, партрэты правадыроў. Селькоры калгаса «Культура» выявілі колькі яшчэ ў калгасе засталося няграматных дарослых калгаснікаў, і да кожнага няграматнага прымацавалі па аднаму селькору. Селькоры абавязаліся да вясны поўнасцю ліквідаваць няграматнасць у калгасе. У гэтым-жа калгасе селькорам належыць ініцыятыва арганізацыі калгасных драматычнага і харавога гурткоў.

— Вось што было яшчэ нядаўна ў нашым калгасе — гаворыць старшыня рэдкалегіі насценгазеты Раман Муха. — Вечарамі сум ахапляў нашу моладзь: няма куды пайсці! Зусім іншае цяпер. У нас працуе вячэрняя школа, чытаем у гуртку мастацкую літаратуру, рыхтуем пастаноўку. Моладзь дый дарослыя калгаснікі весела і культурна праводзяць вечары.

Так многія селькоры-ўдарнікі Мазыршчыны ідуць у перадавых радах калгаснага культпаходу. Яны нясуць у хаты былых «палешукоў» цяпер калгаснікаў, новыя звычкі, новую соцыялістычную культуру.



Рабкоры-ўдарнікі дэпо станцыі Менск. Злева — тав. ДОСІН, узнагароджаны ордэнам Леніна; справа — тав. ШПІЛЕЎСКІ, рабкор-ударнік, старшыня дэпутацкай групы, машыніст, у цэнтры вытворчая нарада на паравозе.

# НАШ ДЭЛЕГАТ тав. МЕЛЯШКЕВІЧ

Падсобны цэх паравознага дэпо з'яўляецца вядучым. Цэх апрацоўвае дэталі для рамонту паравозаў. Ад своечасовага і добраякаснага выканання работы падсобным цэхам залежыць і своечасовы выпуск з рамонту паравозаў. Апрача гэтага ў цэху вырабляюцца інструменты для дэпо.

У гэтым цэху працуе стары рабочы-ўдарнік тав. **Меляшкевіч.**

Тав. Меляшкевіч—рэдактар цэхавай насценгазеты — выбран дэлегатам на III усебеларускі з'езд рабселькораў. Газета, якую рэдагуе тав. Меляшкевіч — лепшая ў паравозным дэпо.

Газета ўстанавіла па брыгадах рабкораўскія пасты, якія пільна сочаць за своечасовым выкананнем заказаў для дэпо. Старыя рабочыя **Яромка, Шарпіо** і інш. узначальваюць гэтыя пасты. Аб кожным затрыманні ў рабоце яны паведамляюць рэдкалегіі газеты. Газета выпускае спецыяльныя нумары на аснове матэрыялаў пастоў, і работа наладжваецца.

Насценгазета праводзіць вялікую выхаваўчую работу.

Малады рабочы тав. **Левін** дрэнна працаваў. Газетная крытыка на яго не ўплывала. Рэдакцыя газеты адправіла пісьмо бацькам Левіна, у якім указала аб рабоце недахопаў у рабоце Левіна ў цэху. Пасля гэтага Левін пачаў лепш працаваць. Тав. Меляшкевіч узяў шэфства над Левіным, сачыў за яго работай, і зараз Левін ударнік, узяў на сябе рад самаабавязацельстваў у сувязі з падрыхтоўкай да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

Добрую работу газеты забяспечвае рэдактар газеты тав. **Меляшкевіч.** Ён аддана працуе, шмат часу ўдзяляе рабоце газеты.

Вытворчы стаж тав. Меляшкевіча — 28 гадоў. Здаў тэхэкзамен па «выдатна», вытворчую праграму выконвае на 130-140 проц. Тав. Меляшкевіч першы рабочы ў цэху, які ўзяў шэфства над маладымі рабочымі і крапатліва навучае іх такарнай справе.

**Рэдактар газеты—выдатнік Меляшкевіч дастойны дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў.**

**ФРЫД.**

# Рабселькоры Віцебшчыны дастойна сустракаюць з'езд








НА ЗДЫМКАХ: уверсе — лепшыя рабкоры-зотаўцы касцюмнага цэха фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» тт. МАРКОВІЧ, КАН, ШАГАЛАЎ і СЦЯПАНАВА. Унізе — дэлегацыя злёта рабкораў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» у сакратара гаркома тав. ЖУРАЎЛЁВА.

□ □ □ **Вл. Вержбаловіч**
нам. адказнага рэдактара „Віцебскага Пролетарыя" □ □

К III усебеларускаму з'езду рабселькораў Віцебск, як і ўся БССР, падыходзіць з вялікімі дасягненнямі ў галіне разгортвання нізавога друку, росту рабселькораўскіх радоў, узняцця іх арганізуючай ролі на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва.

Па няпоўных даных па Віцебску і раёну налічваецца зараз каля 5 тысяч рабселькораў. На прадпрыемствах Віцебска выдаецца 12 шматтыражных друкаваных газет і каля 400 насценных газет (улічваючы і брыгадныя газеты). Уся гэта вялікая армія рабселькораў і работнікаў нізавога друку патрабуе правядзення з імі сістэматычнай масава-выхаваўчай работы.

Тав. **Сталін** у сваёй вядомай гутарцы з работнікам журнала **«Рабкрэст-кор»**, спыняючыся на ролі рабселькораў і задачах выхаваўчай работы з імі, падкрэсліў, што **«навучаць рабочых і сельскіх карэспандэнтаў некатораму мінімуму тэхнікі журналістыкі, вядома, неабходна. Але асноўнае не ў гэтым. Асноўнае заключаецца ў тым, каб рабочыя і сельскія карэспандэнты навучаліся ў ходзе сваёй работы і выпрацоўвалі ў сябе тое чуццё журналіста—грамадскага работніка, без якога карэспандэнт не можа выконваць сваю місію і якая не можа быць прывіта якімі-небудзь штучнымі мерамі навучання, у тэхнічным сэнсе гэтага слова».**

**«Віцебскі пролетарый»** выхоўвае сваіх рабселькораў галоўным чынам у іх практычнай дзейнасці.

★

«Віцебскі пролетарый» перш за ўсё ставіў і ставіць задачай, каб кожны яе рабселькор сапраўды з'яўляўся перадавіком на вытворчасці, ударнікам, зотаўцам. На старонках газеты, на рабселькораўскіх нарадах, злётах, курсах мы шырока папулярызуем лепшых рабселькораў, паказваем вопыт іх работы, заклікаем усіх рабселькораў раўняцца па перадавіках.

Сярод рабселькораў Віцебска ёсць нямала знатных людзей, якіх ведаюць працоўныя ўсёй БССР. Узяць хоць-бы нашу рабкорку з фабрыкі «КІМ» Елену **Норкіну**. Яна — брыгадзір суцэльна-зотаўскай брыгады, дэлегат XI усебела-

рускага з'езда саветаў, член ЦВК БССР. Яе брыгада трымае пераходны чырвоны сцяг ГК камсамола, заваяваны ў спаборніцтве маладзёжных брыгад горада. Тав. Норкіна праз газету «Віцебскі пралетарый» не раз перадавала свой вытворчы вопыт, выступала з цікавымі вытворчымі прапановамі. У брыгадзе т. Норкінай акуратна выдаецца штодзёнка, якая нядаўна святкавала выхад 200-га нумара.

★

Актыўнай рабкоркай «Віцебскага пралетарыя» з'яўляецца тав. **Круглова**, брыгадзір лепшай маладзёжнай брыгады фабрыкі імя Клары Цэткін, герой першай пяцігодкі, якая таксама з'яўлялася дэлегатам XI усебеларускага з'езда саветаў.

Тав. **Апановіч**, рабкор, рэдактар насценнай газеты Скрыдлёўскага лясного ўчастка, былы чырвоны партызан, узнагароджаны ордэнам Чырвонага сцяга. Таварыш Апановіч некалькі раз прэміраваўся граматай лепшага ўдарніка, яго ўчастак сістэматычна перавыконвае план лесазагатовак і таму ён зусім заслужана выбран дэлегатам на III усебеларускі з'езд рабселькораў.

Лепшымі з лепшых ударнікамі на сваіх прадпрыемствах з'яўляюцца рабкоры: **Ханін Б.** (фабрыка імя Лекерта), **Казімірская** (фабрыка «Дзвіна»), **Князева** (фабрыка «КІМ»), **Кісельгоф** (шчоткамбінат), **Кузняцоў** (завод «Чырвоны металіст»), **Цярэшчанка**—селькор-арганізатар хаты-лабараторыі пры калгасе імя Чырвонай арміі, **Лахно** — селькор калгаса «Другая пяцігодка», Старасельскага сельсовета, **Канаваленка** — рэдактар калгаснай насценгазеты калгаса імя Варашылава, Замастоўскага сельсовета. Усе гэтыя таварышы выбраны дэлегатамі на III усебеларускі з'езд рабселькораў.

★

Перадавікі, лепшыя ўдарнікі, знатныя людзі сярод рабселькораў зараз налічваюцца не адзінкамі, а сотнямі, тысячамі. Становішча рабселькораўскага руху ў Віцебску лішні раз сведчыць, што рабселькораўскі рух сапраўды з'яўляецца рухам **перадавікоў**, наперакор права-




**Насценгазета брыгады Кансаравай (фабрыка імя Клары Цэткін), прысвечаная завочным спрэчкам па дакладу старшыні СНК БССР тав. ГАЛАДЗЕДА на XI з'ездзе саветаў БССР.**

□ □ □

апартуністычнаму паклёпу на рабсельказаўскі рух, як рух адсталых мас. Сярод рабкораў Віцебска пераважная частка—зотаўцы, многа ёсць значкістаў—варашылаўскіх стралкоў, значкістаў ГПА, ГСА і т. д. Рабселькоры Віцебска аказалі значную дапамогу партыйнай арганізацыі ў справе вываду віцебскай прамысловасці і сельскай гаспадаркі на адно з першых месц па БССР.

Выхаваўчая работа з рабселькорамі праводзіцца намі і пры апрацоўцы іх карэспандэнцый. Даючы практычныя заўвагі па зместу карэспандэнцый, тлумачачы прычыны незмяшчэння ў газеце той ці іншай карэспандэнцыі, даючы заданні аб падмацаванні асобных карэспандэнцый дадатковымі фактамі і т. д., мы гэтым самым выхоўваем рабселькораў, навучаем іх, як правільна падыходзіць да пытанняў, як трэба пісаць у газету.

Процант змешчаных рабселькораўскіх заметак у «Віцебскім пралетарыі» даволі значны — 60 проц. да ўсіх паступіўшых карэспандэнцый. 30 проц. рабселькораўскіх заметак у сярэднім накіроўваецца на расследванне і не больш 10 проц. ідзе ў архіў — астаюцца нескарыстанымі.

★

Даводзіць пачатую справу да канца—святы абавязак кожнага рабселькора. У такім духу выхоўваць рабселькораў —

задача кожнай газеты. У гэтых адносінах вельмі цікава работа селькора **Лахно** (дэлегата III усебеларускага з'езда рабселькораў).

Справа была ў калгасе «Другая пяцігодка», Старасельскага сельсовета. Пралезшая туды група класавых ворагаў, на чале з былым кулаком старшынёй калгаса **Глушаковым** «ціхай сапай» вяла падрыўную работу, раскрадвала калгаснае зерно, знішчала жывёлу, прапівала калгасныя грошы, разбурала працоўную дысцыпліну і т. д. Калгас у той час быў напярэдадні развалу. Тав. **Лахно** паведамляе аб гэтых фактах у рэдакцыю. Матэрыялы змяшчаюцца ў газеце «Віцебскі пролетарый» пад загалоўкам: **«Сямейка Глушаковых разбурае калгас».** Праз некалькі дзён атрымліваем адказ на допіс тав. Лахно ад старшыні сельсовета тав. **Бялога.** Апошні паведамляе, што па гэтаму пытанню ў калгасе спецыяльна быў праведзен выязны прэзідыум сельсовета і вынесена рашэнне аб змене кіраўніцтва. Адказ—рэагаванне змяшчаецца ў газеце, але справа на гэтым яшчэ не канчаецца. Таварыш Лахно бярэ пад свой нагляд, як выконваецца пастанова выязнога прэзідыума.

Праз некаторы час тав. Лахно сігналізуе аб тым, што рашэнне прэзідыума не выконваецца. Глушакоў працягвае разбураць калгас. Ён сам прыпісаў сабе 620 працадзён, у той час як лепшы калгаснік выпрацаваў толькі 320 працадзён. Глушакоў на полі ніколі не працаваў (невялікі калгас). Матэрыял, атрыманы ад тав. Лахно, рэдакцыя накіроўвае ў гаўза для неадкладнага рэагавання. Праз некалькі дзён атрымліваем адказ ад тарва — **Глушакоў з пасады старшыні зняты і выключан з калгаса, зняты прыпісаныя ім лішнія працадні.**

Здавалася-б, што справу можна лічыць ужо закончанай. Аднак, тав. Лахно на гэтым не супакойваецца. Ён добра ведае, што за кулацкую дзейнасць, за разбурэнне калгаса, за пакражы Глушакоў, апрача таго, што зняты з пасады старшыні калгаса, павінен быць прыцягнут да сур'ёвай адказнасці. Лахно піша ў пракуратуру матэрыял па справе Глушакова. Па матэрыялу высылаецца следчы і праз некалькі дзён выязджае на месца наш пролетарскі суд. Ра-



«Зотаўка» — цэхавая насценгазета фабрыкі імя Клары Цэткін, прысвечаная завочным спрэчкам па дакладу тав. Галадзеда.

□ □ □

забраўшы справу, суд **прысуджае Глушакова** за кулацкую дзейнасць па разбурэнню калгаса **на 10 год пазбаўлення волі з высылкай у аддаленыя мясцовасці.**

Трэба, каб кожны рабселькор, па прыкладу тав. Лахно, так змагаўся за давядзенне да канца справы, за дзейснасць кожнага газетнага радка.

★

Выхоўваем мы рабселькораў і шляхам уцягнення ў масавыя практычныя мерапрыемствы, праводзімыя газетай. У праведзеным у 1934 г. агульнагарадскім рэйдзе праверкі становішча рэагавання на рабселькораўскія допісы прымала ўдзел каля 200 рабселькораў. Сотні рабкораў былі ўцягнуты «Віцебскім пролетарыем» і фабрычна-заводскімі шматтыражкамі ў справу арганізацыі завочных спрэчак па дакладу тав. **Галадзеда** на XI усебеларускім з'ездзе саветаў і тав. **Молатава** — на VII усесаюзным з'ездзе саветаў. Іменна дзякуючы масаваму ўдзелу ў гэтай справе рабселькораў, у заочных спрэчках толькі па дакладу тав. **Галадзеда** выступіла праз штодзёнкі звыш 1.000 чалавек.

Вялікую ролю ў справе выхавання рабселькораў адыгрываюць нарады, злёты рабселькораў, якія сістэматычна праводзяцца рэдакцыяй. За апошнія месяцы былі праведзены наступныя нарады: нарада рэдактароў насценных газет прадпрыемстваў і кааперацыі па

пытанню аб задачах нізавога друку і рабкораў у перавыбарах горсовета, нарада рабкораў—нававыбраных дэпутатаў горсовета—аб іх рабоце ў новым складзе горсовета, нарада рабкораў-чытуначнікаў сумесна з селькорамі і старшынямі калгасаў па пытанню барацьбы са снегавымі заносамі, некалькі нарад рабкораў і рэдактароў шматтыражак і насценгазет па пытанню асвятлення і разгортвання масавай работы вакол XI усебеларускага і VII усесаюзнага з'ездаў советаў, нарада студкораў і рэдактараў насценных газет навучальных устаноў аб іх задачах у новым навучальным годзе. Праведзена некалькі нарад селькораў непасрэдна ў сельсоветах.

Як форма выхаваўчай работы, намі практыкуюцца **экскурсіі** рабкораў на перадавыя прадпрыемствы па пастаноўцы работы нізавога друку. Так, на фабрыку «**Сцяг індустрыялізацыі**» былі арганізаваны экскурсіі рабкораў з фабрык імя Клары Цэткін, імя Лекерта, шчоткамбіната. Рад экскурсій рабкораў быў наладжан на акулярную фабрыку для азнаямлення з вопытам нізавога друку ў барацьбе за складанне тэхпромфінплана, за разгортванне зотаўскага руху. Зусім зразумела, што такія экскурсіі вельмі многа даюць у справе перанясення лепшага вопыта перадавых прадпрыемстваў на ўсе астатнія прадпрыемствы.

Ужо некалькі месяцаў, як арганізавана пры рэдакцыі «**Віцебскі пралетарый**» сістэматычная газетная вучоба рэдактароў шматтыражак (3 разы ў месяц—па 4-6 гадзін у дзень).

Непасрэдна на прадпрыемствах з дапамогай работнікаў «Віцебскага пролетарыя» праведзен рад дэкадных курсаў рэдактароў штодзёнак. На гэтых курсах займалася некалькі соцень рабкораў: на фабрыцы імя Клары Цэткін — 32 чалавекі, фабрыцы імя Лекерта —25 чалавек, фабрыцы «Профінтэрн»—30 чал., заводзе «Чырвоны металіст» імя Кірава —40 чал., на акулярнай фабрыцы — 25 чал., заводзе «Комінтэрн» — 1? чал. Былі праведзены курсы рэдактароў ФЗВ кулінараў на 20 чал., курсы юнкораў (сумесна з газетай «Чырвоная змена») на 22 чал. і рад іншых кароткатэрміновых курсаў.

Нядрэнна арганізавана вучоба рабкораў на асобных прадпрыемствах непасрэдна самімі шматтыражкамі. У гэтых адносінах прыкладам можа служыць фабрыка «**Сцяг індустрыялізацыі**», дзе сістэматычна на курсах рэдактароў брыгадных штодзёнак і рабкораў навучаецца звыш 100 чалавек.

На арганізаваных намі курсах-семінарах рэдактароў і рабкораў кааперацыйна-гандлючых арганізацый былі глыбока прапрацаваны пастановы лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб шырокім гандлі хлебам, мукой, крупамі і задачах рабкораў і нізавога друку ў барацьбе за рэалізацыю гэтых пастаноў.

Праведзены 3 семінары рабкораў арцелей самлромсаюза па пытанню барацьбы за высокую якасць прадукц... за пашырэнне асартыменту.

Наладжанне сістэматычнай вучобы селькораў—важнейшая справа. У 1934 годзе намі былі праведзены два разы дэкадныя курсы рэдактароў насценных газет па 120 чалавек (перад пачаткам веснавой сяўбы і перад пачаткам уборачнай). Апрача гэтых курсаў у сельсоветах у 1934 годзе было праведзена 90 селькораўскіх злётаў. 5 лепшых селькораў былі накіраваны рэдакцыяй на экскурсію па маршруту Менск—Масква—Ленінград для азнаямлення з вопытам работы нізавога друку і рабкораў перадавых пролетарскіх цэнтраў. У лютым мы пачалі арганізоўваць завочную вучобу рэдактароў калгасных насценгазет па праграме курсаў «Крестьянской га-

**зеты».** Праведзены першыя заняткі па завочнай вучобе ў шасці сель'оветах, на якіх прысутнічала больш 70 чалавек.

Пры рэдакцыі арганізован спецыяльны **габінет рабселькора,** дзе апошні можа атрымаць кансультацыю па любому пытанню. У габінеце арганізуюцца выстаўкі насценных цэхавых і брыгадных газет з крытычнымі заўвагамі аб змесце іх работы.

Побач з гэтым трэба адзначыць, што абсалютная большасць рабкораў займаецца ў агульнаасветных школах, рабфаках, у школах партасветы, у тэхгуртках.

Весь беглы агляд мерапрыемстваў газеты **«Віцебскі пролетарый»** па выхаванню сваіх рабселькораў. Ці значыць гэта, што ў нас усё ўжо добра. Далёка не так абстаіць справа. Улічваючы свае першыя дасягненні ў галіне разгортвання выхаваўчай работы сярод рабселькораў, мы адначасова павінны цвяроза ўлічыць і тыя значныя **недахопы,** якія ёсць у гэтай справе. У прыватнасці, слаба пастаўлена ў нас работа з рабселькорамі на дробных прадпрыемствах і ў вёсцы. Не заўсёды своечасова атрымлівае наш рабселькор вычарпальны адказ ад рэдакцыі аб прычынах нескарыстання таго ці іншага допісу. Зусім мала яшчэ змяшчаюцца нашай газетай агляды друку, у першую чаргу агляд насценных газет.

У апошні час наша рэдакцыя ўмацавала масавы сектар. Мы прымаем усе меры, каб замацаваць той значны зрух у рабоце нізавога друку і рабселькораў, які дасягнут у часе падрыхтоўкі да III з'езда рабселькораў. Асаблівую ўвагу звярачаем на разгортванне вучобы селькораў.

Перад рабселькорамі Віцебска, як і перад рабселькорамі ўсяго Савецкага Саюза, зараз пастаўлена баявая задача—быць перадавікамі ў барацьбе за рэалізацыю пастаноў XI усебеларускага і VII усесаюзнага з'езда советаў, II усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў, у большэвіцкай падрыхтоўцы і правядзенні надыходзячай веснавой сяўбы, у барацьбе за промфінплан, за ператварэнне Віцебска **у горад суцэльнай тэхнічнай граматнасці.**

Няма сумнення, што рабселькоры Віцебска, узброіўшыся рашэннямі III усебеларускага з'езда рабселькораў, пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі з гонарам выканаюць ускладзеныя на іх задачы і будуць у перадавых радах рабселькораўскай арміі БССР.

# Юныя ударнікі бальшэвіцкага друку

□ □ □ **А. АНТАНЕВІЧ.**
□ □ □

Заўсёды памятайце, таварышы юныя піонеры, што няма больш высокага гонару для кожнага піонера-леніца, чым добра вучыцца ў школе і прымаць актыўны ўдзел у рабоце комуністычнага друку, праз які вы яшчэ лепш удзельнічаеце ў актыўным грамадскім жыцці і выхоўваецеся перадавікамі, інтэрнацыяналістамі, — пісаў сакратар ЦК КП(б)Б таварыш **Валковіч** да пяцігадовага юбілею перыядычнага дзіцячага комуністычнага друку БССР.

Можна смела заявіць, што сотні і тысячы юных піонераў і школьнікаў БССР — дзяткораў з гонарам вырашаюць гэтыя задачы, з'яўляючыся арганізатарамі, перадавікамі ўсёй працоўнай дзетвары ў ле барацьбе за ажыццяўленне пастаноў ЦК ВКП(б) аб школе і піонерскай арганізацыі.

Не толькі ў дзіцячым асяроддзі, у школе, але і на другіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў асобе дзяткораў мы маем вялікую сілу. Хіба не аб гэтым сведчаць дзесяткі фактаў актыўнай работы юных ударнікаў бальшэвіцкага друку па ахове соцыялістычнай маемасці, выяўленню і барацьбе з класава-варожымі элементамі, якія імкнуцца надрываць нашу работу. Гэта сведчыць аб тым, што паспяховае соцыялістычнае будаўніцтва і вялікая ўвага партыі і ўрада да падрастаючага пакалення выклікаюць вялікі рост палітычнай актыўнасці працоўнай дзетвары.

Гаворачы аб рабоце рабселькораў, таварыш **Постышэў** паставіў як адну з важнейшых задач — «узмацненне работы з юнкорамі, з дзяткорамі».

«Нацыяналістычныя элементы, — гаварыў т. Постышэў, — якія сядзяць яшчэ ва многіх нашых школах, стараюцца ўкараніць у свядомасць дзяцей усякія контррэволюцыйныя шавіністычныя ідэі, накіраваныя супроць соцыялізма. Яны нярэдка нацкоўваюць дзяцей адно на другое, на піонераў, усяляк за-



Лепшыя юнкоры газеты «Піонер Беларусі». Уверсе: тав. АЙБІНДЭР (Нова-Беліца), унізе: Анатолій БУГАЁЎ (Орша).

□ □ □

палохваюць дзяцей перадавікоў, стараюцца культываваць хуліганскія выхадкі сярод дзяцей, прабуюць разлагаць дзяцей усякімі метадамі. Нам трэба выявіць варожыя элементы ў школах—і тут нашы рабселькоры, дзяткоры, юнкоры могуць і павінны адыграць вялікую ролю».

І дзяткоры, асабліва за апошнія часы, у гэтых адносінах праводзяць немалую работу.

«Настаўнік Руднянскай школы, як потым выяснілася, кулак Драздоўскі, — паведамляе дзяткор **Кауфман** з Смалявіцкага раёна, — на працягу доўгага часу арудаваў у школе. Ён біў дзяцей, ставіў іх у кут, на лекцыях выхваляў фашыстаў, шкодзіў у практычнай рабоце (прысвоіў сабе ураджай ад прышкольнага ўчастка і інш.). Дзяткоры выкрылі гэтага, з дазволу сказаць, настаўніка, і зараз Драздоўскі зняты з рабо-

ты і асуджан пролетарскім судом».

Такія-ж факты мелі месца і ў Пліскай школе гэтага-ж раёна. Дзяткоры правільна ацанілі і шавіністычныя выступленні вучняў 8 класа Смалявіцкай поўнай сярэдняй школы, якія заявілі аб сваім нежаданні вывучаць беларускую літаратуру, бо яна, моў, нецікавая і т. д.

Другі дзяткор з Рэчыцкага раёна зусім нядаўна праз друк выкрыў групу дзяцей папоў, ксяндзоў і кулакоў, якая называла сябе «шайкай атамана Вішнёва» і доўгі час вяла разбуральную работу ў школе (між іншым, каб з большым поспехам праводзіць сваю «работу», яны прабраліся ў кіраўніцтва школьнай насценгазетай).

Актыўны дзяткор Дзяржынскага раёна **Коля Арцюшэўскі** ўлетку мінулага года выкрыў у сваім калгасе шкоднікаў, у тым ліку і свайго дзядзьку.

Гэтыя і дзесяткі іншых падобных прыкладаў гавораць аб тым, што работнікі друку і, зразумела, перш за ўсё мы —работнікі дзіцячых газет — павінны яшчэ больш завастраць увагу дзяткораў на павышэнні класавай пільнасці, з усёй уважлівасцю адносіцца да сігналаў нашай дзетвары. Трэба рашуча асудзіць паводзіны рэдакцыі «**Рэчыцкай праўды**», якая, атрымаўшы допіс дзяткора аб групоўцы папоўскіх і кулацкіх дзяцей, доўгі час не зварачала на яго ўвагі з той, відаць, прычыны, што аўтарам яго з'яўляецца не дарослы, а дзяткор.

Дзяткоры нашых газет у сваёй масе з'яўляюцца прыкладнымі, передавымі ў вучобе і грамадскай рабоце, піонерамі і вучнямі. Дзяткор — гэта ў большасці старшыня рэдкалегіі, важаты звяна, старшыня совета піонерскага атрада, член або старшыня вучкома ці проста піонер, які карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод астатніх дзяцей.

Рэйды і іншыя масавыя мерапрыемствы, праведзеныя за апошні час дзяткорамі, далі рад надзвычай дадатных вынікаў.

Напрыклад, усебеларускі рэйд дзяткораў па праверцы прычын адсеву вучняў са школ, нядаўна праведзены газетай «Піонер Беларусі», выявіў і вярнуў, асабліва ў вясковыя школы, дзесяткі дзяцей.

Дзяткоры атрада імя Клары Цэткін, — паведамляе Віцебскі гарадскі дзяткораўскі пост, — праводзілі рэйд па гарадоцкай шашы. Яны выявілі 12 дзяцей школьнага ўзросту, якія не наведвалі школу. Школа для гэтых дзяцей закупіла 12 пар бацінак і касцюмаў. Цяпер усе дзеці наведваюць школу.

Піонеры дэпо трамвайнага парку выявілі 7 дзяцей, якія не хадзілі ў школу.

Удзельнікі рэйда прышлі да дзяцей на дом, гутарылі з бацькамі, патрабавалі ад праўленняў калгасаў і дырэктароў школ, каб гэтым дзецям стварылі неабходныя ўмовы для нармальнай вучобы.

Даволі з вялікім эфектам прайшоў рэйд дзяткораў па праверцы гатоўнасці да зімы. Нішто не выслізнула ад пільнага вока дзяцей. Праверкай неабходных прылад для здаровага фізкультурнага адпачынку ў саміх піонераў і школьнікаў і ў магазінах, нават пласцінак і шрубак для канькоў і т. д., дзяткоры ў радзе раёнаў дабіліся добрых рэзультатаў.

Дзяткоры — гэта прыкладныя піонеры, арганізатары канкрэтных спраў у атрадах і школах.

Вось **Шульгін** Паўлуша з Аршанскага раёна. Ён «варашылаўскі стралок» і арганізатар стралковага гуртка ў школе. Па яго ініцыятыве і з яго асабістым удзелам быў арганізован лыжны прабег для перадачы рапарта XI усебеларускаму з'езду советаў.

Або **Фішбейн** — гомельскі піонер, адзін з лепшых эсперантыстаў. Ад удзелу ў нашых газетах ён праз мову эсперанта перайшоў да супрацоўніцтва ў балгарскім і японскім рэволюцыйным друку. 240 пісьмаў, атрыманых ім на мове эсперанта з-за граніцы, значна спрыяюць разгортванню інтэрнацыянальна-класавага выхавання піонераў і школьнікаў.

Перагортваючы старонкі дзіцячых газет за мінулыя гады і цяпер, мы навочна бачым вялікі рост нашых дзяткораў. Можна налічыць некалькі дзесяткаў дзяткораў, якія цяпер з'яўляюцца актыўнымі рабселькорамі, работнікамі друку, студэнтамі КІЖ'а. Удзел у друку спрыяў павышэнню іх зацікаўленасці да літаратуры. Вынікам гэтага з'яўляецца тое, што значная група дзяцей ужо даволі часта прысылае ў рэдакцыю нядрэнныя нарысы, вершы, апавяданні на актуальныя школьныя і піонерскія тэ-

мы. Аднак, тут нельга не заўважыць такога адмоўнага факта, што дзеці надзвычай лёгка адносяцца да напісання вершаў, апавяданняў і т. д., часта не разумеючы, што гэта звязана з вялікай упартай вучобай і працай. У гэтых адносінах з дзяткорамі неабходна праверці вялікую работу.

З ростам дзяткораў растуць іх запатрабаванні да газеты, да ўзмацнення кіраўніцтва імі. І мы лічым надзвычай дадатным фактам тое, што мы асабліва пасля ўсебеларускага злёта дзяткораў, часцей пачалі атрымліваць ад іх пісьмы з канкрэтнымі патрабаваннямі, з заявамі, што-б яны хацелі прачытаць цікавага ў газеце, з крытыкай паасобных нашых матэрыялаў. Гэта патрабуе ад нас чулых адносін да калектыўных тварцоў газеты, каб у практычнай рабоце улічыць іх здаровыя запатрабаванні, тым больш, што кіраўніцтва дзяткорамі ў нас усё яшчэ слаба пастаўлена. Цяпер нас ніяк не можа задаволіць пасылка час-ад-часу дзяткорам агульных інструкцыйных пісьмаў і асабістых указанняў накшталт «допіс твой слабы, пішы, моў, у далейшым на такія і такія тэмы». Гэта асабліва паказаў нам нядаўна праведзены ўсебеларускі злёт дзяткораў, дэлегаты якога зусім правільна ставілі пытанне аб больш цеснай, арганічнай сувязі рэдакцыі з дзяткорамі, аб праяўленні як з боку рэдакцыі, так і з боку дзяткораў большай аператыўнасці і ініцыятывы.

Яшчэ ў большай ступені гэта адносіцца да нізавога піонерскага і школьнага друку. Пры значным паляпшэнні работы нізавога піонерскага і школьнага друку ўсё-ж якасць яго астаецца слабай. Ёсць, безумоўна, рад цікавых, баявых газет, выпуск кожнага нумара якіх уносіць пэўнае ажыўленне ў работу атрада, школы, газет, зававаўшых у сваіх чытачоў вялікі аўтарытэт. Досыць прывесці насценгазету «Піонер» піонерскага атрада Гомельскага завода імя Ланцуцкага, якая ўмее ставіць на вырашэнне дзяцей цікавячыя іх пытанні, якая ўмела і цікава арганізавала ў часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі советаў збор канкрэтных прапаноў піонераў у наказ новаму складу горсовета.

Але значная частка піонерскіх і школьных насценгазет яшчэ «хварэюць» агульнасцю, перайманнем ад «дарослых» газет. Нярэдка дзіцячыя насценныя газеты запаўняюцца матэрыяламі аб няяскравых фактах.

Цяпер вялікая ўвага ўдзяляецца таму, каб кожны піонерскі атрад меў сваю насценгазету, якая-б актыўна дапамагала комсамольскай арганізацыі ва ўмацаванні нізавых ячэек піонерскай арганізацыі — атрада і звяна.

Усебеларускі з'езд рабсelькораў, які з'явіцца магутным фактарам далейшага росту і актывізацыі ўдарнікаў большэвіцкага друку, вызначыць і асноўныя задачы работы і кіраўніцтва дзяткорамі. Мы павінны дабіцца такога становішча, каб раённыя партыйныя і комсамольскія арганізацыі і, больш за ўсё, раённыя газеты лепш дапамагалі дзяткорам. На сёнешні дзень мы можам назваць толькі некалькі раённых газет, якія дапамагаюць дзяткорам, друкуюць іх матэрыялы. Да такіх газет перш за ўсё трэба аднесці **«Ленінскі прызыў»** (Орша), **«Большэвік Барысаўшчыны»** і **«Віцебскі пролетарый»**. Большасць-жа раённых газет на работу з дзяткорамі не звяртаюць патрэбнай увагі.

Неабходна ў далейшым прыняць больш рашучыя меры да людзей, якія бюракратычна адносяцца да рэагавання на сігналы дзіцячых газет і дзяткораў, лічачы гэта, відаць, справай другараднай, па сутнасці школьнай справе росту палітычнай актыўнасці нашай дзетвары.

За апошнія гады надзвычай вырасла цяга дзяцей да літаратуры, да кніжкі, газеты, журнала. Аб гэтым сведчыць хоць-бы і 150-тысячны тыраж дзіцячых газет БССР. Значна павысіўся ўдзел дзяцей у друку і не толькі ў піонерскім, але і ў раённых і нават цэнтральных газетах (каля 100 пісем атрымлівае штодзенна ад дзяткораў-піонераў і школьнікаў газета «Піонер Беларусі»). Дзяткоры вучацца на прыкладах большэвіцкага друку ўменню добра працаваць і вучыцца. Працуючы з газетай, яны павышаюць свой палітычны і агульны кругагляд.

Наша задача — лепш імі кіраваць, выхоўваць дзяткораў у духу непрымірымасці да ворагаў праnoўных, навучыць іх распазнаваць манеўры класавага ворага і заўсёды рашуча, настойліва выкрываць яго дзейнасць, дабіцца, каб кожная дзяткораўская заметка мабілізавала дзяцей на паляпшэнне якасці вучобы і комуністычнага выхавання маладога пакалення.

## Растуць рады рабселькораў і друк нацыянальных меншасцей

# Рабселькоры газеты „Орка"

*** С. ЧЭМКО ***

Селькоры «Оркі», як адна з частак рабселькораўскай арміі Совецкай Беларусі, сустракаюць III усебеларускі з'езд рабселькораў палітычна вырасшымі, узмацніўшымі сваю актыўнасць на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Ва ўсіх нацыянальна-польскіх калгасах і сельсоветах ёсць селькоры «Оркі». Праз іх газета звязана з шырокімі масамі працоўнага польскага насельніцтва Беларусі.

Пераважная частка селькораў «Оркі» —гэта лепшыя ўдарнікі, якія сваёй цябістай працай паказваюць прыклад высокасвядомых адносін да работы на соцыялістычным прадпрыемстве, у соўгасе і калгасе. Няменшую ролю нашы селькоры адыгрываюць і ў барацьбе за расквіт новай, соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме культуры.

У Маліноўскім сельсовеце, Парыцкага раёна, ужо два гады выпускаецца сельсовецкая шматтыражка **«Штурмовец рады»** на польскай мове. За гэты час газета здолела згрупаваць вакол сябе каля 50 селькораў. Многія з іх сталі актыўнымі селькорамі «Оркі».

Вось селькор **Альфонс Савіч** — дэлегат усебеларускага з'езда рабселькораў. Ён яшчэ зусім малады хлапец і не так даўно з ім мала хто лічыўся. Яму не адважваліся даручаць адказнай працы. Наогул у калгасах Маліноўскага сельсовета недаацэньвалі работу сярод моладзі.

За гэту справу моцна ўзялася шматтыражка «Штурмовец рады». Яна прыцягнула да сябе і Альфонса Савіча. З тых часоў Савіч часцей пачаў заглядаць у кароўнік, канюшню, на поле. Ён глыбока стаў уваходзіць у гаспадарчыя справы калгаса, прымаў актыўны ўдзел у праведзімых шматтыражкай і газетай «Орка» рэйдах. Такім шляхам Альфонс Савіч стаў селькорам «Оркі».

Першыя яго заметкі, якія з'явіліся на старонках «Оркі», паднялі яго аўтарытэт і сярод старэйшых калгаснікаў.



Раённыя газеты БССР, якія выдаюць старонкі на польскай мове.

Савіча выбіраюць членам рэдкалегіі шматтыражкі. І на гэтай адказнай рабоце ён сябе апраўдаў. Вострыя заметкі, трапныя карыкатуры Савіча моцна б'юць па гультаях і нядбайніках, высмейваюць дрэнных кіраўнікоў.

Сёння **Альфонс—знатны чалавек, аўтарытэтная асоба ў калгасе.** Ён таксама актыўны член Маліноўскага сельсовета.

А вось селькор **Феліцыян Пашкевіч** з Ланцуцкага сельсовета, **Капыльскага раёна.** Яму ўжо 57 год. Ён вырас у поўным значэнні гэтага слова на селькораўскай рабоце. У 1932 г. ён не мог яшчэ напісаць заметку. Пісаў пісьмы, носячыя асабісты характар, да паасобных працаўнікоў рэдакцыі «Оркі». З рэдакцыі мы яму пасылалі інструкцыйныя пісьмы, а пры выездзе ў Капыль-

скі раён працаўнікі рэдакцыі практычна вучылі тав. Пашкевіча пісаць у газету. Цяпер Пашкевіч свабодна ўладае пяром, ён піша не толькі пра справы свайго калгаса, але і сельсовета. На ўсякай рабоце ў калгасе Пашкевіч, не гледзячы на свае гады, паказвае сябе, як лепшы ўдарнік. Прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці калгаса і сельсовета. Тав. Пашкевіч рэдагуе насценную газету і загадвае калгасным чырвоным кутком. У чырвоным кутку Пашкевіч навёў парадак. У кутку чыста, утульна, калгаснікі вечарамі збіраюцца сюды пачытаць газеты і кніжкі. На падлозе не ўбачыш акурка, у чырвоным кутку не кураць.

Працуючы пісьманосцам, Пашкевіч дабіўся таго, што кожны калгасны двор выпісвае газету. За добрую дастаўку і распаўсюджванне друку Пашкевіча не раз прэміравалі.

Як прыкладнага селькора і ўдарніка ў калгасе, тав. Пашкевіча выбралі дэлегатам III усебеларускага з'езда рабселькораў.

Або возьмем тав. **Петрушкевіча** — селькора-настаўніка з Путчынскага сельсовета, Дзяржынскага раёна. Ён пераняў вопыт селькораў Маліноўскага сельсовета (Парыцкі р.) наладзіў сістэматычны выпуск шматтыражкі ў сваім сельсовеце і з'яўляецца яе адказным рэдактарам. На сваёй асноўнай рабоце ў школе ён праявіў сябе, як палітычна высокаразвіты і культурны педагог.

Селькор **Бейнаровіч** з Рудніцкага сельсовета быў ініцыятарам соцспаборніцтва калгасных жывёлагадоўчых ферм у сельсовеце. У сваім калгасе ён арганізаваў соцспаборніцтва пастухоў і гэты надзвычай каштоўны вопыт, праз старонкі «Оркі», быў перанесен у дзесяткі польскіх калгасаў БССР.

Селькораў, падобных тт. Савічу, Пашкевічу, Аляхновічу, газета «Орка» налічвае дзесяткі. Гэта наша галоўная апора, наш залаты фонд.

Але за мінулыя гады было ў нас некалькі выпадкаў пранікнення ў здаровае рабселькораўскае асяроддзе класава-варожых элементаў. Зразумела гэта імкненне класавага ворага: кулак і яго агенты бачаць магутнасць нашага бальшэвіцкага друку і яны робяць спробы прыбраць гэту мацнейшую зброю партыі к сваім рукам.

Рэдакцыя газеты «Орка» за два апошнія гады выкрыла і выкінула з радоў селькораў больш 20 ілжэселькораў. Сярод іх вядомы **Парфіеновіч**—кулацкі сын, якому некалькі гадоў удавалася ашукваць асобныя мясцовыя арганізацыі, тут і **Суднік**, — сын раскулачанага і высланага кулака, тут і кулак **Губарэвіч** і інш.

Як працуе рэдакцыя «Оркі» са сваімі селькорамі? Трэба прама сказаць, што гэта работа яшчэ з'яўляецца самым слабым месцам рэдакцыі. Мы яшчэ мала аддаем увагі нашым селькорам, асабліва іх выхаванню і вучобе.

Загадчыкі аддзелаў рэдакцыі не лічаць патрэбным пісаць селькорам таварыскія пісьмы аб недахопах асобных селькораўскіх заметак, не даюць селькорам указанняў, якія вучылі-б іх, спрыялі-б іх росту. У рэдакцыі ўкаранілася думка, што весці работу з рабселькорамі павінен толькі аддзел пісем працоўных, а астатніх аддзелаў гэта работа быццам не датычыць.

Не на вышыні знаходзіцца і работа над пісьмамі працоўных. Да гэтага часу глыбокі аналіз пісем, вывучэнне іх тэматыкі, адказы карэспандэнтам яшчэ не сталі галоўнымі пытаннямі ў рабоце рэдакцыі. Усё гэта прывяло да таго, што прыток пісем працоўных у газету «Орка» вельмі слабы.

Усебеларускі рабселькораўскі з'езд рэдакцыя «Оркі» павінна адзначыць рашучым паляпшэннем галоўнага ўчастка сваёй работы — работы з рабселькорамі і іх пісьмамі.

★



Газета піонераў польскай школы.

# Вырасціць кадры работнікаў яурэйскага большэвіцкага друку

✱ ✱ ✱ **О. Бэр** ✱ ✱ ✱

Газета **«Окцябр»** — орган ЦК КП(б)Б на яўрэйскай мове згуртавала вакол сябе досыць моцны атрад рабселькораў, камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі, лепшых ударнікаў прадпрыемстваў, калгасаў, прамысловых арцелей, культасветных установ.

Некаторыя масавыя мерапрыемствы, праведзеныя ў апошні час рэдакцыяй газеты «Окцябр», яшчэ больш узнялі актыўнасць рабселькораў нашай газеты.

Мы правялі ўсебеларускі конкурс абутковых прадпрыемстваў, спаборніцтва швэйных прадпрыемстваў Беларусі і Украіны на «лепшую фабрычную марку», усебеларускі конкурс промарцелей. Газета арганізавала інтэрнацыянальную сувязь яўрэйскіх і інтэрнацыянальных калгасаў БССР з рабочымі Іжорскага завода ў Ленінградзе. Вялікая работа праведзена газетай па падрыхтоўцы да ўсебеларускага і ўсесаюзнага з'ездаў советаў.

Няўхільна праводзячы ленінска - сталінскую нацыянальную палітыку, наша партыя забяспечыла актыўны ўдзел у большэвіцкім друку працоўных мас усіх шматлікіх нацыянальнасцей совецкай краіны. З кожным годам расце і мацнее сетка газет на мовах нацменшасцей, расце і мацнее іх рабселькораўская армія.

Адным з паказальнікаў росту актыўнасці нашых рабселькораў з'яўляецца ўсё ўзрастаючы прыток пісем, атрымліваемых і надрукаваных у газеце. У лістападзе 1931 г. газета «Окцябр» змясціла 162 рабселькораўскія карэспандэнцыі, у лістападзе 1932 г. — 180, у тым-жа месяцы 1933 г. — 196, у лістападзе 1934 г.— 261 карэспандэнцыю. Як відаць, асаблівае павелічэнне колькасці рабселькораўскіх пісем прыпадае імення на апошні час.

Тыраж газеты «Окцябр» за апошнія тры гады вырас на 25 процантаў, дасягнуўшы ў гэтым годзе 13.400 экземпляраў.

Апрача газеты «Окцябр» у БССР выходзяць яшчэ рад выданняў на яўрэйскай мове: комсамольская газета «**Юнгер арбейтэр»** піонерская **«Юнгер Ленінец»**, журнал **«Штэрн».**

Многія раённыя газеты перыядычна змяшчаюць яўрэйскія старонкі. Такавы газеты: «Віцебскі пролетарый», «Палеская праўда», «Комунар Магілеўшчыны», «Комуніст» (Бабруйск), «Чырвоная Полаччына», «Чырвоная Тураўшчына», «Ленінскі шлях» (Слуцк), «Комуна» (Клімавічы) і інш. Рад фабрычна-заводскіх шматтыражак таксама маюць яўрэйскія полосы або друкуюць асобныя заметкі на яўрэйскай мове. Да гэтага трэба дадаць шырока распаўсюджаныя насценныя газеты на яўрэйскай мове па прадпрыемствах, у калгасах, арцелях і ўстановах.

Мы, на жаль, не маем дакладных лічбаў ліку рабселькораў, прымаючых на роднай мове ўдзел ва ўсёй гэтай вялікай сетцы яўрэйскага друку Беларусі, аднак, зусім відавочна, што колькасць удзельнікаў комуністычнага яўрэйскага друку Беларусі расце вельмі хутка, расце сапраўды не па днях, а па гадзінах.

Гэтыя поспехі, зразумела, зусім не азначаюць, што ўжо ўсё зроблена. У нас яшчэ многа работы ўпераддзе. І ў далейшым нашы яўрэйскія газеты не павінны аслабляць работы па прыцягненню яшчэ большага актыва з ліку ўдарнікаў прадпрыемстваў і калгасаў. Разам з гэтым павінна весціся бязлітаснае выкрыццё ўсіх класава - варожых элементаў, прабуючых пралезці ў рабселькораўскія рады.

Слабым участкам работы газеты «Окцябр», як і раду іншых выданняў на яўрэйскай мове, а таксама яўрэйскіх старонак у раённых газетах з'яўляецца **вучоба рабселькораў.** У гэтай галіне нам прадстаіць яшчэ вельмі многа работы.

Рэдакцыя газеты «Окцябр» ужо зрабіла пачатак, і надрэнны пачатак, гэтай важнейшай работы. Рэдакцыя арга-

нізавала **рабселькораўскія семінары** ў Менску, Барысаве і Гомелі. Лепшы з усіх працуе гомельскі семінар, арганізаваны пры Доме партасветы. Але гэта яшчэ нас не можа задаволіць. Задача заключаецца ў тым, каб не спыніцца на гэтых першых дасягненнях і пайсці далей па шляху ахопу вучобай значна большага ліку рабселькораў і паляпшэння якасці вучобы.

Трэба таксама адзначыць, што рост колькасці яўрэйскіх старонак ідзе значна хутчэй, чым рост **кадраў** для гэтых старонак. З кадрамі для яўрэйскіх выданняў у БССР наогул слаба.

Нядаўна на старонках «Окцябра» мы далі слова работнікам яўрэйскіх старонак аб іх рабоце. Таварышы скардзяцца іменна на недахват патрэбных кваліфікаваных работнікаў для яўрэйскіх старонак. У рэзультаце некаторыя яўрэйскія старонкі вельмі дрэнна спраўляюцца са сваімі задачамі, часта сеюць няграматнасць, некультурнасць, скажаюць, мову, а яўрэйскія старонкі **аршанскай, смалявіцкай і клімавіцкай** газеты допускаюць і грубыя **палітычныя** памылкі. Асобныя раённыя газеты не выконваюць указання ЦК КП(б)Б аб перыядычнасці выпуску яўрэйскіх старонак: замест аднаго разу ў пяцідзенку ці дэкаду выпускаюць яўрэйскія старонкі раз у месяц, а то і радзей.

Трэба сур'ёзна заняцца падрыхтоўкай работнікаў для нацыянальнага яўрэйскага друку.

Даць комуністычнаму яўрэйскаму друку БССР кваліфікаваныя большэвіцкія кадры — вось задача, вырашэнне якой павінна ўзняць гэты друк на яшчэ вышэйшую ступень.

---






**На здымках: лепшыя рабкоры-ўдарнікі менскай галянтарэйнай фабрыкі імя Куйбышэва.**



# ПРЫКЛАД БАРАЦЬБЫ ЗА ЎМАЦАВАННЕ КАЛГАСНАЙ ГАСПАДАРКІ

*** Л. МЭРКІС ***

Няўхільнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, аграмаднейшыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва змянілі твар літоўскай вёскі ў БССР. Змянілася эканоміка літоўскай вёскі, змяніліся людзі і іх інтарэсы.

Найярчэйшым прыкладам барацьбы працоўных сялян-літоўцаў за ўмацаванне калгаснай гаспадаркі, за ажыццяўленне лозунга т. **Сталіна** — зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі — з'яўляецца работа селькораў газеты **«Раўданасіс артояс»**.

З моманту выхаду першага нумара газеты «Раўданасіс артояс» (у 1927 г.) прайшло каля 7 год. За гэты час мы маем велізарны рост культурна-палітычнага ўзроўню літоўскага працоўнага сялянства, у тым ліку і аграмадны рост селькораў.

У першы час свайго існавання газета «Раўданасіс артояс» не мела моцнага селькораўскага актыва.

Калі праглядзець першыя нумары «Раўданасіс артояс», можна ўбачыць, што ў іх амаль зусім няма селькораўскіх допісаў. Цяпер-жа ў кожным нумары газеты мы сустрэнем ад 5 да 10 селькораўскіх карэспандэнцый на актуальныя тэмы.

Ад года ў год газета ўсё больш абрастала селькорамі. Аднак, больш сур'ёзная, арганізаваная работа селькораў пачынаецца з моманту 1-га ўсебеларускага злёта селькораў газеты «Раўданасіс артояс», які адбыўся ў 1932 годзе.

Праўда, і зараз яшчэ рэдакцыя газеты «Раўданасіс артояс» не можа пахваліцца вялікай колькасцю селькораў. Але няма ўжо літоўскага нацыянальнага сельсовета, калгаса або школы, дзе не было-б селькораўскай брыгады ці пасобных селькораў, якія актыўна змагаюцца за калгасную вёску.

У сувязі з падрыхтоўкай да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў значна ажывіўся селькораўскі рух у літоўскіх сельсоветах і калгасах. **Па ініцыятыве селькораў Малькаўскага нацыянальнага сельсовета** (Мсціслаўскі раён) **разгарнулася соцспаборніцтва селькораў на лепшую падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.**

Соцспаборніцтва ахапіла амаль усю селькораўскую масу і ўнесла вялікае ажыўленне ў рабоце. Палепшыўся змест паступаючых у рэдакцыю допісаў. Разгарнулася барацьба за лепшае і хутчэйшае выкананне ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Дзякуючы разгорнутаму соцспаборніцтву калгас імя Гедрыса (Чавускі р.), не глядзячы на вялікі недахват рабочай сілы, адным з першых у раёне выканаў усе абавязковыя пастаўкі, першым адгукнуўся на заклік партыі аб продажы лішкаў хлеба дзяржаве.

Насценная газета калгаса імя Гедрыса **«Чырвоны трактар»** выходзіць рэгулярна адзін раз у пяцідзёнку. Яе рэдактар т. **А. Лапіеніс** — лепшы, ударнік калгаса, лепшы і старэйшы селькор га-

веты «Раўданасіс артояс» (піша ў газету амаль з пачатку яе выхаду — з 1927 г.), вядзе актыўную барацьбу з антыкалгаснымі вылазкамі кулацкіх элементаў. Тав. Лапіеніс карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод калгаснікаў і з'яўляецца лепшым памочнікам партгрупы калгаса. Як лепшы ўдарнік, т. Лапіеніс у XVII-годдзе Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі быў праўленнем калгаса і рэдакцыяй газеты «Раўданасіс артояс» прэміраван.

«Раўданасіс артояс» мае рад такіх актыўных і адданых справе калгаснага будаўніцтва селькораў і ў другіх калгасах. Вось, напрыклад, т. **Хадунька** з Верацейскага сельсовета (Дубровенскі раён), т. **Курклістыс** з Малькаўскага сельсовета (Мсціслаўскі раён), тт. **Прачкіс і Панштус** з Глыбачанскага сельсовета і т. д. Калі разгарнулася соцспаборніцтва селькораў на лепшую падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, т. Хадунька арганізуе калгаснікаў калгаса «Раўдонаі вішня» на хутчэйшае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай. Ён праводзіць растлумачальную работу аб добраахвотным продажы лішкаў хлеба дзяржаве і арганізуе чырвоны абоз імя VII з'езда советаў. Усе гэтыя селькоры, як актыўныя барацьбіты за правядзенне лініі партыі на вёсцы, у часе 17-годдзя Окцябрскай рэволюцыі былі рэдакцыяй «Раўданасіс артояс» прэміраваны.

Адным з асноўных недахопаў ва ўсёй рабоце селькораў «Раўданасіс артояс» з'яўляецца тое, што яны ў большасці **не звязаны з раённымі газетамі.** Вельмі рэдка хто з нашых селькораў піша ў раённыя, а тым больш у цэнтральныя беларускія і рускія газеты. У выніку работа літоўскіх нацыянальных калгасаў асвятляецца амаль выключна на старонках газеты «Раўданасіс артояс». Раённыя газеты мала ўвагі звярачаюць на работу сярод селькораў нацыянальных меншасцей. З гэтым з'явішчам неабходна змагацца. Селькораў з літоўскіх калгасаў і сельсоветаў трэба прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў рабоце раённых газет. І зрабіць гэта павінны рэдакцыі раённых газет разам з рэдакцыяй «Раўданасіс артояс».

★
**НІЗАВЫ калгасны ДРУК БССР**




★
Насценгазеты польскіх нацыянальных калгасаў.
★

# Яму не давялося быць на з'ездзе

**ПАМЯЦІ СЕЛЬКОРА**
**Змітра Васільевіча**
**КРЫВІЦКАГА**

Уночы з 6-га на 7-е студзеня рукою класавага ворага вырван з нашых радоў лепшы селькор-ударнік Талачынскага раёна, дэлегат усебеларускага з'езда рабселькораў, таварыш ЗМІЦЕР ВАСІЛЬЕВІЧ КРЫВІЦКІ.

Абнаглелы класавы вораг добра ведаў, на каго падымаў сваю руку. Увесь жыццёвы шлях Змітра Крывіцкага — гэта шлях нястомнай барацьбы з класавым ворагам, шлях барацьбы за справу ЛЕНІНА-СТАЛІНА. У раёне не знойдзецца ні аднаго селькора, які-б не ведаў т. Крывіцкага. Сотні калгаснікаў ведалі яго і па яго вострых заметках у газеце, і па яго практычнай большэвіцкай рабоце ў калгасе.

Жыццё тав. Крывіцкага — яркі прыклад таго, якім павінен быць селькор, як ён павінен змагацца за лінію партыі. Вось чаму кожны селькор Совецкай Беларусі павінен ведаць, як жыў, змагаўся і загінуў на баявым пасту селькор-комуніст Зміцер Крывіцкі.

Нарадзіўся Змітрок у сям'і спрадвечнага батрака ў маёнтку пана Градзялкоўскага. З малых гадоў Змітрок разам з бацькамі працаваў ад рання да позняй ночы на пана. Бацька Змітра, замораны голадам і нечуванымі здзекамі, памёр у часе імперыялістычнай вайны. Маці тав. Крывіцкага цяпер мае 68 год і, не гледзячы на свой узрост, яна з'яўляецца лепшай ударніцай калгаса «ЗАБАЙКАЛ».

1917 год. Окцябр. Былыя батракі сталі гаспадарамі маёнтка Градзялкоўшчыны. Змітру тады толькі што мінула 17 гадоў. Ён з'яўляецца адным з арганізатараў батрацкай комуны ў былым маёнтку.

Але Змітру не доўга прышлося працаваць над умацаваннем маладой комуны. Белыя банды з усіх бакоў насядалі на маладую Совецкую рэспубліку. Тав. Крывіцкі пакідае комуну і ідзе з вінтоўкай у руках абараняць заваяванні Окцябра.

1919 і 1920 гады. Тав. Крывіцкі ў радах Чырвонай арміі змагаецца супроць белапольскіх банд на Заходнім фронце, потым пападае на ліквідацыю бандытызма на Украіне, прымае ўдзел у разгроме контррэволюцыі на Паўночным Каўказе.

У 1923 годзе, калі пасля грамадзянскай вайны краіна прыступіла да гаспадарчага аднаўлення, т. Крывіцкі варочаецца ў родную вёску і з новым запалам бярэцца за работу.

Год за годам у жорсткай барацьбе з кулацтвам мацнее комуна. У комуну ўліваюцца бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі наўкольных вёсак, і комуна пе-ратвараецца ў калгас «Забайкал». Старшынёю праўлення калгаса выбіраюць старэйшага комунара, лепшага комуніста — грамадскага работніка Змітра Крывіцкага.

Побач з «Забайкалам» знаходзіцца адзін з буйных калгасаў Перавалацкага сельсовета—калгас «6-ты з'езд советаў». Гэты калгас таксама быў арганізован пры актыўным удзеле т. Крывіцкага. У 1933 годзе ў гэты калгас пралезлі кулацкія і бандыцкія элементы, якія разбуралі гаспадарку з сярэдзіны. Калгас «6-ты з'езд советаў» у выніку кулацкай работы стаў самым адстаючым у сельсовеце.

Раённая партарганізацыя занялася справамі калгаса «6-ты з'езд советаў». Каб навесці ў калгасе парадак, рашылі паслаць туды старшынёй т. Крывіцкага. І тав. Крывіцкі ўвесь з галавою ўваходзіць у справу аздараўлення калгаса.

Першае, з чаго пачаў Змітрок сваю работу ў новым калгасе,—гэта выгнанне з калгаса кулакоў, зладзеяў і бандытаў Грышманаў, Раманкевічаў і іншых. Першую перамогу калгаснікі калгаса «6-ты з'езд советаў» атрымалі пад кіраўніцтвам тав. Крывіцкага ў веснавую сяўбу 1934 года.

Далей адну за адной калгас пачаў акуратна выконваць усе гаспадарча-палітычныя кампаніі, своечасова справляўся з уборкай ураджаю, датэрмінова выконваў

дзяржаўныя пастаўкі і загатоўкі.

Таварыш Крывіцкі працаваў не адзін. Ён згуртоўваў вакол сябе актыў лепшых калгаснікаў. Ён арганізаваў у калгасе прыкладную баявую насценгазету. Насцен газета і селькоры былі ўвесь час лепшымі дапаможнікамі тав. Крывіцкага.

Увосень мінулага года пленум РВК прысуджае Пярэвалацкаму сельсовету пераходны чырвоны сцяг РК і РВК, а тав. Крывіцкага як аднаго з больш актыўных членаў прэзідыума сельсовета і як старшыню перадавога ў сельсовеце калгаса ўзнагароджвае граматай ударніка і прэміруе гадзіннікам.

Уся работа і барацьба т. Крывіцкага была цесна звязана з нашым большэвіцкім друкам. Аб перамогах, недахопах, памылках, аб усіх канкрэтных вінаватых ён безупынна пісаў у насценную, раённую, цэнтральныя газеты. Ён моцна, едка, палітычна завострана праз друк вытручваў усё нягоднае, усё варожае і шкоднае. Тав. Крывіцкі не толькі пісаў— ён дамагаўся, каб кожная яго заметка зрабіла сваю справу, каб па ёй былі прыняты патрэбныя меры. Працуючы старшынёй калгаса, т. Крывіцкі сам паказваў прыклад таго, як павінен кіраўнік арганізацыі адносіцца да сігналаў друку: ні адна заметка пра калгас «6-ты з'езд советаў» не засталася без рэагавання.

Смеласць і паслядоўнасць — вось характэрныя адзнакі тав. Крывіцкага, як селькора. Ён ніколі не хаваўся за псеўдонім, ён адкрыта паражаў ворага і ў друку і на непасрэднай рабоце ў калгасе. Цяжка пералічыць нават палову заметак т. Крывіцкага, па якіх выкрыты важнейшыя справы аб кулацкай засмечанасці калгасаў, аб шкодніцтве і інш.

6-га студзеня 1935 г. пад вечар бюро Тапачынскага РК КП(б)Б спухала даклад тав. Крывіцкага аб становішчы і развіцці жывёлагадоўлі ў калгасе. Райком прызнаў работу добрай і даў указанні тав. Крывіцкаму, што трэба рабіць, каб к канцу 1935 года мець яшчэ лепшыя вынікі па жывёлагадоўлі.

Гадзін у 10 вечара, атрымаўшы баявую пуцёўку ад партыйнай арганізацыі раёна, тав. Крывіцкі паехаў дамоў. Дарога невялікая. Па шашы ад Тапачына да калгаса «6-ты з'езд советаў» 12 кілометраў. За чатыры кілометры ад мястэчка Змітрок быў забіт. Тупой халоднай зброяй, па-зверску яму была раздроблена галава. Маладой, гарачай крывёю нястомнага барацьбіта—большэвіка—селькора была заліта дарога і белы снег.

У гэтую-ж ноч, як толькі ў раёне даведаліся аб забойстве, пачалося расследванне справы. К раніцы 7-га студзеня забойцы былі затрыманы. Аказалася—гэта вырадкі разбітага, але не дабітага класавага ворага—РАМАНКЕВІЧ ЕРМАЛАЙ, ГРЫШМАН БАРЫС і РАМАНКЕВІЧ ЯЗЭП.

Следства па забойству Крывіцкага закончана. Віноўнасць Грышмана і двух Раманкевічаў поўнасцю ўстаноўлена. Забойцы знаходзяцца пад вартай.

Амаль ва ўсіх калгасах, соўгасах і на прадпрыемствах раёна адбыліся лятучыя мітынгі. Узмацненнем класавай пільнасці, бязлітаснай барацьбой з ворагамі і іх агентамі, узорнай арганізацыяй падрыхтоўкі да вясны адказвалі калгаснікі, рэдкалегіі насценгазет і селькоры на забойства Змітра Крывіцкага.

У адказ на вылазку класавых ворагаў аднаасобнікі ўступалі ў калгасы. У адной толькі суседняй з калгасам «6 з'езд советаў» вёсцы Любатынь 17 беднякоў і серадпякоў на мітынгу заявілі аб уступленні ў калгас, а па раёну ў калгасы ўступіла звыш 200 аднаасобнікаў.

Пахавалі тав. Крывіцкага ў раённым цэнтры. На пахаванне сабраліся тысячы працоўных не толькі мястэчка, але і з многіх калгасаў раёна. Сям'і т. Крывіцкага раённыя арганізацыі аказалі дапамогу. Партарганізацыя Пярэвалацкага сельсовета і сельскі совет узялі на сябе абавязацельства — дапамагаць сям'і Крывіцкага выхаваць дзяцей Змітра такімі-ж бясстрашнымі байцамі, якім быў іх загінуўшы бацька.

Зверскае забойства тав. Крывіцкага яшчэ і яшчэ раз патрабуе ад нас, рабселькораў і работнікаў друку, быць больш пільнымі. Ніякай літасці да класавага ворага! Яшчэ лепш завострым наша селькораўскае пяро супроць класавых ворагаў, супроць іх агентаў — жулікаў, подыраў, разгільдзяеў.

Прашчай, таварыш Крывіцкі! Табе не ўдалося прысутнічаць на нашым з'ездзе. Але тысячы рабселькораў Совецкай Беларусі будуць, як і ты, бязлітасна змагацца з рэшткамі класавага ворага, змагацца за канчатковую перамогу соцыялізма.

## НІЗАВЫ ДРУК БССР НА ПЕРАДАВЫХ ПАЗЫЦЫЯХ БАРАЦЬБЫ ЗА СОЦЫЯЛІЗМ



# За лепшы ў свеце шоўк

Каля фанернага шчыта, што пастаўлен недалёка ад агрэгатаў першай брыгады прадзільшчыкаў, сабралася з дзесятак рабочых.

— Чытай голасна, каб усе чулі,—раздаюцца галасы.

— Ну, слухайце... Тут нешта пра Мазалёва зноў пішуць:

**«Зусім не так даўно прадзільшчык Мазалёў быў адным з дрэнных рабочых першай брыгады...»**

— І чаго яны хочуць ад хлапца, ён жа ўжо...

— Пачакай, пачакай:

**...«Не было такога нумара насценнай газеты, каб яго не кляймілі за бракаробства, за бой дэталей і т. д. Крытыка і дапамога газеты не яго моцна падзейнічалі і ў апошні час Мазалёў стаў добра і культурна працаваць: за мінулы месяц мае толькі 0,27 проц. браку»...**

— Во, гэта голас...

...І цяпер ужо многім з нас трэба ў Мазалёва вучыцца рабоце...

— Правільна...

Да гуртка рабочых падышоў майстар Янушэўскі:

— Ну, даволі, даволі хлопцы... Час ужо на змену...

Разышліся рабочыя. На шчытку асталася вісець стракатая ад шматлікіх малюнкаў і рознакалёрных загалоўкаў брыгадная насценка **«За якасць».**

Да рэчы, зусім яшчэ нядаўна газета называлася «Ўдарнік шаўковай». Гэта быў стандартны загаловак усіх брыгадных штодзенак фабрыкі «Магвалакно». Але, стараючыся дабіцца высокай якасці сваёй прадукцыі, прадзільшчыкі першай брыгады змянілі назву сваёй газеты. І словы «За якасць» сталі не толькі загалоўкам газеты, але і яе дэвізам.

Рэдактар гэтай брыгаднай насценкі т. Ражкоў з захапленнем расказвае аб тым, якія баі давала газета бракаробам, як яна дапамагала адстаючым. Праўда, спачатку была шэранькая, цмяная, няграматная. Не было ахвоты яе чытаць, рабкораўскія допісы часта стралялі «ў халастую». Прышлося рэдкалегіі моцна змагацца за дзесятнаць допісаў, падумаць аб лепшым афармленні газеты.

Сярод рабочых брыгады знайшлі нядрэннага мастака т. **Захарава,** прыцягнулі яго да работы над газетай. І шэранькі лісток насценкі стаў ветліва ўсміхацца са шчытка вясёлымі і едкімі малюнкамі. Набылі прыемны выгляд і радкі тэксту.

Аднак, гэта яшчэ не ўсё. Галоўнае— не рабіць «халастых» стрэлаў. І калі адзін з лепшых ударнікаў і рабкораў

---

**Уверсе на здымках: злева—тав. ГАРНАК —лепшы рабкор-ударнік, прадзільшчык магілеўскай шоўкавай фабрыкі, справа — рэдкалегія насценгазеты «Ударнік шоўкавай». У цэнтры стаіць тав. РАЖКОЎ— делегат усебеларускага з'езда рабсельнкораў**

т. Гарнак напісаў у газету аб тым, што ім заўважана працяканне віскозаправадоў на 23 машыне, газета дабілася таго, каб правады былі прывезены ў парадак. Калі рабочы **Шаблоўскі** знайшоў, што не ў меру тоўстыя крышкі на гнёздах цэнтрафугі выклікаюць брак ніткі, і звярнуўся за дапамогай да газеты, — ён праз некаторы час атрымаў праз газету адказ ад зменнага інжынера т. **Лютава**, што крышкі будуць выпраўлены.

Асаблівую ўвагу газета аддавала барацьбе з бракаробамі. Напісалі, скажам, рабкоры заметку аб тым, што рабочы Агеенка ня ўкі «ўчастак» браку і што «ўзяў ён на сябе абавязак біць не менш адной дэталі ў дзень». — рэдкалегія змяшчае гэты допіс, але на гэтым не супакойваецца. Праз дзень-два т. Ражкоў пытае ў майстра:

— Ну, як там Агеенка? Не падцягваецца? Вы-б яму дапамаглі, навучылі...

А там, глядзіш, і сам майстар напіша ў газету аб тым, што ўжо адным бракаробам менш.

Такімі шляхамі рэдкалегія насценкі «За якасць» заваёўвае моцны аўтарытэт у рабочых, згуртоўвае вакол сябе рабкораўскі актыў. Зараз у газету першай прадзільнай брыгады пішуць больш 30 рабкораў. І гэта з 80 рабочых брыгады.

Такая колькасць рабкораў у адной брыгадзе невыпадковая. Яна рэзультат рэўнай арганізатарскай работы рэдкалегіі. Нярэдка т. Ражкоў распытвае ў таварышоў па рабоце аб хвалюючых іх пытаннях, раіць, як і аб чым напісаць у газету. І бывае так:

— Ну, што чуваць?

— Ды нічога сабе, каб не справа на малочным пункце... Непарадкаў там многа.

— А ты-б у газету...

— Што-ж, давядзецца... Пайду дадому, дык напішу, а заўтра табе аддам.

— Навошта-ж адкладваць на заўтра?

— А на чым я напішу... І алоўка няма...

— Кінь ты, усё ёсць. Хадзі вось сюды, тут у мяне прызапашаны і папера і аловак.

Тут-жа навічок — рабкор атрымае параду, як лепш напісаць, а ўжо на заўтра ў газеце з'яўляецца яго маленькая баявая заметка.

Барацьба за дзейснасць заметак, за добрае афармленне газеты і, урэшце, штодзенная жывая і цесная сувязь рэдкалегіі з рабкорамі далі магчымасць газеце пазбавіцца двух істотных недахопаў: яна пішацца не адным рэдактарам, як гэта часта бывае, а, па-другое, большасць рабкораў пад сваімі допісамі ставяць не псеўданім, а сваё прозвішча.

— Усё гэта, зразумела, добра, — заўважае т. Ражкоў, — але-ж гэта яшчэ не ўсё. Мы яшчэ не навучыліся кіраваць рабкорамі і вучыць іх.

І калі не прапусціць міма вушэй гэту заўвагу рэдактара і прыглядзецца як след да справы, то стане ясным, што рэдкалегія «не навучылася кіраваць рабкорамі» не таму, што не хацела ці забыла аб гэтым. Не, рэдкалегія і ў першую чаргу рэдактар не ведаюць, **як** арганізаваць масавую, выхаваўчую работу сярод рабкораў. А гэта толькі таму, што асноўны арганізатар пізавога друку на фабрыцы — шматтыражка **«Чырвонае верацяно»**, яе рэдакцыя не кіруе нізавымі газетамі, не вучыць рэдактароў штодзенна, як трэба працаваць.

Прыкра, але факт.

І вось зараз, калі лепшы рэдактар брыгаднай газеты на шаўковай т. Ражкоў рыхтуецца ехаць у якасці дэлегата на ўсебеларускі з'езд рабселькораў, ён мае на ўвазе знайсці там адказ на хвалюючае яго пытанне:

— Як па-сапраўднаму арганізаваць сярод рабкораў масавую, выхаваўчую работу?

# ГАЗЕТА, ЗВЯЗАНАЯ З МАСАМІ

*** **М. САКАЛОЎСКІ** ***

У праўленні калгаса **«Пуцілавец»** сабраліся калгаснікі. Яны ўважліва ўглядаюцца ў вісячы на сцяне спісаны няроўнымі літарамі ліст. Гэта выйшаў чарговы нумар калгаснай насценгазеты **«Ўдарнік».**

«Ударнік» выходзіць пакуль што ў тыдзень два разы. І ўсякі раз, як ён з'яўляецца на сцяне, праўленне калгаса напаўняецца калгаснікамі, якія ўважліва прачытваюць кожны радок, дзеляцца сваімі ўражаннямі.

— Ну, і прабраў-жа наш «Ударнік» каваля Засадыча і правільна прабраў, —гавораць калгаснікі, абмяркоўваючы заметку, у якой указваецца, што каваль Засадыч рамантуе інвентар аднаасобнікаў без дазволу праўлення, прысвойвае грошы, а калгаснага інвентару не рамантуе.

Так абмяркоўваецца кожная заметка. І так пасля выхаду кожнага нумара.

Калі-ж бывае затрыманне ў выпуску газеты, калгаснікі, прышоўшы да рэдактара т. **Шадуркі** Уладзіміра, кажуць:

— Што-ж ты зрываеш план выпуску газеты?

Нядаўна была такая замінка з выхадам газеты, і калгаснік-ударнік тав. **Багушэвіч** Раман, прышоўшы да рэдактара, запытаў:

— Чаму не выпускаеш газету, можа няма заметак, дык мы жыва арганізуем —і тут-жа піша заметку.

За ім прышоў калгаснік **Левановіч** і зноў такі да рэдактара:

— Што-ж наш «Ударнік» не выходзіць, час ужо яму выйсці?

Так самі калгаснікі падштурхваюць рэдкалегію і дапамагаюць у выпуску насценгазеты. Таму не было вялікіх перарываў у выхадзе газеты. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў 1934 г. вышлі 94 нумары газеты, у сярэднім амаль 1 нумар у тры дні, як і намечана было па плану.

Рэгулярна выпускаючы газету, рэдкалегія змагаецца за яе высокую якасць. Адной з дадатных якасцей з'яўляецца тое, што «Ўдарнік» робіцца рукамі калгаснікаў, а не адной рэдкалегіяй ці адным рэдактарам, як гэта часта яшчэ бывае з многімі насценгазетамі.

Як гэта дасягаецца? Дасягаецца гэта тым, што рэдкалегія праводзіць сістэматычную работу не толькі сярод пастаянных сваіх насценкораў, якіх ёсць 24, але вядзе работу сярод усіх калгаснікаў. Калі газета праводзіць нараду насценкораў і свайго актыва (а яны часта склікаюцца), то шырока апавяшчае аб гэтым усіх калгаснікаў, якія з ахвотай наведваюць гэтыя нарады.

Па-другое, калгаснікі ахвотна пішуць у «Ўдарнік» і таму, што ён дабіваецца рэагавання на змешчаныя і нязмешчаныя заметкі.

І таму газета адыгрывае вялікую арганізуючую і выхаваўчую ролю. Пакажам гэта на некалькіх фактах.

Падрыхтоўка да вясны. Газета яшчэ з восені загаварыла аб ёй. І як загаварыла. У адным са снежаньскіх нумароў газета вельмі жыва і цікава паставіла пытанне аб рамонце калёс. Пад загалоўкам «Чаму нядоўгавечны калёсы» даецца такі матэрыял. Да веснавой сяўбы 1934 г. калёсы былі адрамантаваны раптоўна і за адзін сезон вышлі са строю.

— Чаму гэта так?—пытаецца газета і адказвае:

«Калёсы мы рамантавалі безгаспадарча, ужываючы сыры матэрыял». У канцы заметкі вывад: «Мы павінны загадзя падрыхтаваць сухі матэрыял і так у гэтым годзе адрамантаваць калёсы, каб іх хапіла на 5—6 гадоў».

Праўленне тады-ж улічыла гэту каштоўнейшую прапанову і загатовіла сухога матэрыялу для рамонту калёс. Зараз калёсы амаль усе адрамантаваны, адрамантован амаль увесь астатні інвентар, засыпаны, ачышчаны і добра захаваны насенны і страхавы фонды.

Многа газета аддае ўвагі падрыхтоўцы каня да веснавой сяўбы, беражлівым адносінам да калгаснай маемасці. Калі часта матэрыял не ўлазіць у

газету, ён падаецца коратка і канкрэтна. Так, у нумары за 24 студзеня пад рубрыкай «Нашы прапановы» коратка сказана:

**«БРЫГАДЗІРУ БРЫГАДЫ № 3 ЧАЙКО М. С.**

**Прывесці ў парадак інвентар. Прывезці на калгасны двор і паставіць пад навес жняярку.**

**ІНВЕНТАРНАЙ КАМІСІІ**

**Неадкладна скончыць інвентарызацыю.**

**ПРАЎЛЕННЮ КАЛГАСА**

**Стварыць брыгады для рамонту інвентару..**

**Разлічыцца з калгаснікамі за 1934 г.».**

Усе гэтыя прапановы былі рэалізаваны і дапамаглі добра падрыхтавацца да веснавой сяўбы.

Дзякуючы насценгазеце значна ўмацавалася ў калгасе дысцыпліна. Вернемся крыху назад. Уборка сенажаці—гарачая пара. А сям'я калгасніка Леванцэвіча не выходзіла на работу. «Ударнік» аб гэтым змяшчае заметку. І ў той-жа дзень Леванцэвіч прыходзіць да т. Шадуркі і гаворыць:

— Больш не пішы. Хопіць. Зараз па-ўдарнаму з сям'ёй буду працаваць і даб'юся, што сам буду насценкорам.

Ён стрымаў сваё слова, добра працаваў і, калі заўважыў, што калгасніца Жук Люба позна выходзіць на работу і нячыста зграбае сена, напісаў аб гэтым у насценгазету заметку.

Калгасніца Наумовіч М. ухілілася ад некаторых работ, ён яе раскрытыкаваў праз насценгазету, і яна больш не адмаўлялася ад работы.

Зараз з дапамогай настаўніка выпускаецца **светавая газета «ПРАЖЭКТАР».**

Яна дапаўняе насценную газету. Так насценгазета пісала аб тым, што пудоў 25 жалеза ляжыць беспрытульным. У светавой газеце паказваецца карыкатура, што на кучу жалеза пашоў сам старшыня калгаса Зяцькевіч, зачапіўся за яе, паваліўся, потым устаў і, не заўважыўшы жалеза, пашоў далей. Следам за гэтай даецца другая карыкатура, як раскрадваецца гэта жалеза. Паказваецца чалавек, які набраў з гэтай кучы шыпоў. Надпіс «Сабе на абручы».

«Пражэктар» робіць яшчэ больш дзейснай газету «Ўдарнік». Некалькі слоў пра рэдактара газеты т. Шадурка Уладзіміра.

Вечар. Калгаснікі адпачываюць. Заходзім да тав. Шадуркі і знаходзім яго за выпускам чарговага нумара «Ўдарніка». На ўсю паласу аншлаг: «Сустрэнем III усебеларускі з'езд рабселькораў рытворчымі перамогамі». Гэта—нумар за 15 лютага. У нумары падводзяцца вынікі падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, што зроблена і што яшчэ трэба зрабіць. Крапатліва, з любоўю радок за радком запаўняецца газета.

Тав. Шадурка—ударнік. Працуючы па палявых работах, ён у мінулым годзе меў 400 працадзён.

— Інакш і быць не можа,—гаворыць ён,—калі-б я сам дрэнна працаваў, які-б з мяне быў рэдактар, якое я меў-бы права другіх крытыкаваць.

За ўдарную работу ён атрымаў у калгасе грашовую прэмію.

Як лепшы селькор і рэдактар насценгазеты, прэміраваўся рэдакцыяй раённай газеты «Калгаснік». На раённым злёце выбран дэлегатам III усебеларускага з'езда рабселькораў.

— Усё гэта мяне абавязвае,—гаворыць т. Шадурка,—яшчэ лепш працаваць. А таму да з'езда я намеціў многа чаго зрабіць. Як член сельсовета, я да 25 лютага сваю дваццацідворку абавязваюся вывесці ў перадавыя, выканаць план лесазагатовак і вывазак, культзбор, мясапастаўкі і т. д.

— Як член сельсовета, селькор і рэдактар насценгазеты, я буду дабівацца, каб не толькі калгас «Пуцілавец», але і ўвесь Замагільскі сельсовет у цэлым быў перадавым па падрыхтоўцы і правядзенню веснавой сяўбы і іншых кампаній.

Тав. Шадурка праходзіць завочныя курсы рэдактароў насценгазет пры **«Крестьянской газеце»** і завочныя курсы па жывёлагадоўлі, арганізаваныя **«Калгаснікам Беларусі».** Настойлівая вучоба і работа—зарука таго, што ўзятыя самаабавязацельствы ён з гонарам выканае.

**Калгас «Пуцілавец», Чырвона-Слабодскага раёна.**

# Баявы кліч



*** **нрк. ЗАРУБЕЖНЫ** ***

**«Баявы кліч»** — так называецца насценгазета **брыгады Клавіра** бручнага цэха швэйнай фабрыкі **«Сцяг індустрыялізацыі»**. Гэту баявую назву газета апраўдвае.

Абавязковае выкананне змена-сустрэчнага плана, высокая якасць і дакладнасць пашыву, прытожасць фасона — вось стрыжань заклікy газеты да рабочых сваёй брыгады.

— Наша вытворчае заданне — 330 адзінак. Учора мы выпусцілі 345. Сёння мы абавязаны даць не менш 365 адзінак — зварачаецца да рабочых насценгазета.

Заклік газеты ўспрыймаецца рабочымі. Рабочыя вераць сваёй газеце, яны ведаюць, што калі загаварыў «Баявы кліч», значыць не ўсе яшчэ магчымасці вычарпаны. Канец рабочага дня гэта поўнасцю пацвярджае. На брыгаднай дошцы ярка відна лічба **370.** Гэта рэзультат яшчэ большага ўшчыльнення рабочага часу, яшчэ больш інтэнсіўнай, ударнай работы. Гэта рэзультат баявога заклiку насценгазеты.

**«Вынікі работы прайшоўшага дня»** — пад такім загалоўкам «Баявы кліч» штодзенна піша свае перадавыя артыкулы. Пад гэтым загалоўкам даецца аналіз работы мінулага дня.

> **«Учора,** — піша газета, — **мы працавалі дрэнна. У тт. Фрыдман і Лебедзевай сабраўся вялікі запас, з-за чаго было затрыманне ў рабоце ўсёй брыгады. Нясвоечасовая падача поўфабрыката закройным цэхам таксама моцна падарвала нашу планавую работу. У рэзультаце 30 адзінак недадана».**

Артыкул чыталі ўсе рабочыя брыгады. Прачыталі яго таксама тт. **Фрыдман** і **Лебедзева.** Сігнал насценгазеты давялі да ведама начальніка закройнага цэха. Урок скарыстан. На заўтра ў чарговым перадавым газета піша:

> **«Выпушчаныя нашай брыгадай 380 адзінак замест планавых 330 гаворэць за тое, што мы ўчарашні дзень працавалі куды лепш. Але мы маем усе магчымасці давесці выпуск нашай прадукцыі да 400 адзінак і без адзінай перарoбкі. Пачэснае імя т. СТАЛІНА, заваяванае нашай брыгадай, абавязвае нас да яшчэ лепшай работы».**

Так кожны дзень.

Свой баявы заклік штодзенка кідае жывому чалавеку, які адказвае за правільнае і дакладнае выкананне сваёй аперацыі, бо нават нязначная папраўка, недагляд уносяць дэзарганізацыю ў работу ўсяго канвеера.

Штодзенка не гаворыць аб якасці «наогул». Яна канкрэтна ўказвае на т. Стасенку, якая крыва прышывае заднія шлёўкі, указвае ёй на зробленыя памылкі і патрабуе больш уважлівых адносін да работы.

Сафронава, Драздова, Гаўрыленка рады, калі «Баявы кліч» заносіць іх на чырвоную дошку за добрае выкананне колькасных і якасных паказальнікаў промфінплана. Яны стараюцца яшчэ лепш працаваць, каб іх прозвішчы ніколі не сходзілі з чырвонай дошкі. Стараецца падцягнуцца і Бялевіч, якая папала на чорную дошку. «Баявы кліч» выхоўвае рабочых, укараняе ў іх свядомасць разуменне неабходнасці працаваць толькі ўдарнымі тэмпамі.

Па-баявому змагаецца газета за аўладанне рабочымі тэхнікай свайго працэса, за дасканалае веданне машыны. У заметцы «Зрыўшчык тэхвучобы» востра крытыкуецца Еўменева і Бялевіч, якія дрэнна наведваюць тэхнічную вучобу. Здача тэхэкзамена на «выдатна», барацьба за права атрымання значка «ЗОТ» — тэмы, якія не выходзяць ні на дзень са старонак «Баявога кліча».

Арганізацыя завочных спрэчак па дакладу т. **Молатава** на VІІ з'ездзе советаў — адзін з выдатнейшых момантаў у рабоце штодзенкі. «Баявы кліч» не толькі папулярызаваў прамову т. **Молатава,** даючы важнейшыя вытрымкі з даклада, не толькі з'явіўся ініцыятарам калектыўнай расцрацоўкі даклада ў цэху і дома ў лепшых ударнікаў, але і арганізоўвае сваіх рабочых на яшчэ большае ўзняцце тэмпаў работы, на паляпшэнне якасці прадукцыі.

Прапрацаваўшы даклад т. **Молатава** і інш. матэрыялы з'езда, рабочыя брыгады ўзялі на сябе абавязацельства:

★



**Рэдкалегія насценгазеты брыгады Клевіра бручнага цэха віцебскай швэйнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». У цэнтры рэдактар насценгазеты Маня МАРОЗАВА.**

даць максімальны выпуск сваёй прадукцыі і толькі высокай якасці, ператварыць брыгаду ў суцэльна зотаўскую, замацаваць за сабой назаўсёды завяванае брыгадай пачэснае імя правадыра мільёнаў працоўных т. **Сталіна.**

Праверку выканання ўзятых рабочымі самаабавязацельстваў «Баявы кліч» узяў на сябе. Штодзенна ён асвятляе работу брыгады, папулярызуе работу лепшых, напамінае адстаючым аб узятых імі абавязацельствах. Дні з'езда сталі днямі ўпартай працы, небывалай актыўнасці і энтузіязма ўсяго калектыва брыгады.

І брыгадная дошка паведамляе ўсіх рабочых фабрыкі аб гераічных буднях невялікага калектыва брыгады. Ярказзяюць напісаныя лічбы: **360—380—400** адзінак. У раздзелах «Брак і пераробкі» — пуста. У тым месцы, дзе звычайна значыліся 8-10 чалавек «выдатнікаў», жырным шрыфтам адзначана: **суцэльна зотаўская.**

Але «Баявы кліч» не супакойваецца на поспехах. Як і раней ён заклікае рабочых на заваяванне вышынь промфінплана, на выпуск прадукцыі самай лепшай якасці. Пад гэтым лозунгам штодзенка арганізоўвае рабочых сваёй брыгады на дастойную сустрэчу ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Узор таго, як трэба працаваць, паказваюць рабочым лепшыя ўдарнікі-рабкоры **Сафронава, Хадунькіна, Мацуганава, Гаўрыленка, Бабышкіна і Стальмашова** на чале з рэдактарам «Баявога кліча» камсамолкай **МАНЯЙ МАРОЗАВАЙ.**

# На чале ўзрастаючай актыўнасці мас



Адкрываючы пасяджэнне рэдкалегіі, рэдактар штодзёнкі брыгады 436 фасона фабрыкі «Окцябр» тав. **Каган** сказаў маленькую прамову.

«Таварышы, мы сабраліся сёння на першае пасяджэнне нова-выбранай рэдкалегіі для таго, каб абмеркаваць нашу далейшую работу. Наша брыгада атрымала ганаровае імя правадыра сусветнага пролетарыята тав. **Сталіна.** Гэта абавязвае нас яшчэ лепш працаваць».

Выслухаўшы прамову свайго рэдактара, члены рэдкалегіі тт. **Сінельнікава, Азярыцкая, Лібман** і інш. абяцалі з новымі сіламі і энтузіязмам узяцца за работу.

***

Брыгада 436 фасона — сталінская. З 64 рабочых брыгады амаль усе ўдарнікі. 21 чалавек сістэматычна павышаюць свой тэхнічны ўзровень. План першай дэкады лютага выканан на 127 проц. У брыгадзе шырока разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва. На аснове зменна-сустрэчнага планавання выпрацоўка брыгады з кожным днём павялічваецца. У брыгадзе штодзенна выпускаецца газета, якая з'яўляецца сапраўдным большэвіцкім арганізатарам перамог. За ўсё гэта брыгадзе прысвоена ганаровае імя тав. **Сталіна.**

Штодзёнка 436 фасона можа паслужыць прыкладам для многіх штодзёнак нашых прадпрыемстваў.

Выгляд штодзёнкі вельмі прыемны. Кожны нумар яе належным чынам афармляецца. Найбольш важныя матэрыялы ў газеце абводзяцца яркімі фарбамі. Да гэтага матэрыялу ў першую чаргу прыкоўваецца ўвага чытачоў. Матэрыял друкуецца на машынцы, лёгка чытаецца. Заметкі кароценькія, напісаныя ясной і зразумелай мовай.

Кожны новы нумар газеты сустракаецца ў брыгадзе з вялікай цікавасцю.

Змест газеты не такі, як у многіх штодзёнках. Ганаровае месца ў газеце займаюць вытворчыя пытанні.

Работніца **Віцько** няўважліва адносілася да сваёй аперацыі, не наведвала тэхвучобу. Брак у яе дасягаў 50 проц. Яна тармазіла работу брыгады. Штодзёнка ўзяла Віцько на буксір, некалькі раз пісала пра яе работу. І зараз

**УВЕРСЕ НА ЗДЫМКАХ:** лепшыя ўдарнікі-рабкоры менскай швейнай фабрыкі «Окцябр»: тав. ВЕНГЕРКА—член рэдкалегіі штодзёнкі «Зотаўка», тав. БАРАШКА — рэдактар насценгазеты сталінскай брыгады і рэдактар штодзёнкі закройнага цэха тав. ЛЕВІН.

Віцько не пазнаць. Яна акуратна наладжвае тэхвучобу, працуе без браку. Віцько стала адной з лепшых работніц у брыгадзе.

Шнуроўшчык **Керштэйн** затрымлівае работу ўсёй брыгады, не спраўляючыся з выкананнем сваёй аперацыі. У справу ўмяшалася штодзенка. Была вылучана камісія, якая высвятліла, што тэхнічны працэс арганізаван няправільна, што Керштэйн фізічна не можа справіцца з устаноўленымі нормамі. Па настаянню штодзёнкі тэхналагічны працэс пераглядзян, праведзена разгрузка аперацый, і работа ў брыгадзе значна палепшылася.

Канкрэтнасць — вось характэрная рыса газеты.

**«Рэзерв Артамонава дрэнна ўцюжыць рукавы, асабліва локцевыя швы. 12 пар рукавоў прыходзілася пераўцюжваць».**

Так пісала штодзенка ў адным з апошніх сваіх нумароў. І людзі пачалі лепш працаваць.

Змешчаны матэрыял не астаецца толькі на паперы. Рэдкалегія дабілася таго, што кожны дзень брыгадзір, майстар, начальнік цэха чытае штодзенку. Па змешчаных матэрыялах адразу прымаюць меры. Вынікі рэагавання змяшчаюцца ў штодзенцы. Аператыўнасць і дзейснасць штодзенкі робяць яе баявым барацьбітом за выкананне вытворчага задання, за сацыялістычнае выхаванне людзей, за апраўданне ганаровага звання сталінскай брыгады.

Рознастайна тэматыка штодзенкі.

У кутку, пад загалоўкам **«Наш календар»** мы знаходзім у ёй такія радкі:

**«Мастацкаму тэатру імя Горкага споўнілася 38 год.**

**У кастрычніку 1920 года памёр Джон Рыд, аўтар кнігі «Десять дней, которые потрясли весь мир», член выканкома Камінтэрна.**

**Сёння споўнілася 120 год з дня нараджэння вялікага рускага паэта М. Ю. Лермантава».**

У кожным нумары штодзенкі можна знайсці рад матэрыялаў аб розных падзеях як унутры нашай краіны, так і за рубяжом.

Рабочага тав. **Неймана** зацікавіла пытанне «За што тав. Ракошы пратрымалі 8 год у турме». Гэтае пытанне тав. Нейман задаў рэдкалегіі і на заўтра ў штодзенцы змяшчаецца адказ на заданае пытанне.

У апошніх нумарах штодзенкі рэдкалегія ўзняла пытанне аб чытанні мастацкай літаратуры. У спецыяльна адведзеным кутку ў штодзенцы пад загалоўкам **«Што рабочы чытае»** змяшчаюцца водгукі рабочых брыгады аб прачытаных кнігах.

Тав. Лібман прачытаў кнігу «Республика Шкид» Пантелеева і Белых. Кніга яму вельмі спадабалася. «Кніга, — піша тав. Лібман, — паказвае, як з беспрытульных зладзеяў выйшлі аграномы, інжынеры, рэжысеры. Кніга вельмі цікавая».

Рабочы Каган чытае кнігу Аўдзеенка «Я люблю». Тав. Нейман чытае кнігу Шолахава «Поднятая целина» і т. д.

Так штодзенка ўзнімае цікавасць рабочых да мастацкай літаратуры.

Не прайшоў міма ўвагі штодзенкі і кінофільм **«Кіраў»**. У часе дэманстрацыі гэтага фільма на экранах Мінска штодзенка пісала:

**«...Ты бачыш як праходзіць жыццё любімага чалавека. Ён цесна звязан з масай, яго ўсе любяць. Цяжка забыць такую выдатнейшую фігуру, як СЕРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ.**

**Вось вы бачыце яго ў 1919 годзе на чале Рэввоенсовета 11 арміі...**

**Вось ён сумесна з тав. ВАРАШЫЛАВЫМ суправаджаюць тав. СТАЛІНА на Беламорскім канале...**

**Раптам абрываецца светлае жыццё тав. КІРАВА ад здрадніцкай рукі зі-**



**Тав. КАГАН — рэдактар штодзёнкі закройнага цэха фабрыкі «Окцябр».**

ноўеўскай контррэволюцыі.

Гэты фільм выклікае яшчэ большую нянавісць да ворагаў. Усе павінны прагледзець гэты фільм».

У выніку кожны рабочы брыгады глядзеў гэты фільм.

Або вось штодзенка занялася фізкультурай. На старонках газеты змяшчаецца матэрыял аб лыжнай спартакіядзе. Пасля спартакіяды ў газеце друкуюцца яе вынікі.

Рознастайна і багата тэматыка штодзенкі 436 фасона. Яна знаходзіцца напагадзе ўзрастаючай актыўнасці, культурнага росту рабочых брыгады, і ў гэтым яна можа паслужыць прыкладам для многіх нават друкаваных фабрычна-заводскіх газет.

Масавасць — асноўнае ў рабоце нізавога друка. І ў гэтым напрамку штодзенка 436 фасона можа быць прыкладам для многіх насценных газет. 25 актыўных рабкораў-ударнікаў мае штодзенка. Рабкоры т.т. **Сергеева, Дордзік, Паляшчук, Хайтовіч, Адэрзух** і інш. — лепшыя з лепшых рабочых брыгады, выдатнікі, якія сваёй штодзеннай работай паказваюць прыклады большэвіцкіх адносін да працы.

«Метад нашай работы, — гаворыць рэдактар тав. Каган, — такі: кожны член рэдкалегіі (а іх у нас сем) мае пэўны дзень выпуску газеты. Яго абавязак у дзень выпуску газеты — азнаёміцца з рабкораўскім матэрыялам, які ёсць у рэдкалегіі, пагаварыць з рабочымі і майстрам пра работу брыгады, пагутарыць з парторгам і, калі зусім ясныя становяцца задачы дня, ён сумесна з другімі членамі рэдкалегіі апрацоўвае сабраны матэрыял і выпускае газету».

Парторг тав. **Цукерман** — актыўны рабкор. З вялікай любоўю сочыць яна за работай штодзенкі, кіруе ёю. Ні адно мерапрыемства газеты не праводзіцца без актыўнага падтрымання парторга, без шырокага ўдзелу масы рабкораў і рабочых усёй брыгады.

Штодзенка 436 фасона — гэта газета мас, у якой адлюстроўваецца ўсё ўзрастаючая актыўнасць рабочых нашай соцыялістычнай прамысловасці.

# СТАЦЬ МІЧУРЫНЦАМІ СВАЁЙ СПРАВЫ

Тав. СІНЯКОЎ М.



селькор калгаса імя Красіна, дэлегат III усебеларускага з'езда.

У калгасе **«Ільіч», Бабаўнічскага сельсовета, Капыльскага раёна**, у кастрычніку 1934 года арганізаваўся агразоатэхнічны гурток. Заняткі гуртка сістэматычна наведваюць 32 калгаснікі. Напрамак і задачы гуртка былі вызначаны самімі гуртокўцамі.

— Стаць мічурынцамі сваёй справы — вось наша задача — заявілі даяркі, конюхі, брыгадзіры, інспектары па якасці на сваім першым арганізацыйным сходзе. Тут-жа была ўнесена прапанова выпускаць насценгазету «За агразоатэхвучобу», якая-б дапамагла гурткоўцам замацаваць атрыманыя агразоатэхнічныя веды і практычна ўкараніць агразоатэхніку ў калгасную работу. Сход выбраў рэдкалегію і рэдактара тав. **Була** Сергея. З таго часу ў калгасе «Ільіч» і пачала выходзіць два разы ў месяц газета **«За агратэхвучобу»**.

Гурток арганізаваўся. Паўстала пытанне, з чаго-ж пачаць, што і як вывучаць. І тут на дапамогу прыйшла газета, якая ў першым-жа сваім нумары дае напрамак работы гуртка. Яна прапануе перш за ўсё вылучыць кантрольную карову і арганізаваць над ёй нагляданне. Утварыць жылыя ўмовы, даваць розныя харчы і тым самым на практыцы пераканацца, які патрэбен хлеў і рацыён для каровы, каб яна давала максімум прыбытку ў гаспадарцы. Гэта мерапрыемства павінна быць нагі-

равана на выкананне дырэктыў партыі і ўрада аб развіцці соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

«Па-другое, — піша газета,—трэба вывучаць, як жыве і збудавана расліна, сачыць за надвор'ем, за ростам расліны. Для ўсёй гэтай работы неабходна арганізаваць хату-лабараторыю, дзе можна было-б рабіць доследы і паглыбляць агразоатэхнічныя веды».

Апрача гэтага газета прапануе размеркаваць абавязкі паміж гурткоўцамі. **Лапотка** і прафілакцік **Жылка** павінны вывучаць кармленне і догляд жывёлы, весці доследы кантрольнай каровы. **Наркевіч**—вывучаць птушніцтва, брыгадзіры-паляводы і прымацаваныя да іх калгаснікі—наглядаць у сваіх брыгадах за азімымі пасевамі, інспектары па якасці—весці нагляданне за пакровамі снегу, за вільготнасцю палёў. Аб усіх сваіх доследах і работах гурткоўцы павінны пісаць у газету, каб перадаць свае веды другім.

У гэтым-жа нумары газета «За агразоатэхвучобу» даказвае шкоднасць пасьбы па азімых пасевах. Газета піша:

> «Не глядзячы на неаднаразовыя папярэджанні з боку праўлення, каб спыніць самапас на азімых пасевах, усё-ж такі апошняе назіраецца, а таму рэдакцыя газеты «За агразоатэхвучобу» палічыла неабходным растлумачыць шкоднасць апошняга».

Газета тут-жа апісвае рост азімых і паказвае, у чым шкоднасць спасвання іх. Гэта быў першы крок супроць патравы пасеваў і, калі паасобныя калгаснікі ўсё-ж парушалі ўказанне газеты, яна дабівалася прыцягнення іх да адказнасці, як злосных парушальнікаў агранамічных правіл.

★




**«ЗА АГРАТЭХВУЧОБУ» — насценгазета агротэхгуртка калгаса «Ільіч», Бабаўнянскага сельсовета, Капыльскага раёна.**



**ЕШМАН — рэдактар насценгазеты калгаса імя Молатава, Вяліка-Раеўскага сельсовета, Капыльскага раёна.**

★

Газета «За агразоатэхвучобу» з першых-жа дзён свайго існавання заваявала аўтарытэт у калгаснікаў. Бо яна не толькі распаўсюджвала агразоатэхнічныя веды, але і дабівалася хуткага рэагавання на свае выступленні. Увесь матэрыял газеты разглядаецца на пасяджэнні праўлення калгаса. Па ініцыятыве газеты ў калгасе пачалі абсталяванне хаты-лабараторыі, набылі мікраскоп, лупы, манаміты глеб, калекцыі зерневых пасеваў і агранамічную літаратуру. Калгаснікі, якія і пасля растлумачэння газеты не спынялі травіць пасевы (Калевіч Адам, Несцер Зося, Якушка Міхась і інш.), былі перададзены таварыскаму суду і аштрафованы. Патраўшчыкі-аднаасобнікі былі перададзены сельскаму суду.

А прапанова аб кантрольнай карове была праўленнем таксама падтрымана.

У наступных нумарах газета друкуе матэрыялы аб рабоце гурткоўцаў. Загадчык МТКФ тав. **Лапотка** расказвае

аб рабоце фермы і сваіх доследах.

**«Я склаў для кантрольнай каровы тры розныя рацыёны. Разлічваю карміць адным рацыёнам тры месяцы і ў часе кармлення дасканала да аднаго грама ўлічваць малако кожнага ўдою і раз у тыдзень важыць карову. Для гэтага завёў ужо спецыяльную кнігу ўчота. Кожны месяц буду даваць матэрыял у газету аб папярэдніх выніках даследвання. Карова ўзята вагою 330 кіло, яна дае ў суткі 2 літры малака».**

Тут-жа ўзнімаецца пытанне аб кармушках і аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Асноўную ўвагу—ачыстцы і праверцы насення на ўсхожасць.

— Добрае насенне,—піша газета, — гэта важкія буйныя зёрны.

Газета падрабязна спыняецца на тым, як пазнаць чыстату і засмечанасць насення, як праверыць усхожасць, як пазнаць яго гаспадарчую годнасць.

«Калі, напрыклад, узяць 100 кіло аўса, чыстата якога 90 проц., а ўсхожасць 80 проц.,—растлумачвае газета, —то гаспадарчая годнасць такога аўса будзе 72 проц. (90×80 : 100=72 проц.). Інакш кажучы, добрых ўсхожых зярнят будзе 72 кіло, а няўсхожых і смецця 28 кіло. Ведаючы гаспадарчую годнасць насення, мы можам вылічыць, колькі яго патрэбна на 1 гектар».

Газета «За агразоатэхвучобу» ўзнімае пытанне і аб зборы калгаснікамі попелу. У выніку на агульным сходзе калгаснікі абавязаліся к пачатку веснавой сяўбы сабраць па 1 цэнтнеру попелу з кожнага двара.

Клапоціцца газета і **аб падрыхтоўцы конскага пагалоўя да сяўбы.** Па ініцыятыве газеты ствараецца камісія па агляду коней. У камісію, апрача селькораў газеты, уваходзяць ветэрынарны фельчар і старшыня калгаса. Задача агляду—арганізаваць разбіўку коней у брыгадах па катэгорыях, праверка стану здароўя і жаробнасці коней. Пасля праведзенага агляду газета шырока паказвае яго вынікі. Першая і другая брыгады Жылкі Серафіма і Наркевіча Ігнася паказваюцца як перадавыя, іх коні вышэй сярэдняй і сярэдняй упітанасці, а ў брыгадах Серага Антося і Жылкі Кастуся коні ніжэй сярэдняй упітанасці. Іх газета падцягвае. У гэтым-жа нумары конюх **Малькевіч** звярачаецца да рэдакцыі, каб яна не толькі крытыкавала недахопы брыгад, але і дапамагла, каб канюшня, дзе ён працуе, была светлай. І рэдкалегія яго просьбу выканала. У канюшні былі прарублены вокны.

Асноўная мэта газеты—дапамагчы калгасу праз аўладанне агразоатэхнікай, праз набыццё элементарных аграномічных і зоатэхнічных ведаў кожным калгаснікам, добра падрыхтавацца і правесці веснавую сяўбу, палепшыць догляд коней і ўзняць прадукцыйнасць МТКФ. І трэба сказаць, што з гэтай задачай газета спраўляецца. З 32 гуртжоўцаў 11 прымаюць актыўны ўдзел у газеце. Трэба надалей у работу газеты ўцягнуць і астатніх гуртжоўцаў і сістэматычна без перабояў яе выдаваць.

★



**ЯНКА ЯНКОЎСКІ — рэдактар насценгазеты калгаса «Змена», Бабаўнянскага сельсовета, Капыльскага раёна.**

# ГАЗЕТА НА ФЕРМЕ

## КАЛІ НА ФЕРМЕ ВЫХОДЗІЛА НАСЦЕНГАЗЕТА

**1934 г.** У канцы студзеня і пачатку лютага праходзіць гістарычны XVII з'езд партыі. Рабэтнікі, тэхнічны персанал і служачыя жывёлагадоўчага соўгаса **Рачкавічы, Чырвона-Слабодскага раёна,** прапрацоўваюць рашэнні з'езда, падхапляюць кожнае слова т. **Сталіна.** І тады-ж у адказ на рашэнні з'езда з'явілася самаабавязацельства рабочых соўгаса з канкрэтнымі пунктамі:

**«Замацаваць сябе на рабоце ў соўгасе да канца 2-й пяцігодкі». «Дабіцца павелічэння ўдою малака ад адной каровы з 2.020 да 2.100 літраў малака ў год.**

**Ахапіць усіх рабочых індывідуальным спаборніцтвам».**

На першым плане былі абавязацельствы аб першачарговым і поўным выкананні планаў здачы прадукцыі дзяржаве. Былі прыняты пункты і аб пераводзе МТФ на гаспадарчы разрахунак, і аб ліквідацыі абязлічкі, і аб пераходзе на здзельшчыну і т. д.

Быў і такі пункт:

**«Забяспечыць бесперабойны выпуск на ферме насценгазеты., асвятляючы ў ёй ход выканання ўзятых самаабавязацельстваў».**

Усе вагары партыйна-масавай работы былі пушчаны ў ход, каб забяспечыць выкананне пастаноў XVII партз'езда. Асабліва вялікая ўвага была звернута на арганізацыю работы насценгазеты.

Пасля таго, як былі прыняты самаабавязацельствы, газета ўзялася за праверку іх рэалізацыі. Пачала яна з арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. 20 лютага змяшчаецца самаабавязацельства першай брыгады скотнага двара № 1 і другой брыгады скотнага двара № 2. Першая брыгада абавязваецца надойваць у зімовы перыяд не менш 400 літраў малака, другая—не менш 320 літраў. Тут-жа змешчана, колькі малака кожная даярка павінна надойваць у суткі.

У кожным нумары даецца кароткая зводка, як выконваецца прынятае самаабавязацельства, у кожным нумары



Рэдкалегія лепшай брыгаднай насценгазеты менскага хлебакамбіната: тав. БАНДОЛІН (справа), МІЛЬМАН (злева) і тав. ЦУКЕРМАН.

□ □ □ □ □

паказваюцца перадавікі і адстаючыя.

**«Ілюкевіч Васіль несвоечасова прыступае да кармлення жывёлы. Півавар Зося сістэматычна спазняецца на работу.**

**Ударнікі скотнага двара** — заклікае газета—**вядзіце барацьбу з такімі подырамі, як Ілюкевіч і Півавар» (20 нумар).**

Арганізаваўшы спаборніцтва брыгад, газета не спынілася на гэтым. Яна пачала заклікаць да індывідуальнага спаборніцтва. У нумары за 27 лютага газета піша:

**«Як дабіцца таго, каб кожны рабочы працаваў яшчэ лепш, добрасумленна выконваў свае абавязкі? Для гэтага трэба ўсім рабочым заключыць індывідуальныя ўмовы спаборніцтва.**

**Таварышы, для лепшага выканання плана заключым умовы соцспаборніцтва».**

Гэты заклік знайшоў жывы водгук рабочых. Праз газету лепшая ўдарніца фермы **Зося Грыгаровіч** бярэ на сябе абавязак падрыхтаваць карову-рэкардыстку, дабіўшыся ад яе ўдою не менш 18 літраў малака ў суткі супроць рэкардысткі соўгаса, якая давала 15—17 літраў. На індывідуальнае спаборніцтва яна выклікае даярку **Лакотку**

Вольку. Лакотка выклік прымае. Так было арганізавана індывідуальнае спаборніцтва паміж рабочымі фермы.

Пасля заключэння індывідуальных дагавароў рабочыя сталі працаваць значна лепш. Даярка Зося Грыгаровіч прыходзіла на скотны двор у 3 гадзіны ночы. Яна дабілася ўзорнага догляду прымацаваных да яе кароў: своечасова карміла, паіла, добра чысціла іх. У рэзультаце свае абавязацельства падрыхтаваць рэкардыстку Зося перавыканала. Яна дабілася таго, што з прымацаваных да яе кароў адна давала не 18 літраў, як было ўказана ў дагаворы, а 20 літраў малака ў суткі.

Грыгаровіч трымала самую цесную сувязь з рэдакцыяй насценгазеты. Будучы няграматнай, яна вусна расказвала рэдкалегіі, што робіцца на ферме, падцягвала праз газету адстаючых.

10 рабочых фермы сталі актывам газеты, штодзенна былі звязаны з ёю. Яны забяспечвалі рэгулярна выхад газеты праз дзень.

Вось чаму дырэктар соўгаса тав. **Арэф'еў** з поўнай падставай гаварыў:

— У тым, што соўгас за 1934 г. выканаў план па малаку на 103 проц., па сыру—на 109 проц., вялікая заслуга насценгазеты фермы, якая першая арганізавала спаборніцтва рабочых на выкананне плана, якая дапамагла знішчыць прагулы, пакончыць з гультайствам.

Былы парторг т. **Гарбачоў** многа папрацаваў над тым, каб забяспечыць рэгулярны выхад газеты. Ён пісаў перадоўкі, сачыў за рэагаваннем на заметкі, ён даваў указанні кіраўніку па друку ў соўгасе т. **Падкевічу** (ён-жа рэдактар агульна-соўгаснай насценгазеты), як лепш рабіць газету. На працягу 1934 г. чатыры разы на партарганізацыі заслухоўвалася справаздача рэдкалегіі насценгазеты. Канкрэтна кіруючы, партарганізацыя забяспечыла рэгулярны выхад насценгазеты на ферме.

Так было ў 1934 г. Але не тое стала ў 1935 г.

## ГАЗЕТА СПЫНІЛА СВОЙ ВЫХАД

Парторг т. Гарбачоў у канцы 1934 г. адклікаецца райкомам партыі на іншую работу. Партыйна-масавая работа аслабляецца. Усё радзей выходзяць насценгазеты, а ў студзені гэтага года газета на ферме зусім спыняе свой выхад.

Прысланы парторг т. **Мірановіч,** зняты за бяздзейнасць з работы ў РК ЛКСМБ, бяздзейнічае і ў соўгасе. І зразумела, калі аслабла партыйна-масавая работа на ферме, спыніўся выхад газеты,—а газета з'яўляецца адной з самых дзейсных форм партыйна-масавай работы,—пагоршылася і работа фермы. Аб гэтым выразна гавораць дзве лічбы. Калі ў снежні мінулага года ўдой складаў 29.489 літраў, то ў студзені гэтага года ён знізіўся да 21.327 літраў. І гэта ў той час, калі ў студзені пачаліся ўжо ацёлы, а значыць удой павінен быў значна павысіцца ў параўнанні са снежнем мінулага года.

На ферме кінулі чысціць кароў. Нерацыянальна выдаткоўваюцца кармы. Так, калі хапала брагі, давалі адначасова і коранеплоды, зараз-жа брагі не хапае, бо бровар працуе ў адну заставу—не хапае вады, і каровы ў значнай меры трымаюцца на сене.

А парторг Мірановіч, замест таго, каб дабівацца знішчэння гэтых недахопаў, наладзіць партыйна-масавую работу, цвердзіць:

— Брагі не хапае, вось у чым справа.

***

13 лютага, пасля вялікага перарыву на ферме была склікана шырокая вытворчая нарада. Нарада, на якой апрача спецыялістаў і адміністрацыі прысутнічалі амаль усе рабочыя, падкрэсліла, што справа не толькі ў недахваце брагі. Тут быў выяўлен рад недахопаў арганізацыйнага парадку.

Калі-б насценгазета працавала, як у мінулым годзе, можна было-б своечасова ўскрыць гэтыя недахопы, ліквідаваць іх.

— Калі-б даглядчыцу Науменка, якая спазняецца на работу,—гаворыць дырэктар соўгаса т. Арэф'еў,—прабралі ў газеце, як гэта рабілася ў мінулым годзе, ды яшчэ намалявалі-б карыкатуру, то яна старалася-б не спазняцца на работу. Гэта лепш дзейнічала-б чым адміністратыўныя спагнанні праз загад.

Вось чаму вытворчая нарада рабочых фермы, намеціўшы рад практычных мерапрыемстваў па паляпшэнню работы фермы, прыняла і такі пункт:

**«Забяспечыць рэгулярны выхад насценгазеты на ферме».**

Партарганізацыя павінна неадкладна ажыццявіць гэты пункт.

# Барацьбіт за калгасную дысцыпліну

На 6 рабселькораўскіх картках клімавіцкай раённай газеты **«Комуна»** зарэгістравана за 10 месяцаў 106 заметак адной з лепшых селькорак газеты **Стукала Лены.** Яна піша ў раённую газету аб калгаснай ферме, расказвае аб недахопах у падрыхтоўцы калгаса к вясне: «Белая бяроза гатова к вясне», «Начны рэйд у калгасе імя Сталіна», «Спаборнічаюць на лепшага каня», «Згінулі пчолы», «Чаму не выконваюць нормы», «Змагацца за соцпарушынства», «Гнаць такога конюха», «Разлічваемся з дзяржавай»—вось кароткі пералік яе заметак, змешчаных у раённай газеце. Са 106 заметак, напісаных селькоркай Стукала ў раённую газету, надрукавана 96. Кожная яе заметка — актуальнейшае пытанне з жыцця калгаса імя Сталіна.

**Лена СТУКАЛА —**



**дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў.**

Лена Стукала працуе настаўніцай 4-гадовай школы пры калгасе. Як лепшая селькорка і актыўная грамадская работніца яна выбрана калгаснікамі рэдактарам насценгазеты **«За заможнае калгаснае жыццё».** Адсюль і пачала Лена сваю актыўную барацьбу за арганізацыйна - гаспадарчае ўмацаванне калгаса, за моцную калгасную дысцыпліну.

**Па ініцыятыве рэдкалегіі насценгазеты ў калгасе арганізуецца таварыскі суд.** Дзесяткі заметак з калгаснай насценгазеты, якія выкрываюць асобных лодыраў і прагульшчыкаў, якія бязлітасна б'юць па варварскіх адносінах да каня і выкрываюць раскрадвальнікаў соцыялістычнай маемасці, перадаты рэдкалегіяй для разгляду ў таварыскі суд калгаса.

У калгаснай насценгазеце надрукавана заметка «Гнаць такога вартаўніка». Другая заметка пра Лімарова П., які перамяніў новыя калгасныя калёсы на старыя.

Копіі гэтых заметак рэдкалегія накіроўвае ў таварыскі суд. І літаральна праз два дні склікаецца пасяджэнне таварыскага суда. Вінаватыя прысуджаюцца да штрафу, ім выносіцца грамадскае ганьбаванне.

Таварыскі суд, у члены якога ўведзен і рэдактар насценгазеты, разглядае і выносіць свой прысуд і па асобных заметках з раённай газеты «Комуна». За некалькі месяцаў работы суд разгледзеў ужо звыш 20 спраў.

Увосень, калі ў калгасе зацягнуліся ільнозагатоўкі, рэдкалегія насценгазеты ідзе на ільномяльны пункт і разам з мяльшчыцамі арганізуе **выпуск насценгазеты на ільномяльным пункце.** У газеце ўводзіцца ганаровы спіс лепшых мяльшчыц, друкуецца зводка аб дзённым выкананні заданняў кожнай трапальшчыцай.

Лепшая ўдарніца апрацоўкі ільну **Чумасова Вара** становіцца актыўнай селькоркай і ўводзіцца ў склад рэдкалегіі калгаснай насценгазеты.

Заслугоўвае ўвагі праведзены рэдкалегіяй насценгазеты **паход за чыстату ў калгасных хатах.** Рэдкалегія накіроўвае ў двары калгаснікаў брыгады, якія робяць санітарны агляд, правяраюць, ці чыста ў хаце, ці вымыта падлога, ці вымецен двор. У дні гэтага паходу многія калгаснікі ачысцілі свае двары і хаты ад бруду і смецця, абклеілі сцены абоямі. У Дзянісенкі Дзяніса ў дадатак да новых абояў з'явіліся на вокнах чысценькія фіранкі.

Лена, «наш рэдактар», як яе завуць калгаснікі, рэдагуе калгасную насценгазету больш 2 год. За час яе работы вакол насценгазеты згуртавалася каля 40 лепшых калгаснікаў-ударнікаў — актыўных удзельнікаў нізавога калгаснага друку.

Як лепшая селькорка і рэдактар насценгазеты, комсамолка Лена, член калгаса імя Сталіна, Клімавіцкага раёна, едзе на III ўсебеларускі з'езд рабселькораў.

**Ал.**

«АДНОЙ З АСНОЎНЫХ КРЫНІЦ ФАРМАВАННЯ КАДРАЎ ГАЗЕТНЫХ РАБОТНІКАЎ ПАВІННЫ БЫЦЬ РАБКОРЫ І СЕЛЬКОРЫ ЎДАРНІКІ»

З пастановы ЦК ВКП(б).

# Здзейснілася мая мара

*** Сцяпан ДРОЗД ***

— Сёння маё пісьмо змешчана ў газеце **«Комуніст»**, — з гонарам гаварыў **Баркоўскі Ефім** свайму прыяцелю Рыгору.

Я зайздросціў Ефіму. Зайздросціў таму, што знаёмыя мне хлопцы могуць пісаць у газету. Імкненне навучыцца пісаць у газету не давала мне спакою. І вось аднаго разу я набраўся смеласці — напісаў невялічкае пісьмо ў насценгазету, якая выдавалася пры хаце-чытальні. Потым другое, трэцяе.

Першыя мае заметкі змяшчаліся мала. Але якая вялікая радасць была ў мяне, калі заметка ўрэшце з'яўлялася на старонках насценгазеты.

Гэта было ў 1926 годзе.

Пасля, працуючы на розных работах у Бабруйску, я не пакідаў думкі стаць селькорам. Прабаваў пісаць у «Комуніст». Напісаў адну карэспандэнцыю, але яна не была змешчана (пазней я даведаўся аб яе недахопах). І падумаў я тады: не магу я пісаць у газету, ніколі маіх пісем не надрукуюць на старонках «Комуніста».

Праз пэўны час я пераехаў у Барысаў. Працуючы тут на макароннай фабрыцы я пачаў уваходзіць у работу рабкораў, стаў лепшым ударнікам фабрыкі. І мяне як ударніка і кандыдата КП(б)Б выбіраюць рэдактарам насценгазеты.

Трэба брацца за выпуск насценгазеты, а я нічога ў гэтым не разумею. Але прыйшоў на фабрыку работнік газеты **«Бальшэвік Барысаўшчыны»**, каб праверыць, як працуюць у нас рэдкалегіі нізавых газет. Ён доўга тлумачыў мне, як выпускаць насценгазету, на чым заастраць увагу, за што змагацца. Многае я распытваў сам.

Гэта была мая першая сустрэча і гутарка з рэдакцыйным работнікам. Ён аказаўся зусім не такім, якім я сабе ўяўляў работнікаў друкаваных газет. Я запытаў, ці можна мне аб чым-небудзь напісаць у раённую газету, і атрымаў нечаканы для мяне адказ:

— Ты, як рэдактар насценгазеты і лепшы ўдарнік, не толькі можаш, а павінен пісаць у раённую газету.

І вось у жніўні 1931 года я пішу першае сваё пісьмо ў газету «Бальшэвік Барысаўшчыны». Як сёння памятаю гэты дзень. З нейкай боязню чакаў я вынікаў: змесцяць заметку ці не. Праз дзень-два атрымаў адказ: «Вашу заметку рэдакцыя атрымала, будзе скарыстана ў наступным нумары».

Я некалькі раз глядзеў гэтыя словы, нібы шукаючы, ці няма тут яшчэ чаго.

Газету, у якой было змешчана маё першае пісьмо, я паказваў амаль усім рабочым. А сваю заметку перачытваў некалькі раз. Потым я атрымаў пісьмо ад рэдакцыі, у якім указвалася, аб чым мне трэба пісаць. Усё гэта значна спрыяла майму росту. Я смялей пачаў пісаць у газету, стаў расці як рабкор. Пачаў часцей наведваць рэдакцыю, хадзіў за рознымі тлумачэннямі. З таго часу палепшылася і якасць насценгазеты, якую я выпускаў на фабрыцы.

Праз кароткі час я арганізаваў вакол насценгазеты моцны актыў рабкораў. Завербаваў некалькі рабкораў у газету «Бальшэвік Барысаўшчыны». Замест адной насценгазеты на фабрыцы пачалі выпускаць 6 цэхавых і зменных насценгазет. Я станаўлюся ўдзельнікам арганізуемых рэйдаў рабкораў, пры дапамозе раённай газеты арганізую і праводжу сам рабкораўскія рэйды.

Як лепшага ўдарніка і актыўнага рабкора рэдакцыя «Бальшэвіка Барысаўшчыны» накіравала мяне ў 1932 годзе на трохмесячныя курсы газетных

работнікаў пры Доме партасветы ЦК КП(б)Б (у Прылуках).

Скончыўшы курсы, я астаўся на рабоце ў газеце «Бальшэвік Барысаўшчыны», дзе працую і зараз.

Прапрацаваўшы два гады ў рэдакцыі, я быў накіраван на шасцімесячныя курсы газэтных работнікаў пры КІЖ'ы, дзе значна ўзняў свой тэарэтычны ўзровень. Скончыў курсы, зноў вярнуўся ў «Бальшэвік Барысаўшчыны», у газету, якая мяне выхавала ад насценкора да работніка раённай газеты.

Зараз я працую загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела газеты. У мінулым я—батрак, потым рабочы фабрыкі, насценкор, рабкор, рэдактар насценнай газеты. Гэты свой шлях ад насценкора да адказнага работніка раённай газеты я прайшоў праз школу работы рабселькора-ўдарніка.

**Барысаў, рэдакцыя газеты «Бальшэвік Барысаўшчыны».**

# ЗМЯСТОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

*** **В. В. ШЭМПЕЛЬ** ***

Дванаццацігадовым хлапчуком **Косцік Батурэнка** пашоў зарабляць сабе на кавалак хлеба. На сваёй спіне яму давялося перанесці ўвесь цяжар работы падросткаў на капіталістычным прадпрыемстве.

Прышла Окцябрская рэволюцыя. Перад падросткам Косцікам адкрылася светлая будучыня. Ён разам са старымі рабочымі, якія пракладвалі пруднымі шлях да гэтай светлай будучыні, працуе па аднаўленню тых фабрык і заводаў, што былі разбураны. Ён аддае вытворчасці ўсе сілы, бо ведае, што працуе не на капіталіста, а сам на сябе.



**Былы селькор, зараз лепшы ўдарнік вучобы ў КІЖ'ы т. БАТУРЭНКА**

1920 г. Батурэнка пакінуў заводскі варштат і пашоў абараняць завяваныні бацькоў ад белапольскай інтэрвенцыі. Ён чырвонаармеец слаўнай 27 Омскай дывізіі. З вінтоўкай у руках ён змагаецца з польскімі панамі.

Скончылася грамадзянская вайна. І ў 1923 годзе тав. **Батурэнка ў дэпо станцыі Орша.** Стаяць у дэпо разбітыя паравозы, без труб, без тэндэраў, адзін кацёл ды калёсы. Тут Косцік зразумеў, што рэволюцыя не скончылася, што цяпер задача рэволюцыі заключаецца ў тым, каб зрабіць з гэтых развалін спраўныя паравозы. Зноў бярэцца Кастусь за свой слясарны інструмент.

Прайшло некалькі гадоў. Як прыкладнага ўдарніка, актыўнага грамадскага работніка Косцю Батурэнку **вылучаюць брыгадзірам.**

Ідуць гады, краіна змяняе сваё аблічча. Новымі гігантамі фабрыкамі і заводамі пакрываецца совецкая зямля. Не пазнаць і некалі закураннага, заваленага металёвым ломам дэпо. Дэпо пашырылася, выраслі новыя карпусы, у іх светла і ўтульна. Разам са сваім дэпо расце і Батурэнка. Брыгадзір Батурэнка набывае кваліфікацыю **манцёра.**

Надыходзяць гады першай сталінскай пяцігодкі. Транспарт не паспявае за небывалымі ў гісторыі чалавецтва тэмпамі росту прамысловасці і ўсёй народнай гаспадаркі краіны. Партыя патрабуе ад транспарта ісці нага ў нагу з агульным ростам гаспадаркі. Чыгуначнікі на баявы заклік партыі адказваюць магутнай хваляй соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Словы тав. **Сталіна** аб тым, што «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё», сталі баявым лозунгам для бры-

гады тав. Батурэнкі. Брыгада ўключаецца ва ўсесаюзнае спаборніцтва на лепшае дэпо і лепшую брыгаду.

Узяць пяршынства ва ўсесаюзным конкурсе!—заявілі рабочыя брыгады т. Батурэнкі. І Батурэнка ўпэўнена павёў брыгаду да перамогі.

**Яго брыгада не ведае паўторных рамонтаў.** Тав. Батурэнка дапамагаў адстаючым брыгадам, але калі ён бачыў, што хто-небудзь стараўся ўвільнуць ад работы, ці дрэнна выконваў работу, ён быў бязлітасны ў крытыцы. У гэтым дапамагла яму насценная газета. Батурэнка ўбачыў сілу большэвіцкага друку і палюбіў газету. Гэтая любоў і прывяла яго ў Комуністычны інстытут журналістыкі імя Кірава.

**Ён быў узорам для комуністаў-гаспадарнікаў.** Па яго брыгадзе раўняліся не толькі брыгады дэпо ст. Орша, а і ўсе брыгады чыгуначнага транспарта Совецкага Саюза. Тав. Батурэнка і яго брыгада атрымалі першую прэмію за ўсесаюзным спаборніцтве дэпо. А ўсяго за час работы на транспарце тав. Батурэнка прэміравалі восем раз.

Батурэнка палаў жаданнем вучыцца. Ён не скончыў ніякай навучальнай установы. Прыходзячы з працы дамоў, ён браўся за кніжку і сам працаваў над сабой. Не раз глыбокай ноччу Батурэнка заставалі над кнігай.

Падрыхтаваўшыся, тав. **Батурэнка паступае ў КІЖ імя Кірава.** Цяпер ён адзін з лепшых ударнікаў вучобы, ён гарыць жаданнем як мага хутчэй і глыбей аўладаць тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна, аўладаць тэхнікай газетнай справы. У пачатку цяжка было, адчувалася слабая падрыхтоўка. Але тав. Батурэнка не прывык адставаць. Не адстаў ён і тут — перамог першыя труднасці і хутка пайшоў наперад.

На першым курсе КІЖ'а тав. Батурэнка за ўдарную вучобу прэміруецца бібліятэкай, а за першы семестр другога курса атрымлівае грашовую прэмію і путёўку ў дом адпачынку.

Па тав. Батурэнка раўняюцца іншыя студэнты нашага інстытута.

# Тав. АСТАПЕНКА НЕ ПРЫВЫК АДСТАВАЦЬ

*** А. ДАШКЕВІЧ ***

Звычайна людзі лічаць пачаткам свайго жыцця дзень нараджэння. Аднак нельга не згадзіцца з тав. **Астапенка,** калі ён пачынае сваю біографію не з 1900 года—года яго нараджэння — а на 17 гадоў пазней.

— Я пачаў жыць з Октябрскай рэволюцыі, — гаворыць тав. Астапенка, — да рэволюцыі я працаваў на капіталістычным заводзе, але гэта не было жыццё, гэта былі беспрасветныя дні голаду і катаржнай работы. Толькі калі па краіне зашугала полымя рэволюцыі, я пачаў жыць па-сапраўднаму.



Тав. АСТАПЕНКА, былы селькор, вучыцца ў КІЖ'ы.

Першым крокам у жыцці Алешы Астапенка быў партызанскі атрад. Тут, у цёмных беларускіх лясах, пад свіст варожых куль малады Астапенка пазнаваў жыццё пазнаваў вялікую праўду партыі Леніна-Сталіна.

З партызанскага атрада тав. Астапенка пападае ў чырвонасцяжную 44 дывізію, якая сфармавалася з партызанскіх атрадаў, і астаецца ў радах Чырвонай арміі да 1923 года.

Потым — фронт гаспадарчага будаўніцтва. Тав. Астапенка працуе рабочым на чыгунцы і неўзабаве пасылаецца на работу на вёску — старшынёй сельсовета. На вёсцы ён вядзе вялікую работу.

сярод беднаты, арганізуе беднату і працоўных серадdespite серадняком на бязлітасную барацьбу з кулакамі.

На дапамогу тав. Астапенка прыходзіць друк. Астапенка становіцца селькорам **«Беларускай вёскі»** (цяпер **«Калгаснік Беларусі»**). На старонках газеты ён выкрывае кулакоў, змагаецца з недахопамі ў рабоце мясцовых арганізацый.

Тав. Астапенка стаў адным з лепшых вясковых грамадскіх работнікаў Гомельшчыны. За гэты час ён значна палітычна вырас і ў 1927 годзе ўступае ў партыю.

У 1929 годзе пасля 4-й усесаюзнай нарады рабселькораў ён першым у БССР выступае ў друку з пісьмом, у якім бярэ на сябе канкрэтныя абавязкі па рэалізацыі рашэнняў нарады і выклікае на соцспаборніцтва ўсіх рабселькораў БССР.

Свае абавязацельствы т. Астапенка выканаў з гонарам, за што рэдакцыя «Беларускай вёскі» накіроўвае яго ў Гомельскі рабфак. Аднак, паступіць на рабфак не ўдалося: з-за слабай падрыхтоўкі тав. Астапенка не вытрымаў экзамена.

Але першая няўдача не пахіснула моцнае жаданне т. Астапенка вучыцца. Наадварот, яшчэ з большай энергіяй бярэцца ён за работу над сабой. Пацягнуліся дні, запоўненыя ўзмоцненай работай над кнігай.

Прайшоў толькі год, і тав. Астапенка дабіўся свайго: ён паступіў на газетнае аддзяленне Комвуза Беларусі імя Леніна. Потым ён пераводзіцца ў створаны ў Менску Камуністычны інстытут журналістыкі.

У гэтым годзе тав. Астапенка канчае КІЖ. Ён вядомы ў інстытуце, як адзін з лепшых ударнікаў вучобы, як прыкладны, акуратны студэнт. Прымае актыўны ўдзел у партыйным і грамадскім жыцці інстытута.

— Не прывык я адставаць,—гаворыць Аляксей у гутарцы з таварышамі.—Рашыў не адстаць і ў інстытуце. Я-ж ведаю, што камуністу не да твару адставаць у вучобе.

# Разгортваем вучобу

## Рэдактароў насценных газет

Вучоба рэдактароў насценгазет і рабселькораў — непадзельная частка ўсёй работы раённых газет. Паляпшэнне работы насценнага друку, падрыхтоўка газетных кадраў, выхаванне моцнага селькораўскага актыва ва многім залежыць ад таго, як будзе арганізавана гэта вучоба.

Адной з форм падрыхтоўкі рэдактароў калгасных насценных газет і выхавання рабселькораў з'яўляецца завочная вучоба, арганізаваная «Крестьянской газетой». Гэты від вучобы мы і паклалі ў аснову ў **Тураўскім раёне.**

Атрымаўшы ўказанне ад «Крестьянской газеты», мы адразу пачалі вербаваць завочнікаў. Напісалі пісьмо кожнаму рэдактару насценнай газеты, кожнаму рабселькору аб умовах і значэнні завочнай вучобы, правялі некалькі злётаў рэдактароў і рабселькораў. Усю гэту работу ўвязалі з падрыхтоўкай да III усебеларускага з'езда рабселькораў.

І неўзабаве мелі добрыя вынікі праведзенай работы. У рэдакцыю газеты **«Чырвоная Тураўшчына»** сталі паступаць заявы не толькі ад рэдактароў насценных газет, жадаючых вучыцца, але і ад рабселькораў. 75 лепшых рэдактароў і селькораў ахоплены завочнай вучобай, вучацца выпускаць насценгазеты, пісаць у раённы і цэнтральны друк.

На гэтым мы не спыняемся. Улічыўшы тое, што мы позна прыступілі да заняткаў з завочнікамі, мы правялі з 1 па 10 лютага гэтага года дзесяцідзённы семінар для 32 завочнікаў-рэдактароў калгасных насценгазет. Да пачатку веснавой сяўбы мяркуем правесці другі дзесяцідзённы семінар завочнікаў, якіх не ахапілі першым.

Для сістэматычнай дапамогі завочнікам у іх штодзённай вучобе мы праводзім раз у тыдзень аднадзённыя семінары завочнікаў у кожным сельсовеце.

**Рэдактар газ. «Чырвоная Тураўшчына» БІКАШОЎ.**

# Расце і мацнее

## РАБСЕЛЬКОРАЎСКІ РУХ ЗА МЯЖОЙ




(ПА МАТЭРЫЯЛАХ, АТРЫМАНЫХ НА МОВЕ ЭСПЕРАНТО З РОЗНЫХ КРАІН).

★ ★ ★ Зм. СНЕЖКА ★ ★ ★

Гаворачы аб задачах друку, як легальнага, так і нелегальнага, В. І. Ленін адводзіў яму пачэсную ролю арганізатара працоўных мас для класавых баёў. Рабкораўскі рух быў для яго неразрыўнай часткай барацьбы пролетарыята за сваё вызваленне. Рабкоры — гэта звязваючае звяно паміж працоўнымі масамі і газетай, а праз яе і партыяй.

Ва ўмовах капіталістычнага ладу роля рабкора асабліва адказная. Весь чаму газеты нашых брацкіх компартый асаблівую ўвагу звярачаюць на работу з рабкорамі.

Велізарнейшы вопыт работы з рабселькорамі ў Совецкім Саюзе нашы брацкія комуністычныя партыі выкарыстоўваюць у сябе. У радзе краін мы маем ужо моцны рабселькораўскі рух, ахапіўшы дзесяткі і сотні тысяч пролетарыяў.

На рабкорстве ў насценныя фабрычна-заводскія, у друкаваныя газеты рабочыя навучаюцца газетнай справе, а гэта ў нелегальных умовах дае тым партыйным арганізацыям, якія ўдзяляюць увагу рабселькораўскаму руху, дзесяткі і сотні рабкораў, якія ўжо самі могуць збіраць матэрыял, рэдагаваць яго і выпускаць газету.

Вялікая і ўпартая работа з рабселькорамі, якую праводзіла германская компартыя ўвесь час, зараз паслужыла партыі тым, што, не глядзячы на раз'юшаны крывавы тэрор гітлераўцаў, не глядзячы на масавыя вобыскі, складаную сістэму вышукаў, шпіянажу, арыштаў і даносаў, — жыве падпольны друк у Германіі, жыве і мацнее яго рабселькораўскі рух.

І не толькі ў Германіі. У радзе краін мы маем моцныя і добра арганізаваныя атрады вялікай рабселькораўскай арміі. Ва Францыі, Англіі, Швецыі, Баўгарыі, далёкай Японіі і Кітаі — усюды растуць і мацнеюць рабселькораўскія рады.

Ва ўмовах глыбокага падполля ў Германіі, Польшчы, Баўгарыі яны працягваюць сваю гераічную работу.

Рабселькораўскі рух у радзе краін стаў ужо вялікай сілай. Не дарма буржуазныя ўрады супроць яго прымаюць рад спецыяльных мерапрыемстваў, каб яго знішчыць.

### У ГЛЫБОКІМ ПАДПОЛЛІ

Ва ўмовах крывавага фашысцкага тэрору рабочы клас Германіі вядзе сваю рэволюцыйную барацьбу супроць фашызма, за дыктатуру пролетарыята. У цяжкіх умовах глыбокага падполля жыве комуністычная партыя Германіі і яе цэнтральны орган **«Ротэ фане»**, жывуць дзесяткі і сотні другіх выданняў комуністычнай партыі.

Самы цікавы матэрыял у «Ротэ фане» — гэта пісьмы яе рабкораў.

«Ротэ фане»—да адыходу ў падполле мела вялікую армію сваіх рабкораў на ўсіх прадпрыемствах Германіі. Яна праводзіла з імі велізарную выхаваўчую работу. І зараз «Ротэ фане» з глыбокага падполля тысячамі ніцей звязана са сваімі рабкорамі. Гэта яны на старонках падпольнай «Ротэ фане» ўскрываюць хлусню буржуазнага фашысцкага друку, выкрываюць ілжывыя абяцанні гітлераўскай банды аб хуткай ліквідацыі беспрацоўя, аб палягшэнні становішча рабочага класа.

Рабкоры ўсіх буйнейшых прадпрыемстваў у сваіх пісьмах у «Ротэ фане» выкрываюць хлусню фашысцкіх «праваднроў» і іх прадажнага друку. Рабкоры паказваюць на прыкладах свайго жыцця, як капіталісты грабяць рабочы клас, як рабочы атрымлівае са сваёй зарплаты толькі 50 проц., астатнія вылічваюцца прымусова на розныя ўзносы, адлічэнні, падаткі.

«Ротэ фане» абагульвае гэтыя факты, прыводзіць факты грабежніцкага зніжэння фондаў заработнай платы, факты, якія паказваюць, што беспрацоўе не змяншаецца, што становішча рабочага класа пагоршваецца з кожным днём.

Рабкоры — не толькі актыўныя ўдзельнікі газеты. Яны з'яўляюцца актыўнымі яе распаўсюджвальнікамі. З цэха ў цэх, з кватэры ў кватэру перадаюцца нелегальныя лісты «Ротэ фане». Кожны нумар мае не аднаго, а дзесяткі і сотні чытачоў. Кожны нумар вярбуе дзесяткі новых барацьбітоў для арміі рэвалюцыйнага пралетарыята. Ва ўмовах глыбокага падполля ідзе інтэнсіўная работа германскіх рабкораў. Яны гераічна прадаўжаюць тую работу, якая была пачата да прыходу фашыстаў да ўлады. Ніякія сілы — ні паліцэйскія, ні вайсковыя — у фашысцкай Германіі не могуць заціснуць рот вялікай арміі рабкораў, не могуць заглушыць незмаўкаючы голас праўды і пратэсту.

## У РЭДАКЦЫЮ «ЮМАНІТЭ» З ШАХТ І РУДНІКОЎ.

Кожны дзень сотні пісем прыходзяць з усіх канцоў краіны ў рэдакцыю цэнтральнага органа Комуністычнай партыі Францыі **«Юманітэ»**.

Кожны дзень на старонках «Юманітэ» друкуюцца дзесяткі гэтых пісем. Некалькі тысяч рабкораў звязаны заўсёды з «Юманітэ». Яны расказваюць аб усім, што робіцца на капіталістычных заводах і фабрыках, у глыбі вугальных шахт і руднікоў, у шэрых казармах, на морскіх суднах і нават у казематах французскіх турмаў.

На старонках «Юманітэ» рабкоры неабвержнымі фактамі выкрываюць падрыхтоўку да новай вайны, растучае прыгнечанне і эксплаатацыю працоўных.

«Юманітэ» выпускае цэлыя старонкі з матэрыялаў рабкораў паасобных прадпрыемстваў: Рэно, Шнейдер-Крезо, Сітроен і інш.

Колькасць рабкораўскіх заметак расце з кожным годам і не толькі ў «Юманітэ», а і ва ўсіх комуністычных газетах. У 1930 годзе штомесячна друкавалася каля 100 рабкораўскіх заметак; у 1932 г. гэты лік узрос да 315, у 1934 г. лік рабкораўскіх заметак дасягнуў 550 у месяц у сярэднім.

Французскі ўрад не раз рабіў спробу разграміць рабселькораўскую арганізацыю. Яшчэ ў 1929 г. урад узбудзіў супроць «Юманітэ» і яе рабкораў справу па «разглашэнню сакрэтных вайсковых даных». Два гады назад былі прыцягнуты да адказнасці кіраўнікі рабселькораўскага аддзела «Юманітэ» па абвінавачанню іх у «эканамічным шпіянажы». У абвінаваўчым прыгаворы, па якому кіраўнікі рабселькораўскага руху былі асуджаны на доўгі тэрмін зняволення, указана, што «абвінавача-

INPREKORR
INTERNATIONALE
PRESSE-KORRESPONDENZ

Nr. 16 | 5. Mai |

«Інтэрнацыянальны прэс-карэспандэнт» — падпольны прэс-бюлетэнь, які выдаецца Комуністычнай партыяй Германіі і рассылаецца падпольным комуністычным газетам.

ныя з'яўляліся членамі нейкай арганізацыі рабкораў, якая ёсць нішто іншае як агенцтва міжнароднага шпіянажу».

Ужо гэты факт выразна паказвае, якія метады прымяняе буржуазія для таго, каб знішчыць рабкораўскі рух, прымусіць замоўкнуць рабкораў. Аднак, буржуазія глыбока памыляецца ў сваіх разліках. Кожнае такое наступленне на рабкораў не толькі не аслабляе рабселькораўскага руху, а павялічвае яго рады. Пасля суда рэдакцыя «Юманітэ» атрымала **звыш тысячы** заяў працоўных аб тым, што яны становяцца рабкорамі.

«Юманітэ», «Уврыер», «Авангард», «Ля казерн» і іншыя газеты праводзяць курсы для рабкораў, для больш моцнай сувязі з імі выдаюць спецыяльныя лісты, а «Юманітэ» выдае рабкораўскі бюлетэнь, які асвятляе задачы і становішча рабселькораўскага руху.

На асобных буйных прадпрыемствах, як заводы Рэно, Сітроен і інш., выходзяць свае газеты. Вакол іх групуюцца ўсе рабкоры прадпрыемства. Нізавы друк з'яўляецца добрай школай рабкораўскага руху. Ён забяспечвае больш падрыхтаванымі кадрамі і «Юманітэ», і іншыя камуністычныя газеты.

## НА ВЕРФЯХ І ДОКАХ АНГЛІІ

«Дэйлі Уоркер» — цэнтральны орган камуністычнай партыі Англіі — з'яўляецца арганізатарам рабселькораўскага руху ў Англіі. Імкнучыся да максімальнага зближэння з працоўнымі масамі, імкнучыся як мага лепш выразіць іх запатрабаванні і запросы, «Дэйлі Уоркер» і ўвесь камуністычны друк Англіі шмат працуюць над арганізацыяй сваіх апорных пунктаў на прадпрыемствах і пашырэннем сваёй рабкораўскай сеткі. Ужо ў першы год свайго існавання «Дэйлі Уоркер» атрымаў 7.700 пісем ад рабселькораў. З іх звыш 6 тысяч было апублікавана. З кожным годам удзельная вага рабкораўскага матэрыялу ў газеце ўзрастала. Папулярнасць «Дэйлі Уоркер» расла разам з ростам колькасці рабкораў. Рэдакцыя газеты на вопыце рабкораўскага руху ў СССР дабіваецца ператварэння англійскага рабкораўскага руху ў сапраўды масавы рух. Праводзяцца рабкораўскія канферэнцыі як у Лондане,




Пісьмо настаўніцы татарскага дзіцячага саду, змешчанае ў японскім журнале.

так і іншых буйных прамысловых цэнтрах. Пры правядзенні палітычных кампаній «Дэйлі Уоркер» склікае рабселькораў на спецыяльныя нарады, на якіх абмяркоўваюцца асноўныя практычныя задачы рабселькораў у праводзімай кампаніі.

Работа сярод рабкораў стала ў «Дэйлі Уоркер» неадлучнай часткай усёй работы газеты па ўзняццю яе якасці, аператыўнасці і масавасці.

«Дэйлі Уоркер» выпускае цэлыя старонкі з матэрыялаў рабселькораў, прысвечаныя розным пытанням. Вялікая работа прароблена рабселькорамі Англіі па выкрыццю падрыхтоўкі імперыялістаў да новых войн. Гэта дапамагае кампартыі змагацца супроць небяспекі вайны, за абарону СССР.

На верфях, на доках, у падзямеллі, у шахтах і рудніках, на фабрыках і заводах Англіі — адусюль працягваюцца ніці, звязваючыя рабкораў са сваімі газетамі.

У канцы 1934 года англійскі ўрад правёў законапраект аб «заклiку да паўстання», які фактычна з'яўляецца наступленнем на адносную «свабоду» друку ў Англіі і рашучым крокам наступлення на рабочы друк. Па гэтаму закону падбухторванне ваеннаслужачых да невыканання імі іх абавязкаў

пірад «яго вялікасцю», сумненні салдата ў тым, ці правільна робіць начальства — цягнуць за сабою арышты і канфіскацыю маемасці.

Законапраект дае вялікі козыр у рукі фашысцкіх чыноўнікаў—цэнзараў, якія па прыкладу сваіх германскіх калег выкарыстоўваюць гэты закон для прыдушэння рабочага друку і рабселькораўскага руху.

Аднак, вопыт другіх краін, у тым ліку і Германіі, паказвае, што наступленне рэакцыі не спыніць работы рэвалюцыйнага друку.

## У ГЛЫБОКІМ ПАДПОЛЛІ ЖЫВЕ РАБСЕЛЬКОРАЎСКІ РУХ

Рабселькоры Іспаніі большую частку свайго існавання правялі ў падполлі. Не паспеў яшчэ як след сфармавацца і ўзмацнець рабселькораўскі рух, як на яго абрушылася генеральская дыктатура **Прыма-дэ-Рывера.** Рабселькораўскі рух і ўвесь рабочы друк быў задушан. Лепшыя рабселькоры, пролетарскія журналісты былі пасаджаны ў турмы. Але ва ўмовах падполля разгромлены рабселькораўскі рух хутка аправіўся. Рабселькоры комуністычнага друку дапамагалі партыі, выкрываючы здрадніцкую палітыку так званых «соцыялістаў» і анархістаў, змагацца супроць дыктатуры Прыма-дэ-Рывера.

Рэволюцыя адкрыла новыя перспектывы. Комуністычны друк вышаў з падполля. Рэгулярна выходзіла **«Мундо Обреро».** Праўда, яна часта закрывалася і вымушана была мяняць сваю назву на **«Пролетарскі свет», Слова»** і т. д. Выходзілі і інш. газеты, якія адразу-ж разгарнулі работу па стварэнню кадраў сваіх рабселькораў. Гэтыя кадры рабселькораў дапамаглі комуністычнай партыі, яе друку ў агні паўстанняў, забастовак, сялянскіх хваляванняў весці за партыяй масы, былі звязваючым звяном паміж партыяй і масамі.

Кастрычніцкая барацьба пролетарыята Астурыі і Баскаіі пад сцягамі комуністычнай партыі за ўладу саветаў паказала вялікую перамогу комуністычнай партыі. У рашучы момант барацьбы ўрад Леруса забараніў увесь комуністычны і левы рабочы друк.

Рабселькораўскі рух зноў быў загнаны ў падполле. Крывавая расправа генерала **Очоа** з рабочымі, падняўшымі сцяг барацьбы за советы, на некаторы час расстроіла рады рабселькораў. Аднак, гэта не спыніла работы комуністычнага друку. На змену «Мундо Обрэро» пачала выходзіць нелегальная **«Бандера роха»,** якая ўжо ва ўмовах падполля разгарнула работу па згуртаванню рабселькораўскіх радоў. Рабселькораўскія рады ачысціліся ад усіх хісткіх, няўстойлівых, недысцыплінаваных элементаў і расшырыліся за кошт сумленных рабочых, якія ішлі часова за соцыялістамі і анархістамі і якіх кастрычніцкія падзеі ўпэўнілі ў тым, што іх шлях—шлях пад сцягамі компартыі ў барацьбе за советы ў Іспаніі.

## «ЦЯЖКА ЗМАГАЦЦА З ГАЗЕТАЙ, ЯКУЮ ВЫДАЕ ЦЭЛЫ КЛАС»

Рабселькораўскі рух у Японіі налічвае ўсяго толькі 4 гады. У 1931 годзе рэдакцыя газеты **«Сэккі»** — цэнтральнага органа комуністычнай партыі Японіі — звярнулася да рабочых, працоўных і сялян з заклікам прыняць актыўны ўдзел у рабоце газеты.

«Фабзаўкомы, комуністычныя, комсамольскія ячэйкі — пісала рэдакцыя «Сэккі» — павінны тэрмінова вылучыць адказных работнікаў для арганізацыі масавага рабселькораўскага руху вакол компартыі і ў першую чаргу вакол ЦО партыі».

Гэта выступленне паклала пачатак арганізаванай рабоце партыйных, профсаюзных арганізацый і заводскіх газет па разгортванню рабселькораўскага руху.

Развіццё рабселькораўскага руху ў СССР, яго вопыт выкарысталі японскія таварышы.

Прайшлі 4 гады з дня рашучага павароту на шлях, указаны большэвіцкім друкам Совецкага Саюза. За гэты час рабселькораўскі рух разам з комуністычным друкам перажыў цяжкія этапы сваёй работы, рад праследванняў, арыштаў, разгромаў. Аднак, «цяжка змагацца з газетай, якую выдае цэлы клас». «Сэккі»—на далёкіх астравах Ціхага акіяна ў поўфеадальнай імперыялістычнай краіне, якая ў якасці жандара сусветнага імперыялізма грабіць Манчжурыю і Манголію і рыхтуе напад на СССР, прадаўжае ў падполлі сваю работу па арганізацыі рабочых

мас пад сцягі Комінтэрна. Зараз няма ні аднаго буйнага прадпрыемства, дзе-б не было рабкораўскага гуртка. Цэлыя старонкі «Сэккі» складаюцца з пісьмаў рабкораў. Старонкі, прысвечаныя асвятленню работы паасобных рабселькораўскіх гурткоў, канферэнцый рабселькораў, паказваюць, як за 4 гады вырас рабселькораўскі рух Японіі. І гэта не гледзячы на тую велізарную небяспеку, якая чакае кожнага рабселькора, калі ён будзе выкрыт.

Колькі арыштаў, разгромаў, зверскіх катаванняў у паліцэйскіх засценках ведае яшчэ маладзы 4-хгадовы рабселькораўскі рух Японіі?

Колькі рабселькораў, захвачаных паліцыяй, скончылі сваё жыццё «ад разрыву сэрца», «ад прыпадку», «ад моцных халяванняў»?

Такую смерць вядомага пісьменніка-рабкора **Койобашы** памятаюць добра рабселькоры Японіі.

Кожная камуністычная газета абрасла за 4 гады сеткай сваіх рабкораў-актывістаў.

Рабкоры Японіі праводзяць зараз велізарную работу па выкрыццю падрыхтоўкі Японіі да вайны супроць СССР. Непрымірымая класавая ненавісць да імперыялістычнага разбою гарыць у кожным рабселькору, у кожным радку яго матэрыялаў, якіх усё больш і больш друкуецца зараз на старонках падпольнага камуністычнага друку Японіі.

## ПАД ПАСТАЯННАЙ ПАГРОЗАЙ АРЫШТУ

У Баўгарыі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі рабселькораўскі рух набыў магутны размах. Не гледзячы на чарговыя рэпрэсіі, якім падпаў баўгарскі друк у апошні час, рабселькораўскія камітэты ў гарадах і на прадпрыемствах асталіся існаваць.

Баўгарскія рабселькоры мелі свае органы: **«Рабселькор»,** які быў закрыт пасля выхаду першага нумара, **«Межрабселькор»,** які быў забаронен у 1934 г. Рабселькораўскія аддзелы меліся ў газетах **«Эхо», «Новини», «Работничеcко Дело», «РЛФ», «Единство», «Младежка искра»** і радзе іншых газет.

«Межрабселькор», як і іншыя рабочыя газеты, часта канфіскаваўся. Так, з 32 нумароў 15 было канфіскавана. Гэты факт паказвае, у якіх умовах расце баўгарскі рабселькораўскі рух. Рабселькорам прыходзіцца працаваць ва ўмовах пастаяннай пагрозы арышту. На рэдакцыю «Межрабселькор» было 8 налётаў, у часе якіх была забрана маёмасць і ўсе матэрыялы газеты, 6 рэдактароў арыштаваны і кінуты ў турмы, 12 рэдактароў плацілі штраф, каля 270 рабкораў прыцягнуты да адказнасці па закону «Трох З» (абароны дзяржавы).

Але на кожны ўдар рэакцыі баўгарскія рабочыя адказвалі шырокім падтрыманнем друку. Збіраліся сродкі, і «Межрабселькор» выходзіў зноў. На месца арыштаванага рэдактара становіўся другі. Замест дзесяткаў арыштаваных рабкораў пачыналі пісаць сотні новых. Узнікалі новыя рабселькораўскія гурткі.

Фашысцкі тэрор не ў сілах задушыць рабочы друк, не ў сілах прымусіць замоўкнуць вялікую армію рабселькораў, якая безупынна пашырае свае рады і якіх беражна выхоўвае камуністычная партыя Баўгарыі.

## У СОВЕЦКІМ КІТАІ.

Зараз ва ўсіх раёнах Кітая існуюць свае друкаваныя газеты-шматтыражкі, якія друкуюцца літаграфскім спосабам, насценныя газеты і газеты-лістоўкі. Даволі прывесці факт, што ў адным толькі цэнтральным раёне выходзяць **34** друкаваныя газеты, тыраж якіх з кожным годам расце. Так напрыклад, тыраж газеты **«Дунсе-Джун-Зух»** «Чырвоны Кітай» узрос з 300 экз. да **50 тысяч экземпляраў.** Газеты Чырвонай арміі Кітая маюць зараз прыблізна такі-ж самы тыраж. Гэтыя факты лепш за ўсё сведчаць аб тым, што рабселькораўскі рух у совецкіх раёнах Кітая стаў магутным фактарам росту актыўнасці працоўных мас.

Кожная друкаваная газета, кожная шматтыражка, кожная насценная газе-

та мае сваіх рабселькораў. Асабліва значныя кадры рабселькораў складаюць чырвонаармейцы. Іх удзел вялікі не толькі ў сваім чырвонаармейскім друку, але і ў агульным савецкім і партыйным. «Кожны чырвонаармеец — рабкор» — такі лозунг ваенкораў Савецкага Кітая. І ў вельмі значнай частцы гэты лозунг выконваецца. У самой Чырвонай арміі на паходах, на перадышках — усюды выпускаюцца баявыя лісткі, газеты, памяткі, «ільічоўкі». Няма ні адной часці, ні аднаго падраздзялення, дзе-б не было газеты.

Усе яны робяцца рукамі саміх чырвонаармейцаў з іх-жа матэрыялаў. Такі рост друку і ваенкораў вельмі паказальны для ацэнкі велізарнага палітычнага і культурнага росту Чырвонай арміі Кітая.

Газеты Савецкага Кітая праводзяць велізарную работу са сваімі рабселькорамі. Яны выкарыстоўваюць у сваёй рабоце з рабселькорамі агромадны вопыт бальшэвіцкага друку Савецкага Саюза.

***

Міжнародная сувязь рабселькораў асабліва за апошнія гады значна ўмацавалася. Праводзімая на нацыянальных мовах, або на мове эсперанта, яна ўцягвае ўсё большыя колы рабселькораў у міжрабкораства. У радзе гарадоў мы ўжо маем гурткі такіх міжрабкораў, арганізацыйна звязаных з арганізацыямі пролетарскіх эсперантыстаў-карэспандэнтаў (ПЭК). Мы маем растучы фронт міжрабселькораў.

***

Рабселькораўскі рух расце і мацнее. Яго рост цесна звязан з умацаваннем усяго комуністычнага друку. Рабселькораўскі рух стаў ужо магутным фактарам барацьбы за заваяванне і арганізацыю працоўных мас у іх барацьбе за комунізм.

**ЦЯСНЕЙ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНУЮ СУВЯЗЬ РАБСЕЛЬКОРАЎ ПЕРАДАВОГА АТРАДА БОЛЬШЭВІЦКАГА ДРУКУ—ДРУКУ СССР З РАБСЕЛЬКОРАМІ КОМУНІСТЫЧНАГА ДРУКУ ЗА МЯЖОЙ!**

---

**КОМУНІСТЫЧНЫ ДРУК БРАЦКІХ КОМПАРТЫЙ.** Злева направа: ДЭЙЛІ-УОРКЕР» — газета компартыі Англіі; нелегальная «БАНДЭРА РОХА» («Чырвоны сцяг») — орган компартыі Іспаніі, «ДЭЙЛІ-УОРКЕР» — газета компартыі ЗША і нелегальная «ТРЫБУНА» — орган компартыі Галандыі.






# НАСЦЕННАЯ ГАЗЕТА ЧЭЛЮСКІНЦАЎ

*** І. БАЕЎСКІ ***

**Рэдактар насценгазеты, намеснік начальніка экспедыцыі.**

З першых-жа дзён пахода «Челюскина» было вырашана распачаць выданне насценнай газеты. Назвалі яе «СМП» — «Северный морской путь». Рэдактарам быў я.

На караблі насценная газета выходзіла прыкладна раз у 2-3 тыдні. Мы прыстасоўвалі яе выхад да выдатных этапаў нашага паходу. Задоўга да выхаду газеты намячаўся, калі можна так сказаць, яе стрыжань, яе «гвоздь». Так, калі ў Карскім моры нам давялося правесці некалькі аўралаў для перакідкі вугалю з насавога трума ў бункер, стрыжнем чарговага нумара газеты былі наша аўральная работа і спаборніцтва розных брыгад. Калі выясцілася, што мы зазімуем, у цэнтры газеты была зімоўка: усе матэрыялы былі звязаны з бадзёрым і ўдачным правядзеннем зімоўкі.

Мы імкнуліся прыцягнуць найбольшую колькасць таварышоў у лік рабкораў. Пасля таго, як складаўся прыкладны план чарговага нумара насценгазеты, ён абмяркоўваўся з асобнымі групамі ў складзе экспедыцыі (комсамольцы, цесляры, зімоўшчыкі вострава Врангеля), а таксама з асобнымі таварышамі. Дзякуючы падрабязнаму азнаямленню ўсяго калектыва з планам бліжэйшага нумара, мы мелі вялікую колькасць матэрыялу. Гэтым і тлумачыцца тое, што наша насценгазета з нумара ў нумар усё павялічвалася ў сваіх размерах. У перыяд зімоўкі яна дасягала размераў, адносна якіх чэлюскінцы жартавалі, што хутка нашай насценгазетай прыдзецца разоў два абматаць увесь корпус парахода.

Вялікае значэнне надавалі мы афармленню газеты. Гэтай справай займаўся наш мастак Федя Рэшэтнікаў, яго памочнікам быў матарыст Саша Пагосаў. Рэшэтнікаў перыядычна выпускаў як дадатак да «СМП» нумары «Ледового крокодила».

Вялікае месца ў насценгазеце аддавалі мы літаратурнай старонцы. Тут былі нарысы, фельетоны, вершы, эпіграмы. Галоўцы ўдзел у гэтай старонцы прымаў паэт Сельвінскі. Яго адчаканеныя вострыя эпіграмы моцна запомніліся. Ужо ў першым нумары газеты ён змясціў эпіграмы на Шмідта, Крэнкеля і Громава.

Отто Юльевіч пасля цяжкай работы на працягу дня любіў вечарам адпачыць за «казлом»: так маракі завуць гульню ў даміно. У «казла» Отто Юльевіч гуляў з трыма партнёрамі, і ўсе мы ў сувязі з гэтым трацілі яго ўвагу і яго гутаркі вечарамі. Многім хацелася, каб Отто Юльевіч крыху знізіў тэмпы гульні ў «казла». На дапамогу прышла эпіграма Сельвінскага:

«Пройдет сезон, и Отто гордо
Предъявит миру два рекорда:
Пять тысяч двести восемнадцать
Сплошных челюскинских узла
И семь миллионов триста двадцать
Четыре... партии в «козла».

Эпіграма дасягнула сваёй мэты. Отто Юльевіч доўгі час значна радзей гуляў у даміно, і такім чынам мы атрымалі магчымасць праводзіць з ім вечары.

Сельвінскі і Громаў «канкуруюць» адзін з другім у выкарыстоўванні нашай радыёрубкі. І Сельвінскі піша аб Громаве:

«Да, тяжело свой облик в бронзе высеч.
Сему препятствует небезизвестный рок.
Борис в каюте сеет десять тысяч,
А вот в газете всходит десять строк».

Усімі намі любімі радыст Эрнест Крэнкель уладаў завідпай вартасцю. Яго гутарка часамі была напышлівай і громападобнай, прытым з пэўнай ігрывасцю. Сельвінскі падносіць такую эпіграму:

«Эй, аптекарь! Глуховат ты,
Дай скорее в ухо ваты.
Видишь: грозный как утес,
Входит Кренкель тароватый,
Феерического мата
Пиротехник — виртуоз».

Дасталося і Федзі Рэшэтнікаву. Бадай што гэта быў адзін выпадак, калі яму самому дасталося — звычайна-ж усе па чарзе станавіліся ахвярамі яго дасціпных карыкатур. Адзін з нашых паэтаў выступіў супроць Федзі з такім чатырохрадковым вершам:

«Он ростом не удался: щупл и худ.
Он по професии — художник,
Фигурой он — и заяц и верблюд,

Рисует он, как плохонький сапожник».

Увесь калектыў, у тым ліку і аўтар эпіграмы захапляліся малюнкамі Рэшэтнікава. І рэакцыя чытачоў на эпіграму была станоўчай для Федзі, супроць чаго між іншым і не думаў пярэчыць сам аўтар. Гэта быў сяброўскі шарж вельмі блізкага да яго таварыша.

Нам давялося весці вялікую рэдакцыйную работу. Асноўнай задачай было прыцягненне да газеты матросаў, качагараў, цесляроў. Даводзілася ў доўгай гутарцы з такім будучым рабкорам устанавіць тэму яго артыкула або заметкі, а іншы раз і дапамагчы яму напісаць. Такая работа з нявопытнымі рабкорамі набліжала да газеты ўвесь калектыў.

★

У першыя-ж дні пасля выхаду на лёд было вырашана прадаўжаць выданне газеты. У гэтай справе вялікую актыўнасць праявіў пісьменнік, сакратар нашай экспедыцыі Сергей Семёнаў.

Першы нумар насценгазеты на льдзіне выходзіў пры выключнай актыўнасці амаль усяго лагера. Дзесяткі людзей літаральна кінуліся на работу для насценнай газеты: хто пісаў артыкул, хто збіраў матэрыял для нарыса з жыцця лагера, хто перапісваў матэрыял. Насценная газета, бадай, аказалася каналам для псіхічнай разрадкі. Ужо калі выходзіць газета, значыць нічога асаблівага страшнага ў нашым становішчы няма — так думалі многія. І тое, што кіраўніцтва экспедыцыяй і партыйная арганізацыя знайшлі магчымым заняцца газетай, дзейнічала на калектыў лепш за ўсякія супакойваючыя словы.

Многа думалі над загалоўкам газеты, выпускаемай на дрэйфуючай льдзіне. Хацелася ў загалоўку выразіць нашу волю да перамогі і разам з тым даць загаловак кароткі, ударны, лёгка запамінаючыйся. І мы назвалі газету «Не сдадимся!».

У загалоўку паказалі месцазнаходжанне рэдакцыі: «Чукоцкае мора, на дрэйфуючай льдзіне», і адзначылі, што газета з'яўляецца органам партыйнай ячэйкі, ячэйкі комсамола і бюро судкома.

Мы намецілі выпуск першага нумара газеты на чацверты дзень пасля таго, як зышлі на лёд. Мы яшчэ нічога не ведалі аб мерапрыемствах урада па аказанню нам дапамогі. Было ясна адно: перад намі доўгія дні прабывання на льдзіне. Для таго, каб спакойна і згуртавана пражыць гэты час у лагеры Шмідта, нашаму калектыву патрэбны арганізаванасць, бадзёрасць і ўпэўненасць.

Перадавыя артыкулы Шмідта, Семёнава, Баеўскага клікалі да гэтай арганізаванасці. «Мы на лёдзе, але і тут мы грамадзяне Вялікага Совецкага Саюза, — пісаў Отто Юльевіч, — мы і тут высока трымаем сцяг рэспублікі Советаў. Увесь

свет сочыць за намі. Пакажам-жа як нават у такой выключнай абстаноўцы працуюць савецкія грамадзяне пад кіраўніцтвам свайго ўрада і комуністычнай партыі».

У такім-жа сэнсе, як і Шмідт, выказаўся Сергей Семёнаў у напісаным ім ад імя рэдакцыі перадавым: «Гэта газета, выпускаемая ў такой незвычайнай абстаноўцы, у палатцы на дрэйфуючым лёдзе, на чацверты дзень пасля гібелі «Челюскина», з'яўляецца яркім доказам бадзёрасці нашага духу. У гісторыі палярных катастроф мы мала ведаем прыкладаў, каб такі вялікі і рознахарактарны калектыў, як чэлюскінцы, сустрэў момант смяротнай небяспекі з такой найвялікшай арганізаванасцю, а яго правадыры праявілі-б у гэты момант такую мужную і цвёрдую распарадчасць. Мільёны працоўных усіх краін сочаць за намі з трывогай, з надзеямі, з захапленнем. Няхай ніхто не сумняваецца ў тым, што ў распараджэнні ўрада магутнай соцыялістычнай рэспублікі знойдзецца даволі сродкаў для забеспячэння нам вернай дапамогі».

У артыкуле «Задачы комуністаў» Баеўскі пісаў: «Мы знаходзімся ў абстаноўцы, патрабуючай максімальнай арганізаванасці і дысцыплінаванасці ўсяго калектыва. Мы — сыны вялікай ВКП(б). Труднейшыя нашы іспытанні мы пераможам, і большэвіцкі калектыў «Челюскина» разам з беспартыйнымі ўпіша новую выдатную старонку ў справу асваення Арктыкі, у справу соцыялістычнага будаўніцтва нашага Саюза. Нас, комуністаў, партыя будзе ацэньваць па ўсёй нашай рабоце, асабліва па нашай рабоце і комуністычных паводзінах на дрэйфуючай льдзіне. Будзем варты адабрэння нашай партыі, заслужым гэты найвялікшы для кожнага комуніста гонар».

Увесь астатні матэрыял першага нумара газеты быў падобран так, каб дапамагчы арганізацыі нашага быту і нашай работы.

Гаккель у артыкуле «Вывучым дрэйфуючыя астаткі «Челюскина» унёс прапанову выпаліць надпісы распаленым жалезам на ўсіх дзеравяных частках і рэчах, якія знаходзяцца ў палатках. «У будучым, — пісаў ён, — калі летам 1934 года разбурыцца льдзіна, на якой раскінуўся лагер Шмідта, усе дзеравяныя астаткі «Челюскина» будуць разнесены цячэннем і дрэйфам у розныя бакі. І вось, па таму, дзе будуць вылаўлены гэтыя астаткі, мы зможам меркаваць аб кірунках цячэння і дрэйфа, аб кірунку ветроў і іх хуткасці ў гэтым раёне».

Прапанова Гаккеля спадабалася. Насельнікі лагера выразалі нажом або выпальвалі распаленым дротам напамінанні аб тым, што даны кавалак дрэва або дзеравяная частка знаходзілася ў лагеры Шмідта на дрэйфуючай льдзіне.

Барыс Громаў даў цікавы артыкул аб будаўніцтве чэлюскінцаў. Ён уважліва падабраў усе факты, характарызуючыя нашу работу ў лагеры па наладжанню быту. У прыватнасці, ён падагуліў усё выратаванае намі ў часе аўрала ў момант гібелі карабля. Усе пераканаліся, што выкінутых харчовых і рэчавых запасаў нам хопіць на 2—3 месяцы.

У насценгазеце быў змешчан артыкул старшага механіка Матусевіча — «Работа машыннай каманды ў часе аварыі». У гэтым артыкуле Матусевіч апісаў апошнія гадзіны «Челюскина». Гідрограф Хмызнікаў даў зводку аб месцазнаходжанні лагера і аб дрэйфе льдзіны.

Першыя нумары газеты былі шчодра ўпрыгожаны малюнкамі Федзі Рэшэтнікава. У малюнку «А ці ёсць у вас від на жыхарства» Рэшэтнікаў паказаў Шмідта, недаўменна і вінавата разводзячага рукамі ў адказ на пытанне, з якім звярнулася да яго тройка: нерпа, морж — «прадстаўнік» ледкома і белы мядзведзь — «камендант» ледзяных прастораў Арктыкі.

Будаўніцтва лагера Шмідта Рэшэтнікаў паказаў у малюнку «На змену хацінам мы будуем палац». Рэшэтнікаў нарысаваў дрэнна пастаўленую, правальваючуюся палатку і прыгожы барак з ганарова палыхаючым чырвоным сцягам.

У сяброўскім шаржы «Отто Юльевіч Шмідт у сваёй палатцы» нарысаваны Отто Юльевіч, галава якога выглядае з-пад палатна палаткі, а барада прымёрзла да лёду. Другія малюнкі Федзі — «У палатцы за трапезай», «На камбузе», «Радыёстанцыя» — перадаюць весела і жыва асаблівасці нашага быту і нашай работы.

У гэтым-жа нумары Рэшэтнікавым быў нарысован партрэт загінуўшага Барыса Магілевіча, зьмешчаны над некралогам.

Усе свае малюнкі Рэшэтнікаў выконваў у сапраўды нечалавечых умовах. Яму прыходзілася маляваць або седзячы на карачках, згорбіўшыся, або лежачы на жываце. Не глядзячы на гэта, яны былі выкананы добра. Лагер Шмідта з захапленьнем рэагаваў на гэтыя малюнкі і карыкатуры.

Першы нумар «Не сдадимся!» многа зрабіў для консалідацыі ўсяго нашага калектыва, і мы рашылі прадаўжаць рэгулярнае выданне газеты. У далейшых выпусках рашылі ўвесці аддзел «Апошнія гадзіны «Челюскина». Нам хацелася па свежых слядах аднавіць усё тое, што бачылі і перажывалі многія з нас у тыя трагічныя дзве гадзіны, калі «Челюскин» ішоў на дно.

Будаўніцтва лагера, усе нашы патугі, накіраваныя на паляпшэнне быту, на перабудову палатак мы рашылі адлюстраваць у асобным аддзеле — «Будаўніцтва лагера Шмідта».

Апрача гэтых двух важных аддзелаў у кожным нумары газеты мы давалі весткі аб тым, дзе мы знаходзімся, і бягучую інфармацыю. У матэрыялах пад загалоўкам «Дзе мы знаходзімся» Хмызнікаў знаёміў лагер з заблытанай крывой, па якой дрэйфавала наша льдзіна. У інфармацыі мы давалі весткі аб прасоўванні да нас самалётаў і выратавальных экспедыцый на параходах.

★

Другі нумар нашай насценгазеты «Не сдадимся!» па багаццю матэрыялу нагадваў бясконца доўгія нумары газеты «СМП» на барту «Челюскина». У другім нумары ўжо з'явіліся і фельетоны.

З асаблівай цікавасцю быў спаткаты фельетон «Асколкі нашага быту», які меў падзагаловак — «З алоўкам па лагеру».

Фельетон весела прагульваўся па лагеру. Вось як апісвалася ў ім, напрыклад, палатка навуковых работнікаў.

«З рання да позняй прадсоннай мінуты, з перапынкамі на работу і праглытвання харчоў, заведзены языкі Фэдзі Рэшэтнікава і Аркашы Шафрана...

**«Ради вольности веселой**
**Собралися мы сюда..,**
**Из бокалом полновесных,**
**П'ем с надеждою чудесной...»**

з вялікім густам хорам выводзяць Шафран, Рэшэтнікаў, Хмызнікаў, Семёнаў і інш. Затым Хмызнікаў пачынае сакавіта і з вялікім веданнем справы гаварыць аб смачных рэчах. Тут і ласасінка, і сеўружка, і грыбкі, і свіная адбіўная, і расольнік, і кулябака... Чаго, чаго толькі тут няма. Ва ўсіх цякуць слінкі... Урэшце, хтосьці шалёна пратэстуе супроць утончаных здзекаў».

Або вось апісанне праводжання часу ў палатцы Факідава і Іванова, двух «адшэльнікаў», як іх назвалі ў лагеры:

«Іваноў сіратліва падпёр рукою твар. Ён співае жаласлівыя, сумныя рускія песні: то аб замярзаючым ямшчыку, то аб чыейсці сумнай кончыне. Сталуючыйся Баеўскі чытае ў голас «Гайавату». Факідаў фантазіруе аб тым, як дома, у Ленінградзе, ён будзе есці суп толькі з кубка і толькі відэльцамі, як ён будзе гаварыць пра сваё каханне толькі на ледакольнай мове:

«Я зачараваны вашымі абводамі. Ваш нос — форштэвень. Ваш рот — форпік з крапленнямі. Я хачу трымаць у сваіх стрынгерах вашы шпангоуты».

У гэтым фельетоне і ў радзе далейшых мы сьмяяліся з усёй шчырасцю.

У другім нумары Рэшэтнікаў даў два «вялікія палотны»: «Так могуць аб нас думаць» і «У новых умовах — новая абстаноўка».

У першым малюнку Федзя паказвае, як могуць аб нас, чэлюскінцах на льдзіне, думаць нашы ворагі. Малюнак поўны жахаў: вось нейкі чэлюскінец грызе з голаду сваю ўласную нагу. Вось цэлы карагод з васьмі фігур. Яны спляліся ў круг, прычым кожны з іх імкнецца прагнаць голад пажыраннем свайго сусела. У аднаго праглынуты ўжо абедзве нагі, але гэта не турбуе пацярпеўшага. Ён не адчувае ахапіўшага яго няшчасця і ў сваю чаргу ўчапіўся зубамі ў мяккія часткі трэцяга чэлюскінца. Вось абжора —

аэролог Шпакоўскі падсмажвае на прымусе чыюсці жаночую нагу. Ад голаду і смакавання яды ў Шпакоўскага цякуць слінкі. За ім з-за бугарочка прагна сочыць фатограф Навіцкі.

Нейкі чэлюскінец амаль цалкам ужо праглынут белым мядзведзем. У гэтага мядзведзя з трохлінейкі, пакрытай многапудовымі сасулькамі, цэліцца памочнік загадчыка гаспадаркі Канцын. На трынозе з вёсел вісіць кацёл і ў ім варыцца абед.

Тут-жа Рэшэтнікавым вывешана гумарыстычнае меню:

Першае блюда — «бульён з ботаў».

Другое блюда — «печаныя рамяні».

Больш далікатнае блюда гатуецца ў якасці дыетычнага. Замест бульёна з простых ботаў тут гатуюць біфштэкс з валеных ботаў.

На краі вялікай льдзіны, на якой адбываюцца такія жудасныя рэчы, сядзяць тры панурыя і настарожаныя палярныя вароны і чакаюць той мінуты, калі насельнікі лагера Шмідта стануць іх здабычай.

У такіх цёмных тонах паказаў Рэшэтнікаў тое, што думаюць аб нас нашы ворагі, як хацелася-б ім прадстаўляць лагер Шмідта.

І тут-жа побач Рэшэтнікаў дае адказ усім тым, хто гатоў быў паклёпнічаць на лагер Шмідта. У левым кутку малюнка «У новых умовах — новая абстаноўка» паказан наш харчовы склад. Ён завецца

**«Універмаг «Чырвоны ропак».**
**Усё для жыцця!**

У гэтым універмагу можна атрымаць усё. Тут адпускаюць і валеныя боты і кавалак свініны».

На гарызонце паказана наша славутая вышка. Пад ёй на месцы гібелі «Челюскина» шыльда: «Дрэвараспрацоўкі праводзіць арцёль «раз—два—узялі!».

Так Рэшэтнікаў малюе месца, дзе мы вылаўлівалі ўсё, што асталося пасля гібелі «Челюскина».

У правым верхнім куце намалявана «фабрыка-кухня» і наш барак, абкладзены снегавымі «цаглінамі».

У цэнтры — рысунак, які адлюстроўвае работу вулічнага фатографа. Над рысункам загаловак: «Фота-гістарычны момант. За адну картку адна галета». Фатограф — гэта тоўсты невялікага росту Пётр Карлавіч Навіцкі, увесь ухутаны ў футру і цёплую вопратку. На фоне прымітыўнай вулічнай фотадэкарацыі ён здымае чэлюскінку. На дэкарацыі паказаны: гінучы «Челюскин», перавернуты месяц, дырыжабль імя «Правды», маршыруючыя белыя мядзведзі і нейкая фантастычная гандола з грабцамі.

Абодва гэтыя рысункі Рэшэтнікава літаральна зрабілі фурор.

У гэтым-жа другім нумары «Не сдадимся» былі змешчаны надзвычай цікавыя артыкулы Хмызнікава, Філіпава і Раса аб апошніх гадзінах «Челюскина». На месцы перадавога мы змясцілі радысна ўсхваляваўшую нас тэлеграму Палітбюро, у якой таварышы Сталін, Молатаў, Варашылаў, Куйбышэў, Орджанікідзе і Кагановіч слалі нам сваё гарачае прывітанне і выказвалі упэўненасць у тым, што нашай барацьбой на льдзіне мы ўпісваем у гісторыю асваення Арктыкі новыя слаўныя старонкі.

Мы адзначылі асобным артыкулам XVI гадавіну Чырвонай арміі. Баброў даў артыкул аб аднаўленні культурнай работы, Крэнкель — аб рабоце радыёстанцыі. У артыкуле: «Эканомце паліва» Матусевіч падрабязна паведамляў аб наяўнасці на ільдзіне розных відаў паліва, нам прыходзілася эканоміць паліва, бо мы павінны былі прадбачыць магчымасць зацяжкі выратавання ўсяго насельніцтва лагера на тры, нават на чатыры месяцы. Да гэтага і заклікаў старэйшы механік **Матусевіч.**



Мы выпусцілі ўсяго тры нумары «Не сдадимся!». Калі чацверты нумар быў ужо падрыхтован к выпуску і ўсе матэрыялы сабраны, гераічнымі намаганнямі лётчыкаў лагер Шмідта быў ліквідаваны. Чацверты нумар газеты так і не ўбачыў свету.

Калі першыя два нумары вышлі на добрай белай паперы, то трэці нумар нам давялося выпусціць на цёмна-зялёнай

паперы для абвёртвання. У загалоўку другога нумара Федзя парысаваў нашу сігнальную трыногу з вялікім слупом чорнага дыму, які ўзнімаецца к небу і паказвае месцазнаходжанне лагера Шмідта падлятаючым самалётам. У трэцім нумары ў загаловачным рысунку газеты Рэшэтнікаў даў сілуэт чатырох самалётаў, якія лятуць адзін за другім і спускаюцца на нашу льдзіну.

У трэцім нумары газеты мы змясцілі наш адказ на прывітанне Палітбюро. Мы пісалі:

«Мы спакойны за свой лёс. Мы не сядзім без справы. Наколькі магчыма прадаўжаецца навуковая работа. У лагеры чэлюскінцаў на лёдзе нават тыя, хто ўпершыню апынуўся ў Арктыцы, замацоўваюцца за арктычнай работай. Мы ведаем, што ўсё наша далейшае жыццё і работа павінны быць адказам на ваша прывітанне і вашу дапамогу. Пад вашым кіраўніцтвам наш атрад гатоў да далейшай барацьбы за выкананне пастаўленых задач».

У трэцім нумары мы, як у самай сапраўднай фабрычна-заводскай газеце, адзначылі асобнымі артыкуламі і гадавіну звяржэння самадзяржаўя, і міжнародны жаночы дзень, і дзень Парыжскай комуны. Асобным артыкулам адзначылі месяц з дня гібелі «Челюскина». Сакратар нашага парткалектыва Задораў асвятліў становішча партыйнай работы на лёдзе.

І ў гэтым-жа нумары ў нас былі нашы звычайныя аддзелы: «Апошнія гадзіны «Челюскина», «Дзе мы знаходзімся?», інфармацыя і хроніка лагера.

★

Лагер Шмідта ліквідован. Чэлюскінцы раскінуты па прасторах Чукоткі. Тонкай істужкай цягнуцца яны пешаходам і на сабачых нартах ад Ванкарэма да Уэлена. Большая частка іх ужо знаходзіцца на культбазе ў бухце Лаўрэнція. Надыходзіць дзень 1-га мая. У бухце Лаўрэнція мы выпускаем чарговы нумар нашай насценгазеты, але ён ужо горда завецца «Не сдались!»

Гэты нумар у афармленні рэзка адрозніваецца ад папярэдніх трох нумароў. Тыя нумары пісаліся алоўкам, друкаванымі літарамі, на вузкіх палосках дрэннай паперы, палоскі наклейваліся на аснову насценгазеты. «Не сдались!» мае ўжо іншы выгляд. Увесь нумар надрукован на машынцы. Ён зручны для чытання, вывешан у светлым, цёплым доме. А папярэднія нумары вывешваліся або на адкрытай пляцоўцы, або, калі было ветрана, у цёмным бараку.

★

Выключнае значэнне для ўсіх нас, чэлюскінцаў, мела гэта своеасаблівая газета «Не сдадимся!» Яна з'яўлялася магутным сродкам згуртавання і кансалідацыі ўсяго калектыва. І артыкуламі, і малюнкамі, і рэгулярнай перыядычнасцю свайго выхаду яна ўлівала бадзёрасць і ўпэўненасць у тое, што наша становішча не так цяжкае і небяспечнае, што мы спакойна і ўпэўнена можам чакаць надыходу дзён, калі прылятуць да нас самалёты, так шчодра кінутыя нашым урадам на дапамогу.

Наша газета будзе здабыткам арктычнага музея. Яна будзе помнікам аб лагеры Шмідта, аб сотні савецкіх людзей, якія арганізавана і мужна змагаліся на дрэйфуючых ільдах Чукоцкага мора.

**Намеснік начальніка экспедыцыі, член рэдкалегіі насценгазеты «Не сдадимся!»**

Иваевский

# НАСУСТРАЧ 3-му УСЕБЕЛАРУСКАМУ З'ЕЗДУ РАБСЕЛЬКОРАЎ

**МЕНСК.** Нізавы друк і рабкоры Менска адзначаюць 3-ці ўсебеларускі з'езд рабселькораў новымі вытворчымі перамогамі, арганізацыяй ударных рабкораўскіх брыгад, паляпшэннем работы нізавых газет, узмацненнем іх апаратыўнасці.

Рабкораўская рамонтная брыгада менскага дэпо да дня адкрыцця 3-га ўсебеларускага з'езда выпускае з рамонту адзін паравоз звыш плану.

На заводзе імя Кірава праводзіцца конкурс на лепшую насценную газету. Арганізуецца рабкораўскі семінар, літаратурны гурток.



**ОРША.** Раённая газета **«Ленінскі прызыў»** сустракае 3-ці ўсебеларускі з'езд разгорнутай вучобай рабселькораў. На завочных курсах рэдактароў калгасных і брыгадных насценгазет навучаецца 140 чалавек. Вучобай ахоплены лепшыя селькоры-ўдарнікі. На прадпрыемствах горада Оршы працуюць два рабкораўскія семінары, дзе навучаецца 50 чал.

Для сядзейнасці палітычнаму і культурнаму росту селькораў пры рэдакцыі палітаддзельскай газеты арганізован габінет селькора.



**ПЛЕШЧАНІЦЫ.** Нядаўна ў Хатаевічах праведзена агульнасельсовецкая канферэнцыя селькораў. Канферэнцыя падагуліла вопыт работы нізавога друку, абмеркавала задачы калгасных насценгазет у падрыхтоўцы да сяўбы.

Добра арганізаваная выстаўка насценгазет з'явілася яркай ілюстрацыяй росту і ўмацавання нізавога калгаснага друку. На выстаўцы заслугоўвала асаблівай увагі **фотагазета** калгаса **«Шлях комуны».** Меткая карыкатура, якая трапна б'е класавага ворага, гультая, парушальніка калгаснай дысцыпліны — галоўная зброя рэдкалегіі насценгазеты калгаса **«Шлях комуны».**

Агульнасельсовецкая канферэнцыя селькораў абмеркавала план арганізацыі завочнай вучобы селькораў. 6 селькораў Хатаевіцкага сельсовета ўжо навучаюцца на завочных курсах «Крестьянской газеты».



**АСІПАВІЧЫ.** У сувязі з падрыхтоўкай да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў і перавыбарамі рэдкалегій насценгазет Асіпавіцкі РК КП(б)Б, РВК і рэдакцыя раённай газеты **«Калгасная праўда»** праводзяць конкурс на лепшую насценгазету. Конкурс праводзіцца пад лозунгам — заваяваць месца на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў.

Паказальнікі конкурса: лепшая арганізацыя работы па дапамозе калгасам у падрыхтоўцы да сяўбы, работа нізавых газет і селькораў па ўздыму жывёлагадоўлі, выкананню плана дровалесазагатовак і вывазак. Ва ўмовах конкурса прадугледжваюцца і такія пытанні, як удзел нізавых газет і селькораў у культурным паходзе.

Для прэміравання лепшых насценгазет вызначаны 2 тыс. руб.



**ЧЭРВЕНЬ.** 15-га лютага адбыўся раённы злёт рабселькораў, на якім прысутнічала звыш 200 лепшых селькораў-калгаснікаў і рабкораў тромарцелей. Злёт, адначасова з дакладам аб рабоце 7 усесаюзнага і 11 усебеларускага з'езда советаў, заслухаў справаздачы пяці рэдкалегій калгасных насценгазет. Рэдактар насценгазеты калгаса «Ніўны бор» тав. **Жыдовіч** расказаў злёту аб каштоўнай ініцыятыве рэдкалегіі, арганізаваўшай паход за чыстую хату калгасніка. На выстаўцы нізавога калгаснага друку, арганізаванай на злёце, былі паказаны насценгазеты 20 калгасаў.

На III усебеларускі з'езд рабселькораў выбраны лепшыя селькоры і рэдактары насценгазет: тт. **Зыль, Казёл, Ладуцька Волька.**

# НА ПЕРАВЫБАРАХ РЭДКАЛЕГІЙ НАСЦЕНГАЗЕТ

### ПРЫ АКТЫЎНЫМ УДЗЕЛЕ ЎСІХ КАЛГАСНІКАЎ

**СМАЛЯВІЧЫ.** Калгаснікі Кляніцкага **сельсовета** паказалі выключную актыўнасць у перавыбарах рэдкалегій агульнакалгасных і брыгадных насценгазет. У радзе калгасаў на справаздачна-перавыбарчыя сходы рэдкалегій з'яўлялася ўсё дарослае насельніцтва. **У калгасе імя Сталіна** ў часе справаздачна-перавыбарчага схода былі **выкрыты пралезшыя ў склад рэдкалегіі гультаі і прагульшчыкі Малец, Гурыновіч.** Калгаснікі калгаса **«Полымя»** ўказалі на рад фактаў злачыннага замоўчвання праўленнем калгаса выкрываемых насценгазетай злоўжыванняў у калгасе і патрабавалі паляпшэння справы рэагавання.

Уся справаздачна-перавыбарчая кампанія рэдкалегій насценгазет праходзіць пад лозунгам барацьбы селькораў і нізавога друку за права пасылкі дэлегата на раённы і ўсебеларускі з'езд рабселькораў.

Для дапамогі ў выпуску насценгазет, асабліва ў іх эфармленні, да асобных рэдкалегій зараз прымацаваны настаўнікі.

### ПЕРАВЫБАРЫ АЖЫВІЛІ РАБОТУ НІЗАВОГА ДРУКУ

**ДРЫСА.** Па ўсіх калгасах раёна праходзяцца справаздачна - перавыбарчыя сходы. Перавыбары рэдкалегій нізавога друку ўвязваюцца з падрыхтоўкай нізавых газет і селькораў да веснавой сяўбы і надыходзячага з'езда рабселькораў. Па ініцыятыве раённай газеты **«Звязда на рубяжы»** і яе лепшых селькораў у радзе калгасаў праведзены рэйды па праверцы якасці насення, рамонту інвентару і падрыхтоўкі да вясны каня.

У калгасах імя Сталіна і Красіна ў часе перавыбараў быў падагулен і вывучан вопыт работы рэдкалегій мінулага складу, праверана рэагаванне праўлення калгаса на матэрыялы друку.

Калгаснікі калгаса імя Красіна ў сваіх выступленнях па справаздачы рэдкалегіі адзначылі выключныя заслугі насценгазеты ў барацьбе з класава-варожымі вылазкамі ў калгасе, з гультаямі, прагульшчыкамі. Па заметках ў насценгазеце з калгаса вычышчаны 4 кулакі.

Агульнакалгасны сход калгаса імя Сталіна абмеркаваў вопыт работы сваёй насценгазеты па падрыхтоўцы да сяўбы і рамонту інвентару. Азнаёміўшыся падрабязна з матэрыяламі насценгазеты і вынікамі праведзенага рэйду, сход пастанавіў адкрыць у калгасе яшчэ адну кузню і вылучыць для рамонту машын яшчэ двух кавалёў.

### РЭДКАЛЕГІЯ НОВАГА СКЛАДУ ЗА РАБОТАЙ

**РАСОНЫ.** Калгаснікі Расоншчыны завяршаюць перавыбары рэдкалегій нізавых газет. 17 лютага склікаецца раённы злёт селькораў з удзелам членаў рэдкалегій калгасных насценгазет. Новавыбраныя рэдкалегіі распачалі канкрэтную работу па падрыхтоўцы калгасаў да сяўбы.

Заслугоўвае ўвагі вопыт работы насценгазеты калгаса **«Непераможны».** Усю ўвагу калгаснікаў газета сканцэнтравала зараз на падрыхтоўцы да сяўбы. Барацьба за своечасовы рамонт інвентару, за вывазку гною да 15 лютага, агразоатэхпрапаганда — канкрэтныя ўчасткі работы насценгазеты калгаса «Непераможны».

Рэдкалегія насценгазеты арганізуе прапрацоўку з калгаснікамі рашэнняў VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў советаў, узяла шэфства над малочна-таварнай фермай калгаса.

### ДЭЛЕГАТ РАЁННАГА З'ЕЗДА СОВЕТАЎ — РЭДАКТАР НАСЦЕНГАЗЕТЫ

**ОРША.** Самаправерачныя брыгады, якія былі арганізаваны для праверкі работы рэдкалегій насценгазет мінулага складу, заканчваюць сваю работу. У склад новых рэдкалегій выбраны лепшыя калгаснікі-ўдарнікі, знатныя людзі раёна.

Скончаны выбары рэдкалегій і ў нова-арганізаваных калгасах Крапівенскага сельсовета: «7-мы з'езд советаў», «Пера.

мога», імя Кірава. У калгасе імя Кірава рэдактарам насценгазеты выбран тав. **Шаркевіч** — дэлегат раённага з'езда саветаў.

Вялікую работу па перавыбарах рэдкалегій правяла раённая газета **«Ленінскі прызыў».** 8-га лютага газета змясціла на ўсю старонку цікавыя матэрыялы аб праўдзенні вопытна-паказальных перавыбараў у адной з лепшых насценгазет калгаса **«Чырвоныя Яромкавічы».** Перадаючы гэты вопыт, газета мабілізуе ўвесь нізавы калгасны друк палепшыць сваю работу. «На прыкладу Яромкаўскага сельсовета парторгі калгасаў і сельсаветаў павінны ўзначаліць перавыбарчую кампанію, узмацніць штодзеннае кіраўніцтва рэдкалегіямі і гэтым самым узняць на вышэйшую ступень работу насценнага друку».

## ПЕРАВЫБАРЫ СУСТРЭЛІ НОВЫМ ПРЫЛІВАМ У КАЛГАС

**МСЦІСЛАЎ.** Раённая газета **«Большэвік Мсціслаўшчыны»** друкуе цікавую карэспандэнцыю аб перавыбарах рэдкалегіі насценгазеты калгаса **«Чырвоны араты», Рылаўшчынскага сельсовета.** У выніку праведзенай работы вакол перавыбараў, разгортвання крытыкі і самакрытыкі ўзнялася актыўнасць калгаснікаў. Пад уплывам праведзеных гутарак на сходах і разгорнутай работы вакол перавыбараў 11 аднаасобнікаў падалі заявы з просьбай прыняць іх у калгас.

Селькоры Рылаўшчынскага сельсовета абавязаліся дапамагчы калгасам усю падрыхтоўку да веснавой сяўбы скончыць да адкрыцця з'езда рабселькораў. **У дзень адкрыцця з'езда арганізуюцца пробныя выезды ў поле.**

* * *

# Экскурсія рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Беларусі ў Маскву і Ленінград

У сакавіку гэтага года 20 рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Беларусі паедуць на экскурсію па маршруту Масква—Ленінград.

Экскурсія арганізуецца рэдакцыяй журнала **«Большэвіцкі друк».**

За час прабывання ў Маскве і Ленінградзе рэдактары азнаёмяцца з работай фабрычна-заводскага друку раду буйнейшых маскоўскіх і ленінградскіх прадпрыемстваў.

Вывучэнне вопыта работы газет мяркуецца арганізаваць па асобных пытаннях работы фабрычна-заводскага друку: арганізацыя работы рэдакцыі фабрычна-заводскіх газет, метады работы з рабкорамі і нізавымі брыгаднымі і цэхавымі газетамі і т. д.

Апрача практычнага азнаямлення з работай буйнейшых фабрычна-заводскіх газет Масквы і Ленінграда будзе арганізавана тэарэтычная вучоба экскурсантаў.

У Маскве ў часе прабывання экскурсантаў будзе наладжана сустрэча рэдактароў газет маскоўскіх прадпрыемстваў з рэдактарамі газет Беларусі для абмену вопытам работы. Такая-ж сустрэча будзе арганізавана з рабкорамі завода імя Сталіна, дзе нашы рэдактары змогуць пазнаёміцца з работай заводскага габінета друку.

# ЗМЕСТ






## ПАПРАЎКА

У № 3 журнала «Большэвіцкі друк», у перадавым «Вышэй рэволюцыйную пільнасць» на другой старонцы, (5 радок зверху) укралася памылка. Надрукавана: «пераможна шэфствуючы пролетарыят». трэба чытаць: «пераможна **шэствуючы** пролетарыят».

У № 4 на 16-ай старонцы ў канцы 2-ой калонкі выпаў адзін радок: «пралез у калгас, быў на насадзе каваля».

**РЭДАКЦЫЯ.**

Менск, друкарня „Звязды" Здана ў набор 20—11—35 г. Падпісана да друку 24—11—35
Уп. Галоўлітбела № Г—550 Тыраж 1665 экз. 4 3/4 друк. арк. У арк. 73,600 зн.

